Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 19 (4665) 11 мая 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Памяць зямлі



У весновыя дні мая па барах Беларусі спакойна і велічна зацвітаюць лясныя прыгажуні — фіялкі, фіялетавага колеру, у дымна-попельных венчыках — знакамітая Сон-трава. Старыя людзі заўважылі, што пасля вайны колер яе зрабіўся гусцейшым, асабліва на тых палянах, дзе густа лілася кроў мужных і адважных барацьбітоў за волю і незалежнасць роднага краю.

"І цвіце Сон-трава, і звініць Сон-трава — гэта Памяць Зямлі прарастае. І цвіце Сон-трава, і звініць Сон-трава — нашы душы гукае, гукае…"

Гэта прыпеў вядомай беларускай песні "Лясныя абеліскі" на словы Пятра Ліпая, якая апошнім часам рэдка, на вялікі жаль, прабіваецца на сучасную эстраду і яшчэ радзей гучыць з дынамікаў на плошчах нашых гарадоў нават і ў святочныя дні.

Дзівоснай сілы вобраз: Памяць Зямлі прарастае. Гэта Памяць святая, і над ёй аніхто ўжо не мае ўлады, бо яна склалася з мужнасці патрыётаў, радасцей і нягод людскіх, глыбіннай мудрасці стагоддзяў. Міжнародным алігархам і яго служкамі напісана процьма злосных артыкулаў, мноства шматтомных фаліянтаў, у якіх пераглядаюцца вынікі Другой сусветнай вайны. І лік "прац" гэтак званых гісторыкаў расце і множыцца. Можна, вядома, з белага рабіць чорнае, можна перарабляць штандары і складаць бравурныя маршы, сілячыся прыглушыць імі ўладарны голас Святой Памяці Зямлі.

Марнасць гэтых высілкаў відавочная. Святая Памяць Зямлі застаецца гэткай жа нязменнай, як і магутны закон Матухны-прыроды: следам за бліскучым разлівам пралесак, што выбіліся з-пад снегу, пачынае цвісці па сасновых барах і ўзлесках дзівосная Сон-трава. І звон яе, спавіты пошумам хвояў і шолахам ветру вясновага ў агароджах лясных абеліскаў, якіх безліч на нашай зямлі, набатным гулам б'е ў грудзі жывых, гукае нашы душы, кліча да роздуму пра вялікае і вечнае — святую нашу Перамогу ў сорак пятым.

Шчаслівы, вольны і незалежны будзе заўжды той народ, дзе новыя пакаленні здольныя чуць і разумець тое, пра што звоняць вясною фіялетавыя разлівы Сон-травы. Навучыць іх гэтаму можа толькі мастацкае слова, бо яно здаўна-давён жыло і жыве па тых жа законах, па якіх жыве і Святая Памяць маці-зямліцы, што надзяляе Сон-траву сілаю магутнай і неадольнай. І таму мы, пісьменнікі, заўжды павінны памятаць, усведамляць гэта як святы і найпершы абавязак свой творчы.

**Алесь САВІЦКІ**

# Са святам Перамогі!




*Мінск, 15 мая 1945 г.*
*Фота Уладзіміра Лупейкі*

# Легенда тэатра

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава**

**Ганна Браніславаўна жыла ў цэнтры Мінска, за некалькі кварталаў ад яшчэ аднаго свайго дома — Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. На яго падмостках яна праслужыла паўстагоддзя, сыграўшы каля сотні роляў і стаўшы легендай сцэны ды кумірам не аднаго глядацкага пакалення. А пра такіх куміраў не забываюцца, нават калі завяршыўся іх зямны шлях і змянілася сама эпоха. У 2008-м тэатральная грамадскасць адзначыла стагоддзе з дня нараджэння народнай артысткі БССР Ганны Абуховіч (1908 — 1986). А нядаўна з'явілася нагода зноў прыгадаць яе імя: на тым самым доме па вуліцы Леніна, 5, дзе жыла выдатная актрыса, усталявалі мемарыяльную дошку.**

На ўрачыстае адкрыццё гэтага адмысловага знака ўшанавання памяці яскравай асобы ў гісторыі нашага тэатра прыйшлі яе колішнія сцэнічныя партнёры па творчасці, калегі — артысты-горкаўцы Расціслаў Янкоўскі, Валерый Шушкевіч, Андрэй Душачкін, рэжысёр Барыс Луцэнка, тэатральны крытык Таццяна Арлова, іншыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі сталіцы. Прыйшлі з кветкамі — і з успамінамі...

Пра Ганну Абуховіч ёсць што прыгадаць і расказаць. Моцная духам, валявая, мэтанакіраваная, прыгожая і зычнагалосая — такіх называюць гаспадынямі ўласнага лёсу, а яшчэ — барацьбітамі. Байцамі. Праўда, ваяваць са зброяй у руках ёй не выпадала, але давялося выступаць у складзе франтавога тэатра. А вось пераадольваць жыццёвыя нягоды і змагацца за справядлівасць было наканавана ад нараджэння. Ганна Абуховіч напоўніцу зведала, што значыць сірочае маленства. Гадавалася яна ў жорсткіх, можна сказаць, казарменных умовах маскоўскага прытулку для бяздомных дзяцей. З пачаткам Першай сусветнай вайны ўмовы жыцця зрабіліся там зусім нявыносныя, Ганна апынулася на мяжы бадзяжніцтва, і толькі выпадак дапамог ёй змяніць асяроддзе, уладкавацца ў школу рабочай моладзі, перасяліцца ў інтэрнат. Будучая актрыса не толькі старанна вучылася, але і займалася ў гуртку мастацкай самадзейнасці, захаплялася літаратурай, кіно і асабліва — тэатрам. Няглядзячы на тое, што па накіраванні камсамола яна пачала паспяхова асвойваць прафесію бухгалтара ў Ленінградскім кааператыўным інстытуце і адначасова працаваць па гэтай спецыяльнасці, дзяўчына вытрымала вялікі конкурс на курсы "Кіно-Поўнач" па падрыхтоўцы акцёраў і трапіла ў творчае асяроддзе. Скончыўшы курсы ў 1929-м, яна незвычайным чынам пазнаёмілася з Беларуссю: атрымала запрашэнне на першую ролю ад "Белдзяржкіно" і сыграла камсамолку-работніцу ў фільме "Рубікон", які здымалі ў Бабруйску.

Здымалася Г. Абуховіч і ў іншых стужках, але да працы ў кіно ставілася, можна сказаць, скептычна — толькі як да прыступкі ў храм тэатра. Таму неўзабаве паступіла ў студыю Маскоўскага тэатра рабочай моладзі (ТРАМ), праз тры гады была прынята ў Рэалістычны тэатр. А ў 1937-м адзін з першых мастацкіх кіраўнікоў Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР Дзмітрый Арлоў (партнёр Г. Абуховіч у спектаклях маскоўскага Рэалістычнага тэатра) запрасіў яе на працу ў гэты калектыў. Да вайны Рускі тэатр БССР, як вядома, працаваў у Магілёве. У 1943-м быў аднаўлены ў якасці франтавога, з базай у Маскве, і Ганна Абуховіч вярнулася ў яго трупу. Назаўжды.



*Мемарыяльная дошка ў гонар народнай артысткі БССР Ганны Абуховіч.*

Глыбокі творчы талент, яркі тэмперамент Г. Абуховіч, майстэрства выяўлення псіхалогіі персанажаў праз дакладны малюнак ролі ды багатую галасавую палітру, — усё гэта паспрыяла ўвасабленню разнапланавых сцэнічных вобразаў, якія ўвайшлі ў залаты фонд айчыннага мастацтва і ў свой час паспрыялі трываламу поспеху тэатра імя М. Горкага не толькі сярод мінскай публікі. Сярод значных драматычных і характарных роляў, сыграных незабыўнай актрысай, — Маша ("Тры сястры" А.Чэхава), Ганерылья ("Кароль Лір" У.Шэкспіра), Ганна ("Ганна Карэніна" Л.Талстога), Дзіяна ("Сабака на сене" Лопэ дэ Вегі), Васа, Манахава, Фядосся ("Васа Жалязнова", "Варвары", "Апошнія" М. Горкага), царыца Ірына ("Цар Фёдар Іаанавіч" А. Талстога), Ларыса і Агудалава ("Беспасажніца" А. Астроўскага), гаспадыня Ніскавуоры ("Каменнае гняздо" Х. Вуалiёкі), гераіні п'ес "Матухна Кураж і яе дзеці" Б.Брэхта і "Дом Бернарды Альбы" Ф. Гарсія Лоркі, твораў К. Губарэвіча, В. Палескага, А. Петрашкевіча...

Колькі жаночых лёсаў, колькі характараў пражыта Ганнай Браніславаўнай у тэатры і спакрэўлена з уласным унутраным светам ды няпростым жыццём! І гледачы, якія заспелі спектаклі з удзелам Г. Абуховіч, і яе калегі звяраюць свае згадкі ды ўражанні з успамінамі самой актрысы: з іх створана яе кніга "Полвека на сцене" (1987) — люструнак гісторыі роднага тэатра.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі і чытачоў газеты "Правда" са 100-годдзем з дня выхаду першага нумара. "На старонках вашага легендарнага выдання адлюстравана гераічная гісторыя і жыццё вялікай краіны з яе перамогамі, дасягненнямі і цяжкасцямі. Прыемна, што і сёння "Правда" захоўвае свой высокі ўзровень прафесіяналізму", — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Аляксандра Бяляўскага з 80-годдзем. "Вы і сёння праводзіце ў захапленне прыхільнікаў, сярод якіх нямала жыхароў Беларусі, не толькі выдатнымі ролямі, але і ўласцівымі Вам жыццялюбствам і стойкасцю", — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Юрыя Назарава з 75-годдзем. "Цудоўны акцёр з незвычайна насычанай творчай біяграфіяй, Вы ўмееце зрабіць яркай і запамінальнай любую ролю", — сказана ў віншаванні.

✔ У Ізраільскім Ашдодзе з'явіцца плошча імя Янкі Купалы. Муніцыпалітэт гэтага горада падтрымаў прапанову пасольства Беларусі ў Ізраілі і Усеізраільскага аб'яднання выхадцаў з Беларусі адзначыць юбілей класіка наданнем адной з плошчаў горада яго імя. Ашдод — буйны партовы горад у Ізраілі, шосты па велічыні. Абшчына выхадцаў з Беларусі тут — адна з самых вялікіх.

✔ Паміж Беларускім дзяржаўным універсітэтам і ўніверсітэтам г. Бразілія (сталіца Бразіліі) падпісана пагадненне аб культурным і акадэмічным супрацоўніцтве. Гэтым дакументам прадугледжаны абмен студэнтамі і выкладчыкамі, удзел у канферэнцыях і сімпозіумах, а таксама распрацоўка сумесных навукова-даследчыцкіх праграм.

✔ Першы з'езд беларускіх каталіцкіх СМІ пройдзе ў Гродне ў верасні. Яго плануецца зрабіць адкрытым, сярод запрошаных будуць не толькі рэлігійныя, але і свецкія СМІ, прадстаўнікі не толькі друкаваных, але і аўдыё- і візуальных медыя, інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў. Да ўдзелу ў мерапрыемстве закліканы прадстаўнікі замежных каталіцкіх СМІ, духоўныя іерархі Беларусі і Ватыкана.

✔ Вылучаны ўдзельнікі Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск" і Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу, якія пройдуць падчас XXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Гэта 22-гадовы студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Яўген Доліч і дзве 10-гадовыя вакалісткі — Ліза Мураўёва і Жэня Кляпіцкая.

✔ Першая чарга работ па рэканструкцыі архітэктурнага помніка неаготыкі з элементамі класіцызму — Косаўскага палаца — будзе завершана ў гэтым годзе. Агульнабудаўнічыя работы па другой чарзе могуць заняць яшчэ тры гады. Трэцюю чаргу, праектаванне якой ідзе цяпер і якая прадугледжвае добраўпарадкаванне тэрыторый вакол палаца і аднаўленне двух брам — усходняй і заходняй, — мяркуюць здаць да 2016 года.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Свята паэзіі і музыкі

Валянціна МАСЮК,
фота Віктара Макоўскага

**Вось ужо 15 год па ініцыятыве Уладзіміра Мазго ў Зэльве праводзіцца свята "Сакавіны". Уладзімір Мінавіч дзеліцца з землякамі сваімі здзяйсненнямі і марамі, думкамі і любоўю да малой радзімы. Спачатку сустрэчы з паэтам ладзіліся толькі для вучняў СШ № 2, якую паэт калісьці закончыў. Потым ім стала "цесна" ў сценах адной школы, і свята паэзіі выйшла на раённы ўзровень.**

На Сакавінах традыцыйна прэзентуюцца новыя кнігі, адбываюцца завочныя падарожжы па мясцінах роднага краю, арганізуюцца выстаўкі і агляды. Дзякуючы Уладзіміру Мазго зэльвенскія Сакавіны наведалі многія цудоўныя творцы: Алена Таболіч, Юрка Голуб, Іван Сяргейчык, Ірына Войтка, Мікола Маляўка, Алег Елісеенкаў, Анатоль Грэкаў, Казімір Камейша...

Сёлетні год — не выключэнне. На юбілейныя Сакавіны наш зямляк прыехаў не адзін. З вялікім задавальненнем згадзіўся ўбачыць малую радзіму свайго сябра кіраўнік сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. Яшчэ адзін госць — малады паэт Рагнед Малахоўскі, адказны сакратар часопіса "Маладосць". Упершыню віталі зэльвенскія Сакавіны члены Гродненскага абласнога аддзялення СПБ на чале з яго кіраўніком Людмілай Кебіч.

У зале раённага Дома культуры сабраліся вучні школ пасёлка, мясцовая інтэлігенцыя, ветэраны вайны і працы, работнікі ўстаноў культуры раёна.




Удзельнікі зэльвенскіх Сакавін.

Песняй "Вяртанне" на словы Уладзіміра Мазго адкрыла мерапрыемства Станіслава Прызван. Да слова, песню гэтую яна разам з выкладчыкам дзіцячай школы мастацтваў Аляксандрам Сямёнчыкам напісала 15 гадоў таму спецыяльна для сустрэчы з земляком.

Затым гасцей ад імя літаратурнага аб'яднання "Зоры над Зальвянкай" пры раённай газеце "Праца" вітала галоўны рэдактар выдання Клаўдзія Крэчка. Яна расказала пра літаратурныя праекты, якія рэалізуюцца на старонках газеты, таленавітых зэльвенцаў, творы якіх з вялікім задавальненнем друкуюцца ў паэтычных выпусках, падзякавала Уладзіміру Мазго за супрацоўніцтва.

Першым з гасцей слова трымаў Уладзімір Мінавіч. У гэтым годзе ў яго выйшлі адразу дзве кнігі: для маленькіх чытачоў — зборнік вершаў і казак "Лепшыя сябры", а для дарослых — зборнік паэзіі і прозы "Сакавіны". Паэт парадаваў землякоў некалькімі новымі вершаванымі творамі.

Свае творы чыталі і іншыя госці. З асаблівай прыязнасцю сустрэла зала вершы Міхася Пазнякова. Рагнед Малахоўскі, паводле асабістай традыцыі, уручыў сваю кнігу самай уважлівай слухачцы з залы. Людміла Кебіч акрамя вершаў выканала і некалькі сваіх песень.

На ўспамін пра сустрэчу арганізатары свята ўручылі гасцям сувеніры і запрасілі іх на Сакавіны-2013.

## З нагоды

# Галоўнае — талент і натхненне

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Аляксей Крэчэт, малады таленавіты спявак і кампазітар, рок-музыкант і акцёр спецыяльнага тэатра "Мімоза" прапанаваў сваім прыхільнікам першы сольны канцэрт "Натхненне". Ён выступіў з праграмай выбраных песень на сцэне Маладзёжнага тэатра эстрады.

Канцэрт быў старанна падрыхтаваны і падмацаваны пластычнымі вобразамі, створанымі артыстамі "Мімозы", і відэа, якое нібы рабіла кліп для кожнага музычнага нумара. Гучалі песні, з якімі Крэчэт станавіўся пераможцам на міжнародных фестывалях, вядомыя расійскія і заходнееўрапейскія рок-хіты, песні, словы і музыку да якіх напісаў сам Аляксей, а таксама арыі і дуэты з мюзіклаў.

Яркая сцэнічная знешнасць, моцны, прыгожага тэмбру тэнар, безумоўны драматычны талент — усё гэта стварала вакол героя вечара непаўторную аўру прыцягальнасці, якая цалкам дазволіла б забыцца пра тое, што Аляксей Крэчэт не бачыць. Аляксей, акрамя ўсяго, выступае своеасаблівым абаронцам правоў творцаў-інвалідаў на глядацкую любоў і прызнанне. Запрасіўшы на свой канцэрт дзвюх маладых спявачак, інвалідаў па зроку Наталлю Чарнякову і Патрыцыю Курганаву, ён у чарговы раз даказаў: сапраўднае мастацтва не ведае ніякіх межаў.

## Родны кут

# Кніжнае Дворышча

Бібліятэкі аграгарадкоў актыўна папаўняюць свае фонды новай літаратурай. Акрамя таго, што набываецца за кошт выдаткаваных сродкаў, кнігі паступаюць таксама ад выдавецтваў, аўтараў, мецэнатаў.

11 мая Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў падтрымку рэспубліканскай акцыі "Беларускую кнігу — у рэгіёны" перадае сельскай бібліятэцы аграгарадка Дворышча Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці больш як 300 выданняў.

Фонды бібліятэкі аграгарадка папоўняцца энцыклапедычнай, вучэбнай, мастацкай і дзіцячай літаратурай. Сярод дакументаў — выданні, падрыхтаваныя супрацоўнікамі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэта электронныя дыскі, прысвечаныя жыццю і творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Карскага, М. Багдановіча і інш.

У стосе падораных кніг — тамы "Беларускай энцыклапедыі", "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", "Тэатральнай энцыклапедыі" і іншых даведнікаў, выдадзеных Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі.

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

## Анонс

# Фестываль Ігара Лучанка

Сяргей ШЫЧКО

"Майскі вальс" — так называецца фестываль песні і музыкі на прыз кампазітара Ігара Лучанка, які пройдзе 12 — 13 мая ў горадзе Мар'іна Горка, на Міншчыне.

Ідэя такога творчага праекта вельмі даўно. У Мар'інай Горцы Ігар Міхайлавіч некаторы час вучыўся ў школе. Тут жылі і працавалі яго бацькі. У раённым цэнтры Пухавіччыны захаваўся іх дом, куды і цяпер часта зазірае славуты кампазітар. Многія песні Ігара Лучанка прысвечаны роднай старонцы. У Мар'іну Горку кампазітар прывозіў з выступленнямі зорак беларускай, расійскай эстрады, у свой час пазнаёміў жыхароў горада, раёна з ансамблем "Песняры".

— Фестываль "Майскі вальс", — расказвае начальнік аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама Яўген Сушко, — урачыста адкрыецца ў 9 гадзін раніцы 12 мая на плошчы каля раённага цэнтра культуры. Затым будзе ісці конкурсная праграма. Журы ўзначаліць кампазітар, народны артыст Беларусі Валерый Іваноў. Пераможцу чакае Гран-пры фестывалю — прыз Ігара Лучанка. Будуць адзначаны і тыя, хто зойме прызавыя месцы. На другі дзень, 13 мая, пройдзе вялікі гала-канцэрт пераможцаў конкурсу і ўжо вядомых выканаўцаў. Да нас прыедуць Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Ірына Дарафеева, Уладзімір Правалінскі, Іван Краснадубскі, вакальная група "Чысты голас" і шмат хто яшчэ.

## Канферэнцыі

# Сейбіты і ратаі

Кастусь ЛАДУЦЬКА

**У Маладзечне прайшла навукова-краязнаўчая канферэнцыя да 100-годдзя з дня нараджэння паэтаў Максіма Танка і Пятра Бітэля.**

Арганізатарам сапраўднай навуковай канферэнцыі з'явілася Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя М. Багдановіча. Сёлета (а падобныя творчыя, гісторыка-літаратурныя праекты ладзяцца ў Маладзечне штогод) у форуме пад назвай "Шляхамі сейбітаў і ратаяў" размова ішла пра Максіма Танка і Пятра Бітэля. Вядомасць іх самым цесным чынам спрычыняецца да Маладзечаншчыны, Вілейшчыны.

Удзел у канферэнцыі ўзялі пісьменнікі, навукоўцы, журналісты з Маладзечна, Валожына, Мінска. Тэма даклада Тамары Бярэзінай — "Радавод Пятра Бітэля"; Лідзіі Гардынец — "Паэма Пятра Бітэля «Замкі і людзі»"; кандыдата філалагічных навук, дацэнта кафедры славянскіх літаратур БДУ Таццяны Кабржыцкай — "Крытычнае слова пра прэзентацыю перакладчыцкай украініяны Максіма Танка"; рэдактара часопіса "Куфэрак Віленшчыны" Міхася Казлоўскага — "Максім Танк і Пятро Бітэль: да гісторыі аднаго перакладу"; галоўнага рэдактара газеты "Звязда" Алеся Карлюкевіча — "Кітайскі перакладчык Максіма Танка"; кінарэжысёра Уладзіміра Мароза — "Вільня Максіма Танка"; доктара філалагічных навук Вячаслава Рагойшы — "З сузор'я Купалы і Коласа"; пісьменніцы, супрацоўніцы газеты "СБ. Беларусь сегодня" Людмілы Рублеўскай — "Штрыхі да біяграфіі Максіма Танка".

Па выніках канферэнцыі выдадзены зборнік дакладаў і выступленняў. Можна смела зазначыць, што выданне — добры ўнёсак у агульную скарбонку гісторыі беларускай літаратуры.

*Літабсягі*

# Шлях Адама Багдановіча



**Урачысты вечар "Адам Багдановіч. Шлях да неўміручасці", прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння Адама Ягоравіча Багдановіча, прайшоў у Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце.**

**Ала ІВАШКЕВІЧ**

Нездарма асоба гэтага вядомага навукоўца, этнографа, педагога, гісторыка культуры і бацькі Максіма Багдановіча прыцягвае да сябе ўвагу сучасных даследчыкаў. Аўтар шматлікіх навуковых прац і цікавай мемуарнай спадчыны рэалізаваў свой талент праз слова, якім трапна распавядаў і ўмела карыстаўся і якое нарэшце стала захавальнікам яго таленту, а таксама бліскучым сведчаннем выключнай адукаванасці і захопленасці справай.

На імпрэзе прысутнічалі навукоўцы, багдановічазнаўцы, студэнты, прадстаўнікі СМІ. Распачаў мерапрыемства суарганізатар вечара, адзін са складальнікаў энцыклапедыі "Максім Багдановіч" Мікола Трус. Навуковец шмат распавядаў пра этнаграфічную і літаратурную працу Адама Ягоравіча, асноўныя кірункі яго дзейнасці. Эпісталярную спадчыну сваякоў Багдановіча яскрава праілюстравала ў сваім выступленні галоўны захавальнік фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Ніна Гарэлік. Як сведчаць шматлікія лісты перапіскі, імкненне да ведаў характарызавала не толькі самога Адама Ягоравіча, але і ўвесь славуты род неардынарнай асобы.

Падчас сустрэчы была прадстаўлена стужка-роздум "Максім Багдановіч. Зорны шлях", створаная да юбілею Максіма Багдановіча Беларускім відэацэнтрам. Рэжысёр карціны Андрэй Леўчык зазначыў, што імкнуўся адшукаць нестандартныя падыходы да выяўлення задуманай ідэі. Таму невыпадкова ў фільме ўвага акцэнтавана на складанасцях у адносінах бацькі і сына, пэўных супярэчнасцях у поглядах Адама Ягоравіча і Максіма, як, напрыклад, развіццё беларускага руху, уласна патэнцыял беларускай літаратуры. На мерапрыемстве выступілі таксама сваячка Адама Багдановіча Вольга Дашкоўская, дырэктар і мастацкі кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" Галіна Дзягілева, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Тацяна Шэляговіч.

*Артлінія*

# Максімум гармоніі

**Правядзенне конкурсу на дызайн уваходнага білета ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь ужо стала добрай традыцыяй. Конкурс, што ўпершыню адбыўся ў 2005 годзе, сёлета прайшоў ужо ў восьмы раз пры падтрымцы Замежнага прыватнага прадпрыемства "Брытыш Амерыкан Табака Трэйдынг Кампані". Яго ўдзельнікамі сталі 48 чалавек, якія прадставілі на суд журы 70 работ. Падчас прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным мастацкім музеі краіны стала вядома, як будзе выглядаць уваходны білет у музей у 2012 годзе.**




*Работа Маргарыты Канавалавай — пераможца конкурсу "Дызайн уваходнага білета-2012 у Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь".*

**Марына ВЕСЯЛУХА**

— Уваходны білет, гэты маленькі кавалачак паперы для наведвальніка музея з'яўляецца першай прыступкай камунікацыі са светам мастацтва. А гэты дотык да прыгожага можа стаць знакавай з'явай у жыцці, маленькім адкрыццём, — падчас прэс-канферэнцыі падкрэсліў сябар журы конкурсу, загадчык кафедры графічнага дызайну Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Вячаслаў Семянько. — Таму падчас ацэньвання конкурсных работ улічвалася, наколькі праект звязаны з мастацтвам, з мастацкай дзейнасцю, як канкурсант умее працаваць з графікай, у тым ліку і сучаснымі прыёмамі шматслойнай графікі, наколькі работа адпавядае традыцыі, што ўжо склалася ў галіне афармлення ўваходнага білета ў музей.

Колькасць удзельнікаў конкурсу, маладых і вопытных дызайнераў, ахвотных прадставіць свае работы на суд кампетэнтнага журы, штогод павялічваецца. Яны з крэатывам падыходзяць да вырашэння праблемы, прапануюць нефармальны падыход, але ў той жа час прадстаўляюць патрэбныя вынікі — творы малой графікі. Менавіта гэты аспект працы журы закранула кандыдат мастацтвазнаўства, загадчык аддзела навукова-асветнай дзейнасці Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Ірына Скварцова.

Уладальніка галоўнага прыза конкурсу вызначыла прафесійнае журы. Пераможцам стала Маргарыта Канавалава, якая прадставіла работу з фрагментам карціны Івана Хруцкага. Свайго пераможцу выбралі і наведвальнікі музея. Прыз глядацкіх сімпатый атрымала Вольга Шыманка. Уладальнікам спецыяльнага прыза дырэктара музея стала студэнтка Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Ганна Мельнічук.

— Упэўнены, што перамога ў гэтым конкурсе — вялікі стымул для развіцця любога мастака, — зазначыў Сяргей Буры, сябар журы, загадчык аддзела па карпаратыўных сувязях Замежнага прыватнага прадпрыемства "Брытыш Амерыкан Табака Трэйдынг Кампані". — Больш таго, гэты конкурс можна назваць любімым праектам нашай кампаніі, дзякуючы яму кожны таленавіты чалавек можа заявіць пра сябе, прадэманстраваць свой творчы стыль, атрымаць прафесійную ацэнку і стаць аўтарам "візіткі" Нацыянальнага мастацкага музея краіны.

*Повязі*

# Шэдэўры фестывалю «Кінашок»

**У Мінску ў глядзельнай зале Культурна-дзелавога цэнтра "Дом Масквы" прайшла рэтраспектыва юбілейнай праграмы Адкрытага фестывалю кіно краін СНД і Балтыі "Кінашок".**



Кадр з фільма "Востраў адраджэння".

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

На працягу двух дзён беларуская публіка азнаёмілася з чатырма стужкамі, што ў розныя часы станавіліся прызёрамі фестывалю, якому сёлета споўнілася дваццаць гадоў. Гэтыя фільмы ўздымаюць самыя надзённыя праблемы сучаснасці, прапускаючы іх праз прызму пачуццяў і філасофскіх разважанняў.

Фільм казахскага рэжысёра Рустэма Абдрашава "Востраў адраджэння" (2004), які адкрыўся рэтраспектыўны паказ, у лірычнай форме распавядае пра першае юнацкае каханне, разбітае аб людскую чэрствасць і неразуменне. Безумоўна, гэта гісторыя казахскіх Рамэа і Джульеты 1960-х гадоў. Аднак атмасфера ілжы, ліслівасці, страху — хістакая рэальнасць эпохі, якая дэкларуе скарэнне космасу, а ў наяўнасці мае беднасць простага люду, насаджэнне рускай мовы і культуры ў нацыянальных рэгіёнах, забарона ці замоўчванне твораў лепшых нацыянальных паэтаў, абьякавасць да лёсу высланых з розных мясцін соцень і тысяч "нядобранадзейных", — гэтая атмасфера, у рэшце рэшт, атрафіруе ў моладзі і саму здольнасць кахаць, змагацца за сваё каханне. Савецкай правінцыйнай школе ўдаецца тое, што не ўдалося зрабіць сярэднявечнай Вероне. Героеў фільма разлучаюць, аддаўшы на публічнае асмяянне іх самыя светлыя пачуцці.

Фільм-прытча Уладзіміра Хаціненкі "Макараў" (1993) разважае пра паступовае і, здаецца, заканамернае абясцэньванне чалавечага жыцця ў нашай свядомасці. Дакументальна-паэтычная стужка армянскага рэжысёра Аруцюна Хачатрана "Граніца" (2009) закранае пранізлівасцю. Яе тэма — геаграфічныя граніцы, якія праходзяць па лёсах і душах, пераўтвараючы людзей у ксенафобаў. І толькі прыгажуня-буйваліца, галоўная "гераіня" стужкі, застаецца такой, якой яе стварыў Бог, бо дзікая жывёліна не ведае, што такое граніцы, і вольна ходзіць праз іх.

Усе ўзнятыя папярэдне тэмы ў пэўнай ступені канцэнтруюцца ў фільме Марата Сарулу "Песня паўднёвых мораў" (2009) — вытворчасці чатырох краін (Расія, Казахстан, Германія, Францыя). Два суседы, што жывуць у казахскай вёсцы, Іван і Асан, у роспачы. У Івана нарадзіўся смуглявы сын, а ў Асана — светлатвары і руды. Аднак спантанны доследрадаслоўных дае зразумець бацькам: прычына гэтаму не здрада жонак. Проста мы ўсе — дзеці аднаго сусвету, і карэнні нашы так пераблыталіся, што нельга ўдарыць сякерай па адным, не прычыніўшы болю іншым.

*З-пад пяра*

➤ Навуковая канферэнцыя, прысвечаная 400-годдзю з дня смерці святой праведнай Софіі Слуцкай і 400-годдзю Свята-Петра-Паўлаўскага сабора, прайшла ў Мінску. Форум быў арганізаваны па благаславенні Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта і сабраў у якасці ўдзельнікаў прадстаўнікоў духавенства і навуковай эліты Беларусі. Канферэнцыя пачалася пасля малебну перад мошчамі святой у Свята-Духавым кафедральным саборы. Трыццаць дакладаў было прысвечана гісторыі роду пабornікаў Праваслаўя князёў Алелькавічаў, жыццяпісу святой Софіі Слуцкай, эпосе, у якую яна жыла. Выступленні, зробленыя на высокім навуковым узроўні, плануецца выдаць асобным зборнікам.

**Ірына СЛАНІМСКАЯ**

➤ Віцебскі калектыў "Лявоніха" разам з латвійскай фальклорнай групай песні і танца "Сватра" выступіў на вялікім канцэрце ў Цэнтры латышскай культуры Даўгаўпілса. Знаёмства калектываў адбылося ў сакавіку гэтага года ў Віцебску на сумесным майстар-класе. Творчае супрацоўніцтва аказалася ўдалым. Беларускія і латвійскія народныя песні, харэаграфічныя замалёўкі і вакальна-інструментальныя кампазіцыі выгадна адцянялі адно аднаго, гучалі вельмі гарманічна.

**Паліна ПРЫГОДЗІНА**

➤ Курсанты Магілёўскага вышэйшага каледжа МУС Беларусі сустрэліся са старэйшым магілёўскім празаікам Яўгенам Соцікавым. Прачытаўшы папярэдне яго аўтабіяграфічную кнігу "Страшно вспоминать", яны шмат распытвалі былога малалетняга вязня пра падзеі, апісаныя ў творы. Зацікавіўшыся ўмовамі творчай працы пісьменніка, курсанты пабывалі пазней у яго дома і знялі кароткаметражны фільм пра гэтага неардынарнага чалавека.

**Уладзімір САСНОЎКІН**

➤ У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася вечарына "Свечка любові", прысвечаная памяці Валянціны Коўтун, беларускай пісьменніцы, літаратуразнаўцы, кандыдата філалагічных навук. Вечарына пачалася монаспектаклем паводле твораў В. Коўтун, які прадставіла паэтка і артыстка Вера Буланда. Калегі Валянціны Коўтун па пісьменніцкім цэху дзяліліся ўспамінамі, падкрэслівалі, што творчасць яе патрабуе ўважлівай даследчыцкай працы. Скончылася вечарына старадаўнім народным абрадам — памінальнай куццёй.

**Галіна СІНІЦА**

➤ Музей сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску прапануе дасведчанай публіцы выстаўку "Ханс Баўм. 18 гадоў на Беларусі. Калаж. Асамбляж". Спонсарам выстаўкі выступіла кампанія IBA, у якой да 2011 года працаваў Ханс Баўм. Васямнаццаць гадоў мастак, асноўная адукацыя якога — эканамічная, каардынаваў праекты IBA ў Беларусі. Безумоўна, шэраг яго мастацкіх прац, прадстаўленых на выстаўцы, навеяны рэаліямі жыцця ў нашай краіне. Фармальны эксперымент з прадметамі штодзённага карыстання ў выніку пераўтвараецца ў цікавыя, не пазбаўленыя глыбокіх асацыяцый і філасофскіх абагульненняў артаб'екты.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

*Госці з «Маладосці»*

# Далёкі продак

**Паступіў у продаж красавіцкі нумар часопіса "Маладосць" — аднаго са старэйшых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных ілюстраваных выданняў Беларусі. У ім, як заўсёды, абазнаны чытач знойдзе шмат цікавага: аповесці, апавяданні, вершы, публіцыстычныя, краязнаўчыя, крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы…Свята Камаедзіца, лейтматыў якога — абуджэнне прыроды, нараджэнне лета, прысвечана мядзведзю. Да таго ж нашы прадзеды лічылі гэтую жывёлу сваім першапродкам, духам-ахоўнікам, увасабленнем душы і боствам. А яшчэ мядзведзяў у нас настолькі "ачалавечвалі", што навучалі іх у спецыяльнай "акадэміі". Пра гэта і іншыя цікавыя факты чытайце ў матэрыяле Ірыны Клімковіч "Мядзведзюхна, мой бацюхна…" пад рубрыкай "Этнасфера". А вашай увазе — урывак з артыкула.**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць"**



*Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы.*

Ірына КЛІМКОВІЧ

Высвятляецца, што галоўным героем старажытнага вясновага свята Камаедзіца быў мядзведзь. Чаму ён? Адказ на гэтае пытанне трэба шукаць у каменным веку, яшчэ ў неаліце, а магчыма, і глыбей. Мядзведзь у тыя часы быў асноўнай здабычай, калі не лічыць, вядома, мамантаў, але іх, як вы памятаеце, вельмі хутка знішчылі. Навукоўцы, якія праводзілі раскопкі ў Баварыі, Сілезіі, Швейцарыі, знаходзілі мноства чарапоў мядзведзяў. У Беларусі амулеты з іклаў мядзведзя знойдзены на многіх гарадзішчах і свяцілішчах жалезнага веку, зуб і кіпцюры адкапаны ў радзіміцкім кургане. А на адным са свяцілішчаў была знойдзена вялікая гліняная пасудзіна ў выглядзе галавы мядзведзя з шырока разяўленай пашчай. Яна месцілася каля аднаго з цэнтральных ідалаў багіні.

Як вядома, мядзведзя раней не толькі ўшаноўвалі — на яго палявалі, і таму з ім звязвалі абрады паляўнічай магіі. Да прыкладу, мансі, калі забівалі і з'ядалі мядзведзя, ставілі яго чэрап на ганаровае месца ў сваіх жытлах, упрыгожвалі яго стужкамі і каляровымі анучкамі ў спадзяванні атрымаць ад яго ласку. У народаў, якія жывуць па берагах Амура і ў паўночнай частцы вострава Сахалін, звычай святкаваць "мядзведжы дзень" існаваў да канца мінулага стагоддзя. Тут выloўлівалі медзведзяня, у лесе будавалі яму хатку і на працягу двух гадоў гадавалі яго. Потым, пасля адпаведных абрадаў і танцаў, звера забівалі і калектыўна з'ядалі. Лічылася, што гэта надавала чалавеку моц і адвагу — тое, чым, уласна, і валодае сам мядзведзь. Апроч таго, гэта забяспечвала ў далейшым паспяховае паляванне.

Эвенкі таксама вельмі паважалі мядзведзя, лічылі яго сваім далёкім продкам і называлі дзядулем. І ў той жа час палявалі на яго. А каб як-небудзь выкупіць сваю правіну, каля тушы мядзведзя паляўнічыя здзяйснялі ўрачыстыя абрады, прасілі ў жывёлы прабачэння. Потым тушу не менш урачыста неслі ў сяленне, дзе абрады і малітвы паўтараліся. Мяса з'ядалі, а косткі не выкідвалі, а ўсе да адной збіралі ў анатамічным парадку і закопвалі ў зямлю. Верылі, што дзякуючы гэтым косткам мядзведзь адродзіцца наноў. У некаторых плямёнах паўночнаамерыканскіх індзейцаў таксама існаваў звычай прасіць прабачэння ў забітага мядзведзя. Паляўнічы ўстаўляў у пашчу забітага звера запаленую люльку, цярпліва чакаў, пакуль той "папаліць", і прасіў жывёлу не крыўдзіцца.

Дарэчы, паляўнічы падчас ловаў на звера, а потым і падчас магічных рытуалаў сам апранаў мядзведжае футра. Пазней гэта сталі рабіць вешчуны-чарадзеі, калі праводзілі абрад ушанавання мядзведзя. Атрымліваецца, што працэс пераапранання старажытнагрэчаскіх жрыц Артэміды і нашых сялян на святкаванне Камаедзіцы ў мядзведжыя скуры мае агульныя вытокі і паходзіць з глыбокай старажытнасці — часоў татэмізму і паляўнічай магіі. З цягам часу скуру жывёлы замянію вывернуты на левы бок кажух.

Людзі верылі, што іх аддаленымі продкамі былі дзікія жывёлы, якія і валодалі надпрыроднымі магічнымі здольнасцямі. Іх лічылі вялікімі боствамі і ўшаноўвалі іх татэмы — сакральныя ўвасабленні бога ў выглядзе звера. Потым часткі забітай жывёлы, да прыкладу, яе галава, лапа або кіпцюры і іклы, з'яўляліся абярэгамі таго ці іншага племені. У кожнага племені быў свой татэм. Перажыткі такога светапогляду назіраюцца ў звычаі ўсходніх славян яшчэ напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя вешаць у стайнях галаву мядзведзя, а ў хатах захоўваць ягоную лапу — як абярэг ад нячыстай сілы і ліхіх чар. Літоўцы ж XIII стагоддзя пры спальванні памерлага разам з ім клалі ў курганны насып мядзведжыя кіпцюры, з дапамогаю якіх нябожчык павінен быў ускараскацца на высокую гару да Бога.

Такім чынам, сутнасць мядзведжага свята была ў калектыўным спажыванні мяса гэтай жывёлы, а таксама ў шэрагу рытуальных цырымоній, якія, з аднаго боку, павінны былі зняць віну з паляўнічага, а з другога — дапамагчы адраджэнню звера. Апроч таго, мядзведзь, як і іншыя крыважэрныя драпежнікі, быў для старажытных паляўнічых боствам, што жыве па сваіх законах. І чалавек разумеў, што звер такі ж самы паляўнічы, як і ён. Калі перамагаў чалавек, ён дзякаваў боству лесу, якое дазволіла яму пракарміць сябе і сваю сям'ю. А калі перамагаў мядзведзь і паляўнічы паміраў, супляменнікі таксама ўспрымалі гэта як волю іх татэма. Безумоўна, з цягам часу, калі культ мядзведзя набыў сваю сілу, павялічылася і святасць у адносінах да гэтай жывёлы. Пачала дзейнічаць забарона на ўжыванне мядзведжага мяса ў ежу і пашыў адзення з ягонай скуры.

*Рэха выстаўкі*

# Вектары інтарэсаў

**Вопыт Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі", аб'яднанай у гэтым годзе з Міжнародным форумам па телекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогіях "ТИБО-2012", паказаў: ва ўсебаковым супрацоўніцтве з Беларуссю зацікаўлены многія краіны свету. І абмен інфармацыяй — адзін з істотных яго складнікаў.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Мікалай Макарскоў, кансультант групы праектаў развіцця СМІ Міністэрства інфармацыйных тэхналогій, сувязі і сродкаў масавай інфармацыі Ніжагародскай вобласці, адзначыў: "Для нашай вобласці ўдзел у вашай выстаўцы ўжо традыцыйны. У гэтым годзе наша дэлегацыя прадстаўляе шэсць раённых і абласную газету. Радуе высокі ўзровень выстаўкі, яна апраўдвае сваю назву міжнароднай. Гэта добрая магчымасць паказаць не толькі СМІ, але праз іх і ўвесь наш рэгіён. Асабліва цікава прэзентаваць у Беларусі Ніжагародскую вобласць таму, што ў нас вельмі цесныя сувязі. Губернатарам пастаўлена задача давесці тавараазварот да мільярда долараў. За гэтымі грашыма стаяць канкрэтныя заказы, заводы. Мы супрацоўнічаем у галіне аўтамабіле- і машынабудавання, станкабудавання, у сферы сельскай гаспадаркі. Я прадстаўляю сферу СМІ, тут таксама трывалыя стасункі: у нашых мерапрыемствах пастаянна ўдзельнічаюць беларускія дэлегацыі, журналісты. У маі чакаем гасцей у Ніжагародскай вобласці: на Міжнародны форум СМІ запрошана і дэлегацыя Беларусі".

Аціяць чытацкую аўдыторыю нашых бліжэйшых суседзяў дазваляў стэнд Маскоўскай вобласці. Як паведаміў Віктар Малярэнка, загадчык аддзела друкаваных СМІ Урада Маскоўскай вобласці, "…усяго ў Маскоўскай вобласці выходзіць 970 газет, 380 з іх — пастаянна. На стэндзе прадстаўлены толькі газеты, але ў нас ёсць і сваё тэлебачанне, і радыё. Пад ведамствам Міністэрства па справах друку і інфармацыі знаходзяцца 57 інфармацыйных агенцтваў".

Дзмітрый Ніканенка, выконваючы абавязкі кіраўніка па справах прэсы і інфармацыі дзяржадміністрацыі Чарнігаўскай вобласці, распавёў: "Упраўленне па справах друку і інфармацыі ўжо восьмы раз па даручэнні ДзяржкамтэлерадыёУкраіны, кіраўніцтва вобласці бярэ ўдзел у Міжнародный выстаўцы "СМІ ў Беларусі". Нам цікава прадставіць увесь перыядычны друк вобласці і часткова газеты рэспубліканскага значэння. На жаль, і ўкраінскім, і беларускім СМІ цяжка патрапіць у міжнародныя каталогі, каб іх можна было свабодна атрымліваць па падпісцы. Таму карыстаемся выпадкам і раздаём усім, хто цікавіцца, некалькі тысяч самых розных украінскіх выданняў — гарадскіх, абласных газет, нават газеты аб'яў некага цікавяць, часопісы, якімі наша вобласць асабліва ганарыцца, — вышэйшай атэстацыйнай камісіі "Северянская летопись", творчай суполкі "Литературный Чернигов" і інш. Газет камунальнай формы ўласнасці (раённыя, гарадскія, абласныя) і выданняў органаў заканадаўчай улады толькі ў нашай вобласці 28, а агульны тыраж іх складае 970 тысяч экзэмпляраў. Усяго ж зарэгістравана 300 газет і часопісаў, з якіх 85 выходзяць рэгулярна. (У нашай вобласці 10 часопісаў і 75 газет.) Кожнае абласное і некаторыя раённыя выданні маюць свае інтэрнэт-сайты. Дарэчы, інтэрнэт-версія ўтрымлівае значна больш інфармацыі, чым папяровая".

Дзякуючы інтэрнэту і не толькі значна бліжэй стала для нас краіна, кінематографам якой захаплялася не адно пакаленне савецкіх людзей. Па словах атташэ пасольства Р.К.Шарма, у сучасных індыйскіх чытачоў найбольш запатрабаваныя кнігі, прысвечаныя кінематографу — Балівуду. Стэнд Індыі даваў магчымасць пазнаёміцца з рознымі часопісамі на англійскай мове і хіндзі, прысвечанымі эканоміцы, культуры, падарожжам, мове. Штогод у краіне выдаецца 8 — 9 млн. кніг. Тыражы іх — ад 78 да 80 тысяч экзэмпляраў.

У інтэрнэт-прасторы адлюстравана і рэлігійнае жыццё нашай краіны. Беларуская Праваслаўная Царква мае афіцыйны сайт, карыстаюцца папулярнасцю сайты sobor.by, Елізавецінскага манастыра, Бабруйскай, Гомельскай, Брэсцкай епархій… Самымі наведваемымі з'яўляюцца старонкі паломніцкага аддзела Мінскай епархіі. Шмат наведвальнікаў было і каля стэнда, на якім прапанаваліся афіцыйны часопіс "Мінскіх епархіяльных ведамасцей" і "Небесные врата", часопіс мінскіх духоўных школ (жыровіцкі), газеты "Церковное слово", "Воскресение", "Преображение". Стэнд прадстаўляў айцец Яўген: "Хаця мы і ўяўляем сабой зусім іншы інстытут, у нас ёсць свае сродкі масавай інфармацыі, бяром лепшае і са свецкіх СМІ. Ахвотна супрацоўнічаем з нашымі калегамі-журналістамі, і такія форумы — магчымасць падзяліцца вопытам, замацаваць сяброўскія адносіны, завесці новыя знаёмствы, а галоўнае — мець зваротную сувязь з нашымі чытачамі".

*За падзеяй*

## Цудоўныя скарбонкі ведаў

Кацярына БЯДУЛІНА

**Сустрэча з заслужаным дзеячам культуры Беларусі, букварыстам Анатолем Клышкам прайшла ў бібліятэцы № 14 імя Францішка Багушэвіча.**

Як важна навучыць дзіця любіць Радзіму, шанаваць родную мову, ведаць гісторыю і захоўваць культурныя традыцыі свайго народа! Бацькам ды настаўнікам дапамогуць у гэтым кнігі. А першая кніга — буквар — ці не найгалоўнейшы сябра і дарадца.

А ці спрабавалі вы калі-небудзь "ламаць язык"? Дапаможа ў гэтым эксперыменце кніга Анатоля Клышкі "Прыгаршчы языкаломак".

Стварэнне "Беларускіх народных казак" — яшчэ адна сфера зацікаўленняў пісьменніка. Як кажа сам аўтар, "казка не можа быць без сэнсу. Ён павінен быць ва ўсім, што ствараецца. Трэба несці духоўнасць, як сувязь з прыродай і ўсім светам, з рознымі пакаленнямі. Такой павінна быць кожная кніга. Не толькі дзіцячая, навуковая, гістарычная, мастацкая…" Гэтая думка прасочваецца і ў кнізе "Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга", якую, таксама прадставіў чытачам Анатоль Клышка.

**Тым, каму даводзілася сустрэцца з Нінай Давыдзенкай хаця б аднойчы, западае ў памяць незвычайнае спалучэнне мудрасці і паважнасці чалавека, што стаіць на парозе свайго 90-годдзя, з жывой энергіяй, якой насычана яе размова і якая надае яе вачам малады бляск.**
**І гэта пры тым, што Ніна Васільеўна — інвалід Вялікай Айчыннай вайны, шмат гадоў ужо не выходзіць з кватэры па стане здароўя. Пэўна, справа ў творчым натхненні, якое не пакідае яе.**
**Зусім нядаўна выйшла ў свет яе дзявятая па ліку кніга — зборнік апаведаў-быляў "Прошлое остаётся с нами".**

# Тры ўзросты Ніны Давыдзенкі

Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА

Ніна Васільеўна радасна сустракае кожнага, хто завітае да яе, асабліва ў Свята Перамогі: медыцынскіх сясцёр і студэнтаў, школьнікаў і калег па пяры — пісьменнікаў, кампазітараў і проста добрых сяброў, дзяцей, унукаў, праўнукаў. Яна — маці трох дачок, бабуля шасці ўнукаў і прабабуля дзевяці праўнукаў. Шмат паспела зрабіць за сваё вялікае жыццё гэтая дзіўная жанчына. За воінскую і мірную працу яна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны I ступені, васямнаццаццю медалямі, 14 знакамі Гонару, Дыпломамі, Ганаровымі граматамі, падзякамі. Гледзячы на фотаздымак Ніны Васільеўны ў ваеннай форме, міжволі думаеш, што мы перамаглі ў той жахлівай вайне, пэўна, менавіта таму, што ваявалі ўсім народам, і такія вось дзяўчаты, юныя і пяшчотныя, таксама трымалі фронт, на ратным полі і ў тыле, набліжаючы Вялікую Перамогу.

— У 1940 годзе, калі я скончыла школу ў Віцебску, — успамінае Ніна Васільеўна, — паступіла ў Маскоўскі інстытут інжынераў сувязі. У нас якраз ішла сесія. Мы, студэнты, у інтэрнаце рыхтаваліся да чарговага экзамену. Радыё, каб не перашкаджала, выключылі. І раптам — рэзкі стук у дзверы. Адчынілі ў абурэнні. За дзвярыма стаяла наша сяброўка, бледная, знямелая. Яна ледзь выціснула з сябе: "Вайна…"

Сесію мы ўсё ж здалі. Апошні экзамен быў 2 ліпеня. А ўжо 3 ліпеня нас мабілізавалі на будаўніцтва абарончых умацаванняў Масквы. Кіраваў работамі палітрук. У руках у нас былі рыдлёўкі, рукавіц не мелася. Хутка далоні пакрыліся крывавымі мазалямі. Сонца пякло няшчадна, і скура на спінах і руках чырванела і пакрывалася пухірамі. Але ніхто з нас, а гэта былі ў асноўным дзяўчатысамсамолкі, не скардзіўся. Мы працавалі з ранку і да самай цемнаты.

Прыляталі фашысцкія самалёты. Скідвалі лістоўкі, якія мы палілі. Пасля гітлераўцы пачалі бамбіць лінію абароны, абстрэльваць нас. Ніколі не забуду, як аднойчы проста на мяне пікіравалі два самалёты з фашысцкай свастыкай. Аслупянелая ад нечаканасці і страху, я нават не магла ўпасці на зямлю. А фашысты выпусцілі па кулямётнай чэрзе і пайшлі на другі заход... Толькі тады я пабегла. Пабегла так, што сэрца застравала недзе ў горле… Зачапілася за штосьці, ударылася з усяго размаху аб зямлю. Гэтае падзенне і выратавала мне жыццё: кулямётныя чэргі ляглі крыху наперадзе. Фашысцкія ж лётчыкі, верагодна, вырашылі, што я забітая, уляцелі…

Але не заўжды мне так шанцавала. Падчас адной з бамбёжак я была цяжка кантужана, паранена, завалена зямлёй. Мяне адкапалі і павезлі ў шпіталь. Але па дарозе эшалон з паранеными разбамбілі. Я апынулася ў бальніцы ў нейкай вёсцы. Доўга была ў непрытомнасці, шэсць месяцаў — глуханямой у выніку кантузіі. Але маладосць узяла сваё: я ачуняла. І — папрасілася на фронт.

У ваенкамаце спачатку катэгарычна адмовілі. Але потым змяніўся ваенкам, і я зноў пайшла прасіцца. "Што ты ўмееш, дзяўчынка?" — спытаўся ён. І сам жа адказаў: "Нічога. Чым жа ты дапаможаш фронту?" Але я сказала, што мой родны Віцебск заняты фашыстамі, што я ўжо была параненая, што ў сэрцы маім гарыць жаданне помсты ворагу. "Я павінна ваяваць!"… І мяне накіравалі ў Арменію, у школу малодшых авіяспецыялістаў, пасля заканчэння якой я патрапіла ў знішчальны авіяполк, з якім прайшла ад Каўказа да Кёнігсберга — праз Кубань і Крым, Украіну, Беларусь і Літву. Абслугоўвала 800 баявых самалётаў разам з механікам, матарыстам і збройнікам. Я рыхтавала да вылету гармату і кулямёт — перад боем яны мусілі быць чыстымі, змазанымі, снарадныя скрыні — поўнымі. Пасля кожнага вылету трэба было папаўняць боеприпасы і прачышчаць шомпалам ствалы.

А яшчэ ў нашы абавязкі ўваходзіла нясенне каравульнай службы. У нарад хадзілі праз трое сутак, а то і праз суткі. Гэта толькі ў кіно паказваюць дзяўчат на вайне ў боціках ды спадніцах. Мы хадзілі выключна ў робе, і нават "лётныя" нашы моцныя чаравікі хутка зношваліся, станавіліся дзіравымі. Стаіш на варце восенню, ногі мокрыя. Адна на аэрадроме ходзіш з вінтоўкай паміж шэрагамі самалётаў… Страшна. Чакаеш, калі зменяць, а час гэтак павольна ідзе…



Ніна Давыдзенка. Франтавы здымак.

У вайны сапраўды не жаночы твар. Да і наогул — не чалавечы… Але ж колькі жанчын, проста дзяўчатак са школьнай парты ваявала! Такой моцнай была любоў да Радзімы і сіла духу савецкіх людзей. Гэтыя дзяўчаткі ўсім ахвяравалі дзеля Радзімы, яны гатовыя былі ісці і ішлі на пакуты і смерць. І пры ўсім гэтым зусім без пафасу ўспрымалі ратную працу. Проста інакш нельга было. Уся праца на вайне была жыццёвай неабходнасцю, усе па маленькай кроплі набліжалі Вялікую Перамогу.

Выбіваючыся з сіл гэтак, што ноччу, смяротна стомленыя, нават не адчувалі, як пацукі, гуляючы па зямлянках, абгрызаюць пальцы. І здаралася так, што гэтымі рукамі, у скрываўленых бінтах, дзяўчаты потым працавалі з бензінам, мылі самалёты… А як жа гэта было зімою, у лютыя маразы!

Да таго ж аэрадромы даволі часта падвяргаліся варожай бамбардзіроўцы. Падчас адной з іх у снежні 1944 года, ужо ў Літве, загарэлася бочка з бензінам. Ніна Давыдзенка атрымала сур'ёзныя апаленні: абгарэлі ногі, рукі, твар… Кісць правай рукі абвуглілася амаль да касцей. Пальцы сталі гнаіцца. Зноў — санчасць. Ад болю крычала, зрывала з сябе бінты, губляла прытомнасць. Ёй лілі ў рот спірт, совалі самакрутку, потым — калолі наркотыкі….

Рука не дзейнічала паўгода, пасля патроху пачала распрацоўвацца, але цалкам аднавіць здароўе Ніне Васільеўне так і не ўдалося. Вайна адзначыла яе шасцю асколачнымі раненнямі, дзвюма кантузіямі, апаленнямі…

І вось пасля ўсіх выпрабаванняў яна стала пісаць вершы… Пэўна, маладосць і моцнае жаданне жыць, тварыць, захавацць успаміны пра ваеннае ліхалецце для іншых пакаленняў падштурхнулі яе.

*Ты не видел меня в гимнастёрке —*
*Знаешь женщину в платье и шали.*
*Посмотри: на портрете — девчонка,*
*А в глазах уже столько печали…*

Вярнуўшыся пасля мабілізацыі ў родны Віцебск, Ніна пабачыла адны руіны. У кожнага жыхара была тады спецыяльная ўліковая кніжка, у якой адзначалася колькасць адпрацаваных гадзін на разборцы гэтых руін. Гэтак пачыналася аднаўленне старажытнага горада, які сёння ператварыўся ў прыгожую паўночную культурную сталіцу Беларусі. Потым Ніна працавала намеснікам начальніка ваенізаванай аховы Віцебскага рачнога флоту, яшчэ пазней — у сістэме аўтатранспарту. Але вайна ніколі не сыходзіла з яе памяці. Вершы ўсё часцей сталі стукацца ў яе сэрца. Самастойна вывучаючы асновы вершаскладання, Ніна выявярала свае літаратурныя спробы з творамі класікаў. Яна ішла ў літаратуру доўга, павольна, адказна, не спяшаючыся заявіць пра сябе. Гэткая прынцыповасць і патрабавальнасць да ўласнай творчасці проста здзіўляюць.

Першая публікацыя — верш "Я хочу остаться твоей сказкой" — з'явілася толькі ў 1979 годзе ў абласной газеце "Віцебскі рабочы" напярэдадні Дня Перамогі. Ніне было ў той час 57 гадоў.

*…Мне не стать у тебя на пороге,*
*Лаской губ не коснуться твоих —*
*Так случилось: ни боль, ни тревоги*
*Нам нельзя разделить на двоих…*

Піша Ніна Давыдзенка, нікога не імітуючы, нікога не капіруючы. Таму вершы яе такія незвычайныя, такія індывідуальныя. На іх — адбітак выпакутаванасці і адлюстраванне чысціні.

*Любовь последняя — печальная:*
*В ней диких ягод горький сок.*
*Она и страстная и тайная,*
*Стучит и в сердце и в висок.*

*Любовь последняя —*
*прощальная:*
*Сама из сердца рвётся вон.*
*Она и песня величальная,*
*Она и поминальный звон…*

У 2005 годзе яна была прынята ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Актыўна выступала ў бібліятэках і працоўных калектывах са сваімі вершамі, прапагандавала творчасць калег-пісьменнікаў. На жаль, цяпер усе яе вечары паэзіі адбываюцца толькі дома. Але яны ў непапраўнай аптымістасці Ніны Давыдзенкі і сёння часты. Гасцей у пісьменніцы-франтавічкі заўжды шмат. Нягледзячы на ўсе акалічнасці лёсу, яна па-ранейшаму жыве, як піша, піша, як дыхае.

Яна жыве светла, забыўшыся на ўзрост. Тым не менш 12 чэрвеня ў яе вялікі юбілей — 90 гадоў! Але, насуперак законам Сусвету, у кнізе "Три возраста" паэтка прызналася, што ў яе "только три времени года":

*Весна и лето, осень (не зима!),*
*Как утро, день и вечер*
*(но не ночь!)…*

# Турцыя ўсё бліжэй



Чарговы нумар часопіса "Беларуская думка" рэдакцыя пазіцыяніруе як тэматычны: ён прысвечаны адной з краін-сяброў і партнёраў Беларусі — Рэспубліцы Турцыя — і падрыхтаваны пры інфармацыйнай падтрымцы грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія". Нагодай для гэтага сталася 20-годдзе ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі. У артыкулах турэцкіх навукоўцаў і журналістаў малюецца вобраз Турцыі сучаснай, якая стала на шлях мадэрнізацыі і глабальнага адкрыцця сябе свету, і мінулай, якая яшчэ ў старадаўнія часы заклала фундамент для цяперашняга эканамічнага і духоўнага росту. Асаблівай цікавасці чытачоў заслугоўвае інтэрв'ю з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Турэцкай Рэспублікі спадаром Джэватам Незіхі Азкая, якое дазваляе агледзець шырокае кола пытанняў: ад новай ролі Турцыі ў рэгіянальнай і глабальнай палітыцы і інвестыцый у эканоміку Беларусі да ўзаемаадносін нашых краін з ЕС і хуткага ўвядзення бязвізавага ўезду нашых грамадзян у Турцыю.

Адметна, што ў багатай палітры публікацый прадстаўлены не толькі работы замежных аўтараў, але і вынікі навуковай працы айчынных даследчыкаў беларуска-турэцкіх адносін. Сярод такіх вылучаецца артыкул дэкана факультэта міжнародных адносін БДУ, доктара гістарычных навук Віктара Шадурскага "Патрэбны нам бераг турэцкі". У ім разглядаецца эвалюцыя палітычнага дыялогу Беларусі і Турцыі на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў. Аўтарам прапанавана перыядызацыя двухбаковых адносін і дадзены аналіз этапаў супрацоўніцтва.

Апроч "турэцкага" вектара ў часопісе прасочваецца і традыцыйны гісторыка-культуралагічны. У сваім артыкуле "У акопах пад Смаргонню" кандыдат гістарычных навук Міхаіл Смальянінаў распавядае пра адну з найбольш трагічных старонак Першай сусветнай вайны — газавыя атакі немцаў супраць рускіх воінскіх падраздзяленняў каля Смаргоні, у ваколіцах возера Нарач і на іншых участках Заходняга фронту. Аўтар прыводзіць факты, якія сведчаць пра вялізныя страты рускай арміі. Тычачу таксама будзе надзвычай цікава даведацца пра адказ нямецкім войскам — газавую атаку супраць нямецкіх падраздзяленняў на лініі фронту, якая праходзіла каля чыгуначнай станцыі Баранавічы.

Безумоўна, не застанецца незаўважанай і публікацыя пад назвай "Мы — тутэйшыя", бо ў ёй журналістка Сняжана Міхайлоўская прапануе нам звярнуцца да сваіх каранёў і з дапамогай навукі ўбачыць генетычны партрэт беларусаў. У інтэрв'ю член-карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар Алег Давыдзенка расказвае пра тое, як і навошта айчынныя вучоныя збіралі генетычны банк карэнных беларусаў, якія таямніцы захоўвае ДНК. Ён адзначае, якім чынам на генетычным узроўні адбілася суседства беларусаў з іншымі народамі, выказвае ўпэўненасць, што ў медыцыне будучага важную ролю будзе адыгрываць генетычны пашпарт чалавека.

У традыцыйным для часопіса раздзеле "Практыкум" размешчаны артыкул Галіны Махнач "Ідэю ўпрыгожвае ўвасабленне", у якім аналізуюцца задачы пераходу краіны на інавацыйны шлях развіцця на прыкладзе асобна ўзятага прадпрыемства — гродзенскага ААТ "Белкард". Журналіст падрабязна расказвае, як узаемадзеянне з замежнымі вытворцамі можа садзейнічаць павышэнню якасці і канкурэнтаздольнасці айчыннай прадукцыі.

З вопытам рэфармавання пенсіённых сістэм у еўрапейскіх краінах пры пераходзе ад пераразмеркавальнага пенсіённага забеспячэння да шматузроўневага можна азнаёміцца ў артыкуле аспіранткі Марыны Янчук "Як забяспечана старасць?".

У нумары таксама змешчаны іншыя публікацыі сацыяльна-палітычнай і эканамічнай тэматыкі, агляды кніжных навінак.

Таццяна ШАБЛЫКА

# Юргон, Юджын і жанчыны

Таццяна ФІЦНЕР

**Тэорыя феміністкага літаратурнага крытыцызму і гендарныя даследаванні, даволі папулярныя на Захадзе, не абышлі і нашу навуковую грамадскасць. А заклік феміністкай даследчыцы-постструктураліста Э. Сіксу: "Пішыце сябе. Вашае цела павінна быць пачута", звернуты да сучасных жанчын-пісьменніц, пачулі і аўтары-мужчыны, напрыклад, А. Казлоў, які ў сваёй творчасці даследуе стасункі мужчыны і жанчыны. Найбольш ярка і паслядоўна асэнсаванне цялеснасці выявілася ў такіх творах, як раман у штрыхах "Юргон" і аповесць "Абганяючы сны".**

Звернемся да вобразаў галоўных герояў (адпаведна Юргона і Юджына) згаданых твораў. Гісторыя Юргона — гэта "гісторыя адной хваробы" даўжынёй у некалькі тыдняў, якую герой вызначае як "поўны штыль". Ён, узгадваючы ўсіх сваіх былых каханак, спрабуе адгадаць, хто з іх мог яго сурочыць. Пры гэтым ён упэўнены, што не прычыніў ніводнай жанчыне шкоды. Вобраз Юргона падаецца статычным, незакончаным, быццам вырваным з іншага тэксту. Такім тэкстам якраз і з'яўляецца аповесць "Абганяючы сны". Таму ўсё, што адбываецца ў рамане з Юргонам, успрымаецца як эпізод з жыцця Юджына.

З Юджынам чытач знаёміцца падчас яго жыцця на вакзале, дзе апынуўся пасля таго, як Руслана выгнала яго з кватэры за здраду. Герой амаль кожны вечар прыходзіць пад вокны яе кватэры, да апошняга спадзеючыся вярнуць усё яшчэ каханую жанчыну. Такое выкарыстанне "вольнага часу" дае Юджыну цудоўную магчымасць пераасэнсаваць свае ўчынкі і жаданні, тым больш што многае ў яго засталося ў мінулым. Юджын асацыіруецца з Юргонам ужо нават на ўзроўні імёнаў і, больш за тое, успрымаецца менавіта як пасталелы Юргон. Узрост апошняга — дваццаць пяць гадоў, а Юджын згадвае пра свой "саракоўнік". Чатырнаццаць апошніх гадоў ён пражыў ціхім, утульным сямейным жыццём з Русланай. Сам Юджын характарызуе іх як чатырнаццацігадовы сон юрлівага гону (Юргона): "Закалыхала яно (каханне іхняе) на нейкі час Юджынава імкненне палявання на беспрыглёдных паненак. Кароткія спаднічкі, аголеныя лыткі, ладныя грудкі… Усяго было зашмат і без асаблівага перабору. Раней было, да Русланы. А з ёю Юджын прыціх, пасамавіцеў. Спакоем і ўраўнаважанасцю, задаволенай сытасцю поўніўся ягоны позірк. Глыбока схаваліся ў вачах неспатолены юр, нерастрачаная жарсць і сіла. Хаваліся нават ад самога Юджына. Сцялася, назапашвалася, паўнела і чакала зручнага моманту. Чакала, здзіўляючы сваёй вытрымкай…"

Але юрлівы гон вырваўся на волю, нібы казачны джын, таму наступствы яго дзеянняў такія салодка-горкія і непрадказальныя, вызначальныя для далейшага жыцця героя. І на гэты раз (Ю)джыну-Юргону наўрад ці хто дапаможа пераадолець хваробу душы, "лекі" герой вымушаны шукаць сам. Яго здрада Руслане — чарговая, а магчыма, і апошняя ўступка Юргону, падпарадкаванне біялагічнаму пачатку ў чалавеку ("галоднаму", "прыснуламу зверу"): "Гадамі мы дыхалі адным дыханнем, глядзелі аднолькава на шмат якія рэчы і падзеі. Нават думалі часта аднолькава. Але ў адзін чорны дзень мне падалося, што гэтага мала. Не, не мала, а недастаткова для майго *мужчынскага* (вылучана мною. — **Т. Ф.**) шчасця".

Юргон у рамане пададзены занадта прымітыўным, абмежаваным. Аднак перыядычна яму ўласцівыя самааналіз, філасофскія разважанні, роздум над экалогіяй зямлі і душы чалавека. Праўда, самарэфлексія герою не вельмі падабаецца, ён прыхільнік спакойнага жыцця, такога, "калі можна радавацца кожнаму дню". Юджын на яго фоне падаецца інтэлектуалам, філосафам, асобай самадастатковай. Яго не псуе нават "вакзальнае" жыццё і "вакзальныя" сябры-сяброўкі. Прынамсі, практычна не дадаюць негатыву ва ўспрыняцце гэтага вобраза. Юджын здольны да самаачышчэння і самаўзнаўлення, Юргон — не. Юджыну не патрэбныя ратавальнікі, ён гатовы (і верыць, што здолее) прайсці праз чарговае выпрабаванне, "ведае, што ў любых умовах вытрывае, не пераступіць мяжу незваротнасці. Ён здольны пераадолець непераадольнае", і ў гэтым Юджыну дапамагаюць такія якасці, як "маўчанне і зносаўстойлівасць".

*"Па сутнасці сваёй і Юргон, і Юджын — адзінотнікі. Але адзінота іх рознага кшталту. Паводле Р. Ошо, гэтае паняцце можна разумець як "пакінутасць-непатрэбнасць" і як "самадастатковасць". Розніца ў разуменні якраз і вызначае ступень сталення асобы. Чалавек, які можа жыць у адзіноце, з'яўляецца самадастатковым і здольны будаваць доўгатэрміновыя стасункі з іншымі.*

Па сутнасці сваёй і Юргон, і Юджын — адзінотнікі. Але адзінота іх рознага кшталту. Паводле Р. Ошо, гэтае паняцце можна разумець як "пакінутасць-непатрэбнасць" і як "самадастатковасць". Розніца ў разуменні якраз і вызначае ступень сталення асобы. Чалавек, які можа жыць у адзіноце, з'яўляецца самадастатковым і здольны будаваць доўгатэрміновыя стасункі з іншымі. Юргон адчувае сябе пакінутым і непатрэбным: "Адзін і адзінокі, як ніколі". Або: "Няўжо людзі могуць існаваць у адзіноце? Гэта ж суцэльная вар'ятня, а не жыццё…". Юджын жа, балансуючы доўгі час на мяжы непатрэбнасці-пакінутасці і самадастатковасці, набліжаецца да апошняга разумення катэгорыі адзіноты. Яго вобраз супярэчлівы: *паводзіны* вельмі нагадваюць паводзіны Юргона, аднак яго *думкі, лад мыслення* ўказваюць на вялікую адлегласць паміж героямі. Юджынам пройдзены доўгі шлях, набыты досвед доўгатэрміновых адносін, якія даюць герою магчымасць параўнаць, асэнсаваць і ацаніць розны стыль паводзін, зразумець, што страціў і што шукае. Юджыну ўласцівыя глыбокія перажыванні, якія, праўда, раскаяннем назваць нельга. Гэта роздум, бясконцы пошук сябе. Эвалюцыя героя-сучасніка (Юргон — Юджын — ?) можа мець працяг у новых творах А. Казлова.

Варта скіраваць увагу і на шматлікія жаночыя вобразы згаданых твораў. Яны менш псіхалагічна выверaныя, аднак дапамагаюць асэнсаваць вобразы Юргона і Юджына.

У рамане А. Казлова "Юргон" звяртаюць на сябе ўвагу Аліна і Фрэня, якіх аб'ядноўвае няспраўджанае пачуццё кахання да галоўнага героя. Жанчыны зусім розныя, таму кожная выбірае свой шлях змагання з пачуццямі, з наступствамі ўзаемаадносін з Юргонам. Аліна, зразумеўшы марнасць пошукаў незямной любові, "ратуецца" замужжам, "уладкоўвае свой быт". Пры гэтым адкрытым застаецца пытанне: ці прынесла такое рашэнне жаданую палёгку? Фрэня ж абірае шлях помсты, хоча парушыць упэўненасць Юргона ў сабе, як парушаная яе цэльнасць, яе ўпэўненасць, і такім чынам пазбавіцца комплексу непаўнацэннасці, што пасяліўся ў ёй. Як відаць з тэксту, помста Фрэні вынікае з амбіцый, з абражанага самалюбства, а не з кахання: "Мяне ніхто так не прыніжаў. Я сама выбірала і кідала, добраахвоць ішла ці адмаўляла". Шлях помсты, магчыма, і апраўданы перажытым гераіняй, тым не менш разбуральны, бо не прыводзіць ні да душэўнай гармоніі, ні да шчасця.

*"Гадамі мы дыхалі адным дыханнем, глядзелі аднолькава на шмат якія рэчы і падзеі. Нават думалі часта аднолькава. Але ў адзін чорны дзень мне падалося, што гэтага мала. Не, не мала, а недастаткова для майго мужчынскага шчасця".*

Найбольш яркія вобразы жанчын прадстаўленыя ў аповесці А. Казлова "Абганяючы сны". Яны дапамагаюць не толькі "расшыфраваць" паводзіны і ўчынкі галоўнага героя, а нават зразумець іх вытокі. Звернемся найперш да Русланы. Яе можна вызначыць як "нямую", бо нідзе на працягу твора гераіня не выказваецца наўпрост. А яе аблічча толькі аднойчы з'яўляецца ў акне, за якім штовечар назірае Юджын. Вобраз Русланы вымалёўваецца з успамінаў галоўнага героя і бабулькі (містычны вобраз, які "суправаджае" Юджына праз увесь твор). Аднак гераіня небезаблічная, Юджын згадвае Руслану як "някідкую знешне, мяккую, далікатную, сардэчную". І далёка не бесхарактарную, хутчэй наадварот. Па-першае, вядома яе непахісная пазіцыя адносна "пячаткі ў пашпарце". І няважна, чым яна выклікана, — бяздзетнасцю, бояззю згубіць квадратныя метры, добрым веданнем (аддадзім належнае жаночай інтуіцыі) таго, з кім жыла? Па-другое — хуткая і адназначная рэакцыя на здраду Юджына: "за распусту вытурыла… з кватэры"). Апошні ўчынак указвае на вялікую крыўду ды душэўны боль жанчыны, абвостраны яшчэ і тым, што здрада была здзейснена не падчас разладу, а тады, калі ў сям'і была згода і разуменне. Больш за тое, у жыцці Русланы ўзніклі часовыя цяжкасці (хворая сястра). Паводле логікі гераіня можа разлічваць на падтрымку каханага мужчыны. Замест гэтага яна атрымлівае "нож у спіну".

У грамадскай свядомасці моцна замацаванае стэрэатыпнае ўспрыманне жанчыны як надзейнага тылу для мужчыны. Менавіта жанчына павінна зразумець і падтрымаць кожнага ў складаных жыццёвых сітуацыях рознага кшталту. Самаахвярнасць заўсёды лічылася яе станоўчай якасцю. І нікога не цікавіла, ці прынесла гэта жанчыне шчасце ці хаця б пэўнае задавальненне. Юджын дзейнічае згодна з мужчынскім стэрэатыпам паводзін. Замест таго, каб узяць частку клопатаў на сябе ("была магчымасць паехаць з Русланай"), ён напоўніцу скарыстоўвае сваю свабоду. Ён не толькі здрадзіў у складаны момант жыцця, ён парушыў давер да сябе з боку Русланы, якая заўсёды даводзіла, што ў яе з Юджынам "усё пабудавана на даверы". Паводле логікі мужчыны-аўтара Руслана вельмі хутка знаходзіць замену Юджыну. У чарговы раз паглядаючы "на ўсё яшчэ не чужыя для яго вокны шостага паверха", герой бачыць там "постаць невядомага мужчыны"? Ці лёгка на самай справе так хутка перайначыць сябе і сваё жыццё? Ці можна так хутка ачысціцца, самаўзнавіцца, каб быць гатовым адкрыць душу новаму каханню, знайсці сілы зноўку верыць?.. Наўрад ці. Але інакш не было б развіцця сюжэта твора, штуршка героя да самарэфлексіі, эвалюцыі вобраза.

# Ветразь не застаўся адзінокім

Міхась КАВАЛЁЎ

"Пад ветразем ранку" — такую назву носіць зборнік вершаў студэнткі філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Анастасіі Кацюргіной. Выданне ажыццёўлена ў серыі "АЗ — першая кніга паэта", заснаванай у 2010 годзе членам Саюза пісьменнікаў Беларусі паэтам Іванам Бісевым пры фінансавым забеспячэнні ЗАТ "Гомелькатласервіс" на базе школы "Малады літаратар" Гомельскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі. Пабачыла свет кніга ў выдавецтве "Кнігазбор" (2011).

Усе творы Анастасіі — пра каханне. А каханне, як вядома, гэта стан душы. І сапраўдная паэзія — таксама. Але пераказваць гэтыя ўзнёслы стан празаічнай мовай — справа няўдзячная і нялёгкая. Таму хочацца спаслацца на аўтарытэтнае меркаванне пра вершы Анастасіі Кацюргіной яе земляка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, аднаго з самых пранікнёных, тонкіх і шчырых лірыкаў Міхася Башлакова, які, да таго ж, выступіў і рэдактарам першай кнігі маладога аўтара: "У вершаваных радках Анастасіі было пачуццё, хваляванне, была душа. Майстэрству вершаскладання можна заўсёды навучыцца, а вось калі не будзе пачуцця, не будзе душы ў вершах, не будзе і паэзіі. Інтанацыя, мелодыка вершаванага радка — гэта даецца Богам... Менавіта за пранікнёнасць і меладычнасць спадабаліся тады мне вершы гомельскай школьніцы..." (Размова ідзе пра той час, калі Анастасія яшчэ не была студэнткай універсітэта.)

Міхась Башлакоў лічыць, што для зборніка больш падышла б назва "Пад ветразем кахання", бо "усе вершы маладой паэтэсы прысвечаны самай хвалюючай, самай трапяткой тэме — тэме кахання".

А я ўспомніў лермантаўскі верш "Парус":

*Белеет парус одинокий*
*В тумане моря голубом...*

І падумаў: ветразь Анастасіі Кацюргіной — не самотны. Прынамсі, у жыццёвым плане. Як адзначае сама юная паэтэса ў пасляслоўі да сваёй кнігі, яна ўдзячная лёсу за тое, што на жыццёвым і творчым шляху ёй сустрэліся шчырыя, добразычлівыя, таленавітыя людзі — паэты Іван Бісеў, Міхась Башлакоў, Ніна Шклярава, Раіса Баравікова, Мікола Шабовіч, выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны В. Шынкарэнка, І. Азарава, Л. Кузьміч, Р. Серыкаў. "Без іх дапамогі, — піша Анастасія, — не было б, відаць, гэтай кнігі. Але асабліва мне хочацца падзякаваць Івану Васільевічу Бісеву, які не толькі дапамагаў сваімі слушнымі парадамі, але і матэрыяльна падтрымаў выданне маёй кнігі. Вялікі дзякуй усім, хто падарыў майму ветразю вецер надзеі..."

У зборнік уключана больш як паўсотні цудоўных лірычных вершаў, якія не пакінуць раўнадушнымі чытачоў.

Нам жа хочацца сказаць маладой паэтэсе: "У добры час!" — і пажадаць новых яркіх твораў.

# Роднае і вечнае

Аляксей НЕНАДАВЕЦ

**Віктар Шніп заўсёды па-добраму здзіўляе мяне. У яго ёсць што пераняць і чаму павучыцца, што захаваць на ўспамін, а пра нешта хочацца і перапытаць пры сустрэчы, бо прачытаў упершыню. Кніга "Проза і паэзія агню" ўразіла. Паэт здзейсніў сваю задуму, а разам з тым зрабіў і вялікую справу для ўсіх: перад намі паўстаў Пантэон славутых людзей Беларусі, увасоблены ў балады. У гэтым жанры абавязкова прысутнічае нешта глыбінна-народнае, самабытнае, непаўторнае, аздобленае найбагацейшымі сродкамі вуснапаэтычнай мовы.**

За дзейных асоб Віктар Шніп узяў не толькі тых, хто ў сваёй адчайнай барацьбе з крыжацкай і татарскай пагрозай, з царскім тыранізмам, з польскім і нямецкім імкненнем авалодаць нашымі адвечнымі землямі стаяў на свядомых пазіцыях незалежнасці, асветніцтва, рэлігійнай самабытнасці беларусаў, але і тых, хто па-свойму разумеў свабоду народа, зыходзіў у гэтым, найперш, з палітычных пазіцый (А. Чарвякоў, Ц. Гартны): "Не здрадзіў ты Айчыне і нікому // Не здрадзіш…" ("Балада Цішкі Гартнага"). У шэрагі барацьбітоў за беларушчыну трапілі і замежныя даследчыкі (Гай дэ Пікарда), каралеўскія асобы з іншаземнымі каранямі (Бона Сфорца), нашыя сучаснікі, якія пайшлі з іншых народаў, аднак для нашай культуры, літаратуры, музыкі зрабілі вельмі многа (Г. Кісялёў, У. Мулявін): "І пройдзе снег, бо ты цяпер свой шлях прайшоў, // Пакінуўшы вуголле беларускіх слоў, // Дзе ёсць Надзея, Вера і Любоў…" ("Балада Генадзя Кісялёва"). У Пантэон залічана і паэтэса Леся Беларуска, містыфікацыя Валянціны Коўтун. Але ж не забываймася, што паэзія заўсёды ў нечым міф, а паэты-творцы — абавязковыя носьбіты гэтых міфаў, тым болей найстрашнейшых і найжахлівейшых міфаў трыццатых гадоў ужо мінулага стагоддзя: "І верыць, што і гэта ўзвея пройдзе // І застанецца кветкамі на лёдзе // Калючы дрот з крывёй сяброў тваіх…" ("Балада Лесі Беларускі"); "Калючы дрот у нашай крыві, // Ён нам усім застаўся ад гадоў трыццатых" ("Балада Пятра Драчова").

Пераасэнсаванне, глыбінная ацэнка шматлікіх гістарычных варункаў, учынкаў, здарэнняў дазволілі аўтару сфарміраваць уласны погляд на значэнне гэтых падзей для нашага Зараджэння, Руху, Развіцця і… Забыцця. Так, менавіта апошняе пагражае беларусам! І вельмі балюча ўсведамляць, што адбываецца, на вялікі жаль, не лепшае, а горшае. Паэту хочацца, каб усё заставалася такім, якім яно было створана Усявышнім. Нездарма ж стварэнне пастаянна супрацьпастаўляецца В. Шніпам Разбурэнню. Нездарма ўсюды прысутнічаюць Храмы, Вечнасць, Галгофа, на якую кожны з беларусаў нёс і нясе свой уласны крыж : "І ўжо адказ ёсць на пытанне: "Хто мы?" // Але яго яшчэ не чуе Бог" ("Балада Грунвальдскай бітвы"). Паступова, сцвярджаецца ў баладах, мы прыйшлі да Усявышняга, у нас паўстала свая апякунка — Еўфрасіння Полацкая: "…Нам на зямлі, якую не пакіне // Ніколі Бог, бо Ён жыве ў народзе, // як ты жывеш у нашае Айчыне…" ("Балада Еўфрасінні Полацкай").

Гісторыя засталася не толькі ў памяці, але дайшла да нас з летапісаў, са старадрукаў, са зводаў законаў, якія адыгрывалі першыя ролі не толькі ў тагачаснай Беларусі, але і ва ўсёй Еўропе. Нас паважалі, у нас многае пераймалі, бо мы ніколі не пляліся ззаду, а падкрэслівалі ўласную значнасць, самабытнасць. Славутыя імёны, славутыя дзеячы, не менш славутыя іх справы: Мікола Гусоўскі і Францыск Скарына, Леў Сапега і Кірыла Тураўскі, Казімір Лышчынскі і Сымон Будны, Барбара Радзівіл і Саламея Пільштынова. Хіба ўсіх пералічыш? А варта было б! Таму што створанае імі засталося назаўсёды. Яны рабілі не для сябе, а для Радзімы, для Краю, для Бацькаўшчыны! Слушна і пераканаўча гучаць радкі: "Любоў да Айчыны — да волі ключы" ("Балада Мікалая Радзівіла (Чорнага)"); "Евангелле на роднай мове мы ў руках // Трымаем, як цагліну, што ў падмурак ляжа // Айчыны Храма…" ("Балада Васіля Цяпінскага").

Персанажы ўсіх балад В. Шніпа не ўяўлялі свайго жыцця без радзімы. Дзе б ні былі, куды б ні закідваў лёс, яны ўсё роўна стараліся дабрацца дамоў. Няхай сабе гэтае падарожжа было апошнім у іх зямным жыцці. Ці не таму сярод асноўных заклікаў гучала: "Жывём — пакуль патрэбныя Айчыне" ("Балада Міколы Трухана"); і больш трагічнае: "Ты едзеш на Радзіму паміраць", "І на волю, дахаты з Сібіры дарога, // Ля якой безымянных магіл незлічона".

У іх, здавалася, магло ўсё атрымацца па-іншаму, і вымалёўваліся куды цікавейшыя перспектывы, але настальгія па родных мясцінах, па роднным нідзе не давала ім спакою, няхай сабе там ужо і не так прыгожа, не так ужо і чакаюць: "Дзе шышшына ў снезе, нібы кроў"; "А на двары гуляе вецер воўчы, // Вынюхваючы ворагаў зімы". Яны вярталіся не толькі з Сібіры, яны імкнулі на Бацькаўшчыну з сусветных сталіц: "Парыж, як лёд, халодны і чужы"; "У Завоссі залатая восень, // А халера ў залатым Стамбуле".

Часта ў кнізе з'яўляецца матыў крыві. Мабыць, ад таго, што нашым славутым землякам даводзілася шмат змагацца за незалежнасць роднага краю, шчыра акрапляць свае ідэі гарачай крывёю. Самаахвярнасць — у імя Радзімы, а сваё, асабістае адыходзіла на другі план: "А Бацькаўшчына родная, як кроў, // Што праз бінты, як межы, праступае" ("Балада Вячаслава Адамчыка"); "І струны парваны, і кроў // Як сонца расплаўлены злітак…" ("Балада Уладзіміра Мулявіна"); "Дзе Млечны Шлях — не рэчка залатая, // А у хрыстовае крыві глыжы" ("Балада Ніны Мацяш").

Змаганне з ворагамі заўсёды выступала атрыбутам волі і незалежнасці. Таму побач з матывам крыві, слёз паўстае матыў славы і гераізму, адчайнай мужнасці барацьбітоў за народнае шчасце. Памяць пра загінуўшых у імя іншых — гарантыя таго, што яны самі і іх справы па-ранейшаму жывуць у душах і сэрцах нашчадкаў: "…а Плачка ўсё блукае // Па Беларусі, у якой нам вечна жыць" ("Балада Яна Баршчэўскага"); "І ты ў зямлі шукаеш продкаў шчыт" ("Балада Міхася Ткачова").

Увогуле, для зборніка В. Шніпа характэрная архетыпічнасць. Пераканайцеся самі: асноўныя вобразы раздзела "Роднае і вечнае" — агонь, малако, студня, печ, птушкі, плот. Яны асацыіруюцца з нечым мінулым, блізкім, родным. І не толькі з радавым, але і з асабістым таксама. Хто не памятае першых уражанняў ад яркага полымя? Паэт узбагачае іх сваімі асацыяцыямі. Тут і тое, як некалі бацька "цісну" самагон, і гарласта-піянерскі збор у лесе ля ўдавана-ўрачыстага вогнішча, і тое, як "палякі магілы падпалілі". Хто забыўся пра смак сырадою на вуснах, пра пах жытнёвага хатняга хлеба, каму не знаёмае наступнае параўнанне: "Цыбулю мама ў вянкі пляце, // Нібыта дочкам косы заплятае"? Няўжо нешта перамянілася ў традыцыйных назіраннях: "Студня глыбокая, як неба"; "Ноч — гэта дно студні, з якой бачна зорнае неба…"? Мне асабіста імпануе тое, як падаў паэт вобраз печы — захоўваючы народна-традыцыйны погляд, падкрэсліваючы адвечную развагу і асацыятыўнасць продкаў: "…печ у цэнтры як сарцавіна радаводнага дрэва"; "На вуліцы мароз і вецер, а я ляжу ў роднай хаце на печы і чытаю "Новую зямлю" Якуба Коласа. І мне добра, як дзядзьку ў Вільні…". Праўда, наколькі памятаецца, дзядзьку Антосю ў Вільні было якраз-такі ніякавата. Не знаходзіў ён там сабе месца. Сёння ж вёска страціла сваю самабытнасць: "І ўсё, здаецца, як трэба ў новых дамах, але няма ў іх печаў". Разам з імі адышло пачуццё роду, роднасці, радаводнага дрэва.

Назваўшы чарговыя раздзелы "Адвечныя балады" і "Вечнае і роднае", аўтар увёў у іх у якасці персанажаў зноў-такі абагуленыя вобразы. Здавалася б, нічога канкрэтнага не вылучыш, не згадаеш пэўнага чалавека. Але гэта толькі першаснае адчуванне, бо, улічваючы, разумееш, што на месца гэтага героя можна лёгка падставіць свайго, з ягонымі рысамі, індывідуальнымі асаблівасцямі. І тым не менш твор застанецца тым жа самым творам, бо глыбінная роля яго заключаецца ў тым, каб раскрыць значэнне пэўнага вобраза для кожнага чытача.

Праблемы застаюцца. Яны рэдка вырашаюцца канчаткова. Асабліва калі ўлічыць, што праблемы бываюць "вечныя": "Лес памёр. // І лятаюць над ім ашалела вароны // І крычаць, што на свеце няма і не будзе дабра. // У Царыцы Вужакі зладзюгі ўкралі карону" ("Балада пра сухі лес").

І яшчэ. Паэт спрабуе нідзе не дапусціць перарывання традыцый, бо яна для яго самае галоўнае — не толькі ў творчасці, але і ў жыцці. Таму нават асацыятыўнасць, метафарычнасць творцы заўсёды глыбінная, "гаворачая": "Божыя кароўкі — гэта кроплі крыві // З-пад цярновага вянка, // Што на галаве ў Хрыста" ("Божыя кароўкі").

…Памяць — вельмі важная для В. Шніпа катэгорыя, яна ні ў якім разе і ніколі не павінна знікнуць: "Мільёны свечак асвяцілі край, // Каб душы продкаў бачылі iзноў" ("Дзяды").

# Веку, Радзіме, Праўдзе

Мікола БЕРЛЕЖ

Канечне ж, не верыцца, што яму, паэту, празаіку, публіцысту, перакладчыку, краязнаўцу Сяргею Панізніку, ужо 70 гадоў… Калі аддічваецца такая мяжа, то міжволі задумваешся пра абсягі зробленага, здзейсненага мастаком слова. А Сяргеем Сцяпанавічам, нягледзячы ні на што, зроблена сапраўды шмат.

*Мяне адкрывалі моры,*
*мяне адкрывалі горы,*
*і гора —*
*цяжкай навалай —*
*таксама мяне адкрывала.*
*І я,*
*напалову зведаны,*
*прахоДзіў маўклівым сведкам.*
*Я добра не вызнаў шлях,*
*яшчэ не абраў*
*каляіны,*
*бо ведаў —*
*яшчэ зямля*
*Сына*
*адкрыць павінна.*
*Каб з новай патрэбай жыць*
*і шчыраму сэрцу парадзіць*
*самога сябе адкрыць*
*веку,*
*Радзіме,*
*праўдзе.*

Так напісаў у першай сваёй кнізе "Кастры Купалля" (Мінск, 1967) Сяргей Панізнік, тады яшчэ курсант аддзялення журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. А жыццё не песціла яго, адкрытага "веку, Радзіме, праўдзе" і шчырага ў гэтым адкрыцці, гэтым служэнні. З войска (праўда, ужо атрымаўшы званне капітана) давялося звольніцца. Спрабавалі "зволіць", вывесці і з літаратуры. На шчасце, апошняе не атрымалася. І Сяргею Панізніку засталося і раней прызначанае яму заданне — маліцца за Беларусь, шукаць і агучваць тыя духоўныя вытокі, што з чалавека маўклівага, простага і безгалосага выхоўваюць свядомую асобу з гонарам і годнасцю.

Першы зборнік "Кастры Купалля", напісаная ў войску кніга "Палявая пошта" былі добрым, вартым далейшага развіцця грунтам, асновай. "А ёсць у цябе // канверты, // без маркі, // без подпісу? // Дай адзін мне, // блакітны. // Напішу на ім адрас: // "Беларусь. // У краіну сінечы…" — так адкрываліся "Кастры Купалля". Над радкамі ў якасці застаўкі — блакітная мініяцюра кніжнага графіка У. Басальгі. З лодкамі, што гойдаюцца на азёрных хвалях, вясковымі хатамі ўдалечыні, месяцам, які прабіваецца да вады… Малюнак дадаваў настрою. І разам з радкамі верша выбудоўваў асаблівую, трывалую сувязь чытача з паэтам.

Мне здаецца, што ў паэзіі Сяргея Панізніка няма выпадковых знаёмцаў. Ужо аднойчы прыхінуўшыся да яго вершаў, яго кнігі, застанешся назаўсёды ў палоне пяшчоты, спагады, дабрыні, шчодра раскіданай па старонках заўжды невялікіх памерам паэтычных зборнікаў. Так здарылася асабіста ў мяне. Мо яшчэ і таму, што ўпершыню радкі С. Панізніка патрапілі на вочы ў тым самым Львове, той самай Украіне, з якімі ў 1960-я гг. парадніўся беларускі юнак. Парадніўся так, што не мог не праспяваць "Песню Украіне".

*Калісьці паміж двух шнуроў пшаніцы*
*спынілі двое на мяжы плугі.*
*І з іх адзін назваўся украінцам,*
*і беларусам вызнаўся другі.*

*Абое селі і на родных мовах*
*паміж сабой гамонку павялі.*
*І стала іх ратайская размова*
*найпершай дыпламатыяй зямлі.*

*Сусед суседу верыў і ахвоча*
*не раз дапамагаў у жорсткі век.*
*Аб Украіне марыць Багдановіч,*
*на Беларусі Камянер жыве.*

*Тут Сеч бунтарскай еднасцю апаліць*
*і ўскалыхне, як вольны вецер плёс.*
*Здаецца, лёс трывожнага Купалы*
*згадаў Тараса неспакойны лёс.*

*Я сінявокім краем ганаруся,*
*куды б вандроўны вецер ні паслаў.*
*Не жыў бы ў сэрцы сум па Беларусі —*
*я Украіну б роднаю назваў.*

Ды дабрыня, лагода, спакой суседнічаюць з трывалацю, цвёрдасцю маральных, нацыянальных перакананняў Сяргея Панізніка. Гэта, у прыватнасці, выразна праявілася ў кнізе паэзіі "А пісар земскі…" Не, не ваяўнічасць, а грамадзянскасць, вера ў першароднасць Айчыны, яе моц і сілу — характарыстыка многіх старонак згаданага зборніка.

Працуючы ў 1980-я гг. у выдавецтве "Юнацтва", Сяргей Сцяпанавіч шмат сіл, намаганняў прыклаў для стварэння кніг, адрасаваных юнаму чытачу. Асабліва вылучаюцца ўкладзеныя паэтам гадавікі "Бацькаўшчына". З іх склалася цэлая бібліятэка, сапраўдная кніжная серыя. І шкада, што яна не мае сёння працягу. Як публіцыст, празаік Сяргей Панізнік выявіў сябе старанным збіральнікам памятак пра лёсы дзяцей у Вялікую Айчынную, пра спаленыя ў вайну вёскі. Напісаныя ў выніку кнігі сталіся яскравым абвінавачвальным актам супраць дзеянняў фашысцкіх карнікаў у Другую сусветную…

І ці не самае найвялікшае захапленне пісьменніка — краязнаўчая работа. Сяргея Панізніка хвалюе ўсё, што звязана з яго роднай Верхнядзвіншчынай, Міёршчынай, яе ваколіцамі. Дарэчы, якраз дзякуючы руплівасці паэта, на Віцебшчыне былі рэалізаваны многія грамадска-асветніцкія ініцыятывы, праведзены дзясяткі сустрэч, прэзентацый у самых розных куточках Прыдзвінскага краю. Вось і вядомага рускага пісьменніка Сяргея Сартакова Сяргей Сцяпанавіч доказна "звязаў" з Беларуссю, Віцебшчынай. Наладзіў ліставанне з сям'ёй маскоўскага празаіка, запрасіў у Верхнядзвінск яго дачку Таццяну Сяргееўну. Яна прывезла ў Беларусь каштоўныя фотаздымкі, кнігі з аўтографамі бацькі і яго ліст ад 27 верасня 1998 г., у якім знайшлося месца і такім словам: "…После телефонных разговоров с удивительным человеком Сергеем Степановичем Панизником я окунулся в воспоминания детства, отрочества, юности. Думаю о недосягаемой теперь для нас Белоруссии, такой притягивающей, манящей, зовущей. Ведь здесь мои корни — в Витебской губернии, Дрисенском уезде, деревне Пушкино. Именно здесь родилась и выросла моя мама — Анна Яковлевна Нарубина. Она была дочерью Белорусской земли, и значит — я внук Белорусской земли…"

Семдзесят гадоў з дня нараджэння… Сорак пяць гадоў з часу выдання першага паэтычнага зборніка "Кастры Купалля…" Але ж гэта не мяжа, жыццё працягваецца. Завершана падрыхтоўка рукапісу кнігі "На падкове Дзвіны", дзе сабрана ўсё, што раней пісьменнік друкаваў пра родныя мясціны, ураджэнцаў краю, радавод. Пачата праца над укладаннем наступнай кнігі — "Светач-полымя" пра дыфузію культур, да якіх прычыніўся літаратар, пра яго Львоў, Вільню, Рыгу, Прагу. Думае Сяргей Сцяпанавіч і пра здзяйсненне іншых планаў, іншых творчых праектаў. Няхай жа ўсё задуманае збудзецца!



Алег Салтук

# І коласа ў поля прашу…

## Дарога

*Пайду, покуль вочы глядзяць,*
*І хочацца ў ростанях крочыць,*
*Каб слова знайсці і сказаць*
*Усім, хто паслухаць захоча.*

*Не трапяцца людзі, дык не,*
*Знайду субяседнікаў іншых:*
*Лясных галубоў на сасне,*
*Драздоў на павысахлых вішнях.*

*Сустрэнуць прыветна яны*
*І будуць нібыта вініцца,*
*Чаму з векавечнай сасны*
*Без толку сцякае жывіца.*

*Дзе вішняў сухіх гаспадар,*
*Куды ён падаўся, нябога?..*
*Які неабдымны абшар,*
*Якая крутая дарога!*

*Ды ўсё ж я пайду і пайду,*
*Пакуль яшчэ сэрца штурхае,*
*І слова такое знайду,*
*Што плача само і спявае.*

## Хаты

*Мы з хацін усе пайшлі калісь,*
*Там душой і целам прырасталі,*
*І хаціны тыя на зямлі*
*Гарады надзейна падпіралі.*

*Там жыла святая талака,*
*Там былі адзін другому рады.*
*Чэрпалі з бяздоннага стаўка*
*Любасць, чалавечнасць і спагаду.*

*А сягоння гонкія муры*
*Захінулі нізкія хаціны.*
*Шкода ўсіх, што там ні гавары,*
*Хоць ніхто ні ў чым*
*тут і не вінны.*

*Я люблю стракатасць гарадкоў*
*І сумую па сасновых хатах:*
*Ім стаяць бы пасярод вякоў*
*Мудра, і надзейна, і крылата.*

## Поле

*Здаецца, што я не пішу,*
*А дзікае поле кашу.*

*Не поле, а цаліну,*
*Збялелую ад палыну.*

*На полі абложыстым тым*
*Злятае з дзядоўніку дым.*

*І ўсюды, куды ні зірні,*
*Рагатыя камяні.*

*Няма калі спачываць,*
*Бо поле шчэ трэба ўзараць,*

*Якім бы яно ні было*
*І чым бы ні прарасло…*

*Я дзікае поле кашу*
*І коласа ў поля прашу.*

## Вяртанне

*Вясной, зімою, восенню і летам,*
*Калі туга драпежніцай дзяўбе,*
*Вяртаюся з аблуднага я свету*
*У вёсачку малую — да сябе.*

*І ўраз спакой душу на месца ставіць,*
*І зноў, нібы ў маленстве залатым,*
*Плыве-ляціць, не могучы растаяць,*
*Пад стрэхамі Радзімы сіні дым.*

*Я дыхаю, жыву і адчуваю,*
*Што зноўку здабываю і люблю*
*Да радасці, да болю, да адчаю*
*Адну сваю маленькую зямлю.*

## Дыханне

*Прыроды спаконвечнае дыханне*
*Не прападае і не прападзе,*
*Як шал зары і ветру хваляванне,*
*Як зоркі патанулыя ў вадзе.*

*Травінак замаркочаныя мроі,*
*Дубоў разгалых волатаўскі шум.*
*І нешта невядомае такое,*
*Што пазірае знекуль у душу.*

*Яго ніхто не чуе і не бачыць,*
*Хаця ўсё гэта зрэдку бачыш ты.*
*Глядзіш, пакуль ад шчасця не заплачаш*
*У прадчуванні дзіўнай пекнаты.*

*І твае слёзы высушыць дыханне*
*Нячутнае, нябачнае нідзе,*
*Якое ад світання да змяркання*
*Не прападае і не прападзе.*

## Каменне

*Маўчыць зымшэлае каменне*
*І неба велічна маўчыць.*
*І да сардэчнага знямення*
*Крычаць трывожна пугачы.*

*І немата, і крык вясёлы*
*Здзічэлых птушак будзяць слых.*
*І крыж цяжэе на рамёнах —*
*Плячах прыгорбленых тваіх.*

*Гады ляцяць, круглеюць даты.*
*І горб расце, і крыж гняце.*
*І надыходзіць час адплаты,*
*Хацеў бы ты ці не хацеў.*

*Стаю на стомленых каленях.*
*Ані кала, ані двара…*
*Ляжыць маўклівае каменне,*
*Якое шчэ не дазбіраў.*



Фота Кастуся Дробава



Алесь Бардоўскі

# На Пісьмянковым лузе…

*У роспачы, у скрусе*
*Кранае ветрык скронь.*
*На Пісьмянковым лузе*
*Чужы пасецца конь.*

*Чужыя людзі ў хаце,*
*Чужыя не сыны…*
*А бацька побач з маці —*
*На могілках яны.*

*А сын далёка дзесьці,*
*Там, дзе свае крыжы.*
*Куды ж прыедуць дзеці,*
*Як бацькаў дом чужы?*

*І хлапчукам вясковым*
*Не чутны гэты боль…*
*На лузе Пісьмянковым*
*Чужы пасецца конь.*

## Хросныя

*Дзесьці за дарогамі,*
*Там, дзе сок бяроз,*
*За гадамі доўгімі*
*Я калісьці рос.*

*Памятаю добра я:*
*Перад хатай — бэз,*
*Бесядзь — маці хросная,*
*Бацька хросны — лес.*

*Там багун на купінах*
*І сасновы звон…*
*Ды не вернеш згубленых,*
*Непаўторных дзён.*

*А дарогі розныя*
*Ўсё туды завуць...*
*Паўміралі родныя,*
*Хросныя — жывуць!*

## Суніцы

*Спомін лета мроіцца далёкі —*
*Чэрвень аксамітам запалаў.*
*Я суніцы браў з тваёй далонькі,*
*Вуснамі тваімі запіваў.*

*І п'янеў, як быццам ад настойкі,*
*І ляцеў я зноў і зноў здалёк*
*На блакітных воч тваіх вясёлкі —*
*Нібы на цяпельца матылёк...*

*Развялі нас розныя дарогі,*
*Шмат гадоў ад тых часін прайшло...*
*Я суніцы браў з тваёй далонькі,*
*І смачней ніколі не было.*

## Арэлі

*Жніўеньскія ночы дагарэлі —*
*Сумная, прыгожая пара.*
*Вецер ціха гойдае арэлі*
*Пад святлом начнога ліхтара.*

*Не стаміліся мы і не захварэлі,*
*Можа, гэта ўзрост ужо такі —*
*Як раней, не вабяць нас арэлі*
*І не вабяць нават летакі...*

*Душы мы сустрэчаю сагрэлі.*
*І — маўчым. Няма чаго сказаць:*
*Ланцугі, што звязваюць арэлі,*
*Нас з табой не здолелі звязаць.*

*Мы не пастарэлі — пасталелі.*
*Пастаім. Злятае лісце з дрэў.*
*Вецер ціха гойдае арэлі...*
*Месяца ліхтар не дагарэў...*

## Фрэскі

*Адляцелі жоўтых лісцяў рэшткі*
*На свае адвечныя кругі,*
*І намалявала восень фрэскі*
*Фарбамі разлукі і тугі.*

*Залацістай вохрай і краплакам*
*Акрапіла даляглядаў шоўк…*
*Вось і дождж апошні раз паплакаў —*
*Сёння снег упершыню пайшоў…*

*Нішчыць шэрань белая пароша,*
*Замятае фрэскі, вітражы.*
*На зямлі так светла і прыгожа —*
*Сумна і трывожна на душы…*



Аляксандр Новік

## Мой родны край

*Часінай майскай зацвілі сады —*
*І ажылі абвесненыя далі.*
*Чаромха, як і ў даўнія гады,*
*Ў стаўку палошча белыя каралі.*

*Лагодны ветрык зноўку мне прынёс*
*Бязгрэшных птушак срэбраныя спевы,*
*Душэўныя, знаёмыя да слёз,*
*Узвышныя, без кропелькі сумневу.*

*Мой родны край, не засыпай слядоў*
*Маёй вясновай радасці далёкай.*
*Каторы раз пустэльна ля садоў,*
*На скронях след ад восені глыбокай.*

*Над лёсам зноў — барвовыя лісты,*
*Ды мне чамусьці мроіцца праз далі*
*Чаромха, што ў стаўку да цемнаты*
*Свае палошча белыя каралі.*

* * *

*Сонца промнік гуллівы*
*Атуляе мой дом.*
*Лёгкі клін жураўліны*
*Зноў махае крылом.*

*Прамільгнула паўлета,*
*Хутка й восені цень.*
*Парыжэе планета,*
*Замаркоціцца дзень.*

*Паляціць павуціна,*
*Свой пакінуўшы дом.*
*Зноўку клін жураўліны*
*Памахае крылом.*

## На радзіму

*Надакучылі зімы суровыя,*
*Беларускае кліча сяло,*
*Дзе паляны, лясы верасовыя,*
*Дзе маленства-юнацтва прайшло.*

*Дзе бярозы звіняць беластвольныя,*
*Дзе каштаны і ліпы шумяць,*
*А дзяўчаты чароўна-свавольныя*
*Ад усмешак, здаецца, зіхцяць...*

*Зазірну ў гэты край. Лета звонкае.*
*Родны кут. Дарагая зямля.*
*І пальецца дзівосная, тонкая*
*Салаўіная песня здаля.*

*Пастаю, як калісь, над рачулкаю,*
*Па траве прабягуся наўзбоч...*
*Хлапчуком тут калісьці расчулена*
*Коней пасвіў на лузе ўсю ноч...*

## Ты даруй

*Ты даруй за вячэрні званок.*
*Адгуло наша звонкае лета.*
*Будзь заўжды цеплынёю сагрэта!*
*Хай пяшчотаю поўніцца крок!*
*Ты даруй за вячэрні званок.*

*Ад чаромхавай нашай вясны*
*Абляцелі пялёсткі на гоні.*
*Дык чаму ж яна сніцца й сягоння,*
*Навяваючы горкія сны?*
*Той далёкай, мінулай вясны...*

* * *

*Я такой не страчаў аніколі,*
*Пра такую не марыў і ў снах.*
*Узышла, як вясёлка над полем,*
*У маіх — і не толькі — вачах.*

*Маладыя дзівіліся. "Гэту*
*Украдуць", — хтось прадрок са старых.*
*І абцасы, нібы на паркеце,*
*Так таемна лагодзілі слых...*

*Дагарала зара на адкосах,*
*Ноч халоду няcла давідна.*
*І шапталіся доўга бярозы:*
*"Ой, якая ж красуня яна!"*

**Пераклад з рускай**
**Міколы ШАБОВІЧА**

# Майскіх птушак чарада

**Тыдзень таму завяршыўся Адкрыты конкурс маладых выканаўцаў "Убельская ластаўка", які носіць імя класіка беларускай і польскай музыкі Станіслава Манюшкі. Арганізавалі, а дакладней — адрадзілі гэтае, некалі даволі папулярнае, спаборніцтва спевакоў-пачаткоўцаў упраўленне культуры Мінскага аблвыканкама, Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр і Творчы калектыў "Беларуская Капэла".**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Віктара Кавалёва**

## Перад узлётам

Што гэта было? Вельмі сур'ёзная ў сваёй сутнасці (нягледзячы на вонкавую някідкасць, пэўную камернасць) падзея, у якой ёсць магутны творчы, духоўны патэнцыял, а пры адпаведнай рэгулярнай фінансавай падтрымцы можа быць нават міжнародная перспектыва, бо конкурс паводле свайго статусу — Адкрыты. Дзякуючы энтузіязму людзей мастацтва, неабыякавых да лёсу айчыннага вакальнага выканальніцтва, і мудрай дальнабачнасці спонсара ўдалося зладзіць праект, скіраваны на падтрымку адораных маладых выканаўцаў і на развіццё нацыянальнага вакальнага мастацтва. Гэта значыць, скіраваны ў будучыню.

Менавіта арыентуючыся на будучыню, на штогадовы працяг свайго праекта, арганізатары конкурсу маюць на мэце прымнажэнне духоўнага, інтэлектуальнага і культурнага патэнцыялу моладзі з дапамогай вакальнага мастацтва, яе патрыятычнае выхаванне праз выкананне музычных твораў беларускіх аўтараў; папулярызацыю творчай спадчыны выдатнага беларуска-польскага кампазітара Станіслава Манюшкі; вывучэнне творчага патэнцыялу маладых выканаўцаў, выяўленне на раннім этапе навучання найбольш таленавітых вакалістаў, стымуляванне іх далейшага развіцця ў абраным кірунку дзейнасці; павышэнне выканальніцкага ўзроўню канкурсантаў шляхам прафесійных кансультацый з членамі журы; абмен прафесійным досведам паміж педагогамі музычных навучальных устаноў Беларусі.

Многія добрыя людзі дапамагалі ўдзельнікам конкурсу "станавіцца на крыло". А іх узлётная пляцоўка трымалася, можна сказаць, на трох кітах. Гэта знаны вакальны педагог Адам Мурзіч, які з прыходам на пасаду мастацкага кіраўніка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра задумаў наладзіць пад эгідай БДАМТ прафесійнае спаборніцтва для маладых спевакоў, перастварыўшы на новым узроўні ўсебеларускі конкурс "Убельская ластаўка". Гэта кіраўнік "Беларускай Капэлы" Віктар Скорабагатаў, які цягам дваццаці гадоў праз асветніцкія праграмы фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы", выдавецкія праекты, уласную канцэртную і педагагічную дзейнасць шмат зрабіў для вяртання імя і творчасці нашага земляка С. Манюшкі ў культурную свядомасць беларусаў, для прапаганды ў нас, на радзіме вялікага славянскага кампазітара-класіка, перадусім яго вакальнай музыкі з тэкстамі, агучанымі па-беларуску. А трэці "кіт"? Гэта не так даўно прадстаўлены чытачам "ЛіМа" мецэнат Алег Уладзіміраў, які забяспечыў істотную матэрыяльную падтрымку ў правядзенні конкурсу.

Адборачны тур "Убельскай ластаўкі" прайшоў у спецыялізаваных навучальных установах розных рэгіёнаў краіны і сталіцы. Наступныя два ладзіліся ўжо ў сценах музычнага тэатра. Урачысты інтэр'ер артфае, магія вялікай залы! Так што і настрой у маладых спевакоў быў як ніколі ўрачысты, і хваляванне асаблівае, і пачуццё прафесійнай адказнасці шчырае. Паводле конкурсных умоў удзельнікі II тура выконвалі старадаўнюю арыю і беларускую народную песню, а фіналісты — твор С. Манюшкі (песню альбо раманс) і раманс на ўласны выбар (рускага або іншага замежнага аўтара ці кампазітара XX — XXI стст.).

Спаборнікаў ацэньвала каманда высакакласных "суддзяў": тытулаваны артыст, прафесар Віктар Скорабагатаў (старшыня журы); заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік БДАМТ Адам Мурзіч; знакамітая салістка гэтага тэатра і педагог Наталля Гайда; дэкан вакальна-харавога факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, прафесар Валерый Аўраменка; зоркі айчыннай опернай сцэны Аксана Волкава і Уладзімір Громаў (дарэчы, абое ў студэнцкія гады сталі адкрыццямі "Убельскай ластаўкі", лаўрэатамі I прэміі).

## Акрыленыя галасы

Праслухоўванне завяршылася, вынікі абвясцілі ў той жа дзень. І назаўтра ўдзельнікі конкурсу выправіліся на радзіму Станіслава Манюшкі. Наведалі адзіны ў свеце музей кампазітара, размешчаны на гістарычнай ігуменскай зямлі, ды тое памятнае месца, дзе яшчэ на пачатку Вялікай Айчыннай вайны стаяла колішняя радзінная сядзіба Манюшкаў — Убель. А праз некалькі гадзін у горадзе Чэрвені, у раённым Цэнтры культуры і адпачынку адбылася ўрачыстая імпрэза з уручэннем дыпломаў і каштоўных прызоў ды заключны гала-канцэртам. Ладзілася яна напярэдадні дня нараджэння С. Манюшкі (5.05.1819 — 4.06.1872). Зусім лагічна, што В. Скорабагатаў перш чым распачаць цырымонію ўзнагароджвання пераможцаў нагадаў некалькі фактаў з біяграфіі кампазітара і з гісторыі конкурсу, які быў арганізаваны ў межах колішняга фестывалю "Убельская ластаўка", запачаткаванага па ініцыятыве "Беларускай Капэлы" да 180-годдзя слыннага земляка.

Сама назва — крылатая, спеўная і вельмі сімвалічная — паходзіць ад сямейнага падання Манюшкаў, пра што мы пісалі ўжо неаднойчы. Але, мабыць, варта і нагадаць? Дык вось, на сядзібе Убель неўзабаве пасля нараджэння Станіслава адбылося нешта дзіўнае: заляцела ў дом ластаўка і акурат над калыскай немаўляці пачала гняздо ладзіць. Людзі ўбачылі ў гэтым знак ласкі Божай: дзіцяці дадзены асаблівы талент, яму наканаваны паспяховы творчы лёс!



*Лаўрэат I прэміі Віктар Гайдукоў.*

Каму ж сёлета з нашых студэнтаў і навучэнцаў пашчасціла на сімвалічную ўвагу празорлівай майскай птушкі?

Дыпламантамі конкурсу сталі Ілья Белякоў (Магілёўскі дзяржаўны музычны каледж імя М. А. Рымскага-Корсакава), Святлана Русак (Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі), Алеся Шкатула (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў).

А вось і лаўрэаты: III прэмію атрымалі Дзмітрый Мулярчык (Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі) ды Крысціна Нікалаева (Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі); II прэмію — Дар'я Валожына (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў), Андрэй Мацюшонак (Маладзечанскі дзяржаўны музычны каледж імя М. К. Агінскага) ды Дзмітрый Янчанка (Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі); I прэміяй узнагароджаныя Віктар Гайдукоў (Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі) ды Вольга Маліноўская (Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі).

Вызначыліся пераможцы ў такіх важных конкурсных намінацыях, як "Найлепшае выкананне беларускай песні" — Аляксей Яравенка (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў) і "Найлепшае выкананне твора Станіслава Манюшкі" — Андрэй Мацюшонак.

Дыпломамі за найлепшы акампанемент журы ўзнагародзіла канцэртмайстраў Лілію Грыневіч і Таццяну Лойшу.

Канцэртная праграма, якую вяла маладая салістка БДАМТ Ганна Бяляева, уразіла палітрай мужчынскіх галасоў — і новых, і добра знаёмых (поруч з лаўрэатамі "Убельскай ластаўкі-2012" выступілі прызнаныя, вядомыя далёка за межамі Беларусі, майстры музычнай сцэны і вакальнага мастацтва). Першым нумарам была знакамітая Манюшкава "Праснічка" (вершы Яна Чачота) у тэнаравай версіі. Выкананне Андрэя Мацюшонка ў ансамблі з канцэртмайстрам Веранікай Жданюк кранала адчуваннем стылю, свежым, роўным, напоўненым гучаннем голасу. Яшчэ адзін прыгожы і моцны тэнар з лірыка-драматычным адценнем раскрыўся ў беларускай народнай песні "Ой, рана на Івана": спяваў Дзмітрый Янчанка (канцэртмайстар Ірына Падамацька). Незвычайным тэмбрам, у якім можна вызначыць рэдкасныя фарбы контр-тэнара, уразіў Ілья Белякоў.

Уладальнікі нізкіх галасоў Віктар Гайдукоў, Дзмітрый Мулярчык і Аляксей Яравенка адмыслова ўзбагацілі атмасферу вечара. Прытым А. Яравенка, пакуль не скіраваны на прафесію спевака (вучыцца "на акцёра"), паланіў нават самых патрабавальных спецыялістаў надзвычайнай абаяльнасцю і артыстызмам, інтанацыйнай трапнасцю, стварыўшы на сцэне яскравы жанравы вобраз песні "Ой, ды ў нашым сяле свадзьба будзе" (канцэртмайстар Таццяна Лойша). А В. Гайдукоў выканаў, апроч замоўленага ў праграме раманса П. Чайкоўскага на верш А. Талстога "Сярод шумнога бала" песню І. Лучанка на верш М. Ясеня "Ліст з 45-га" — з прысвячэннем Дню Перамогі (канцэртмайстар Тамара Астапенка). А што ўжо казаць пра нашых оперных майстроў-барытонаў Віктара Скорабагатава ("Дзед і баба" С. Манюшкі на тэкст Ю. Крашэўскага воляю яго таленту пераствораны ў монаспектакль!), Ілью Сільчукова (з якім узрушальным трагізмам пражыў ён баладны расповед С. Манюшкі на верш Я. Чачота "Казак", а затым зачараваў віртуозным бельканта ў "Світанку" Р. Леанкавала!)...

Выразныя беларускія вобразы, афарбаваныя гумарам і лірычныя, раскрываліся ў выступленнях Крысціны Нікалаевай, Дар'і Валожынай, Вольгі Маліноўскай... А шыкоўныя зоркі двух сталічных тэатраў — Аксана Волкава і Наталля Гайда — паказалі найвышэйшы клас прафесіяналізму ды акцёрскага майстэрства як у творах С. Манюшкі, так і ў заходнееўрапейскай класіцы.

## Галубы, шпак ды... бусел

Перад выездам з Мінска ў Чэрвень нас праводзілі галубы. Ля музея Манюшкі сустракаў шпак. Ластавак мы там не заўважылі: магчыма, усе зляцеліся ў той дзень да вокнаў раённага Цэнтра культуры. Затое па дарозе дадому, на мурожным лузе ля старога Ігуменскага тракта, убачылі вялікага паважнага бусла. Ён стаяў у траве, нібыта паглядаў на сонца, якое ўжо спускалася на спачын. Таксама птушка сімвалічная! Магчыма, бусел прынясе ў наш край новыя таленты, якія атуляць сваімі крыламі спеўная ластаўка, і час адкрые нам іх імёны... Зрэшты, гэта будзе яшчэ не хутка, як, дарэчы, не так і хутка, гадоў праз дзесяць, вызначыцца творчы шлях пераможцаў сёлетняга конкурсу.

Ён паспяхова завяршыўся, і цяпер можна паглыбіцца ў сутнасць падзеі, памеркаваць і паспрачацца, што ўдалося, а што не, зрабіць высновы на будучыню. Адно бясспрэчна: "Убельская ластаўка" павінна прыляталь да нас кожную вясну.

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА,**
**фота Кастуся Дробава**

Рэпетыцыі спектакля "Лістапад. Андэрсен" паводле п'есы Алены Паповай распачаліся ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Аўтар ідэі і рэжысёр-пастаноўшчык новага твора — Мікалай Пінігін. Паводле яго задумы, гэта будзе спектакль для рэалізацыі майстэрства сталага пакалення акцёраў, праз чыіх герояў — бабулек і дзядуль, апавядальнікаў нібыта знаёмых казак, будзе адмысловым чынам адрасавана важнае жыццёвае пасланне дзецям. Над сцэнаграфіяй працуе Барыс Герлаван, мастак па касцюмах — Алена Ігруша, кампазітар — Андрэй Зубрыч, балетмайстар — Наталля Карчэўская. У ролях — Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Гарбук, Арнольд Памазан, Галіна Арлова, Марыя Захарэвіч, Георгій Маляўскі, Зінаіда Зубкова, Тамара Нікалаева... Словам, усё "зорнае" пакаленне купалаўцаў.

Барытон саліста НАВТ оперы і балета Беларусі Ільі Сільчукова настолькі ўразіў журы І Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Мусліма Магамаева, што строгія суддзі (Тамара Сіняўская, Алена Абразцова, Тамара Гвердцытэлі, Юрый Башмет, Мішэль Легран ды інш.) аддалі нашаму спеваку лаўры пераможцы. Было гэта два гады таму ў Маскве. А сёлета ў Гомелі, у Белай гасцёўні палаца Румянцавых і Паскевічаў, ладзіцца праграма, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння Мусліма Магамаева, незабыўнага ўлюбёнца мільёнаў слухачоў. Перад гасцямі гомельскага "Музычнага салона" выступіць паспяховы беларускі спявак, лаўрэат многіх міжнародных конкурсаў І. Сільчукоў. Прагучаць папулярныя вакальныя творы з рэпертуару М. Магамаева. Канцэрт плануецца на 30 мая.

Жывапіс і графіку Анатоля Пашкевіча прадстаўляе выстаўка "Слухаючы прыроду ў фарбах цішыні", што адкрылася ўчора ў Гарадской галерэі твораў Л. Шчамялёва. Прыхільнік пленэрнага мастацтва, А. Пашкевіч атрымаў магутны зарад творчага натхнення яшчэ ў юначыя гады, на сваёй радзіме ў маляўнічым латвійскім мястэчку Дагда, дзе праводзіў заняткі вядомы жывапісец, прафесар Эдуард Калныньш. Скончыўшы Маскоўскі народны ўніверсітэт мастацтваў, А. Пашкевіч амаль тры дзясяткі гадоў працаваў афармiцелем на розных аб'ектах у Латвіі, Беларусі, Украіны. Цяпер ён жыве ў Мінску і захоплена займаецца творчай справай. У галерэі экспануецца каля 40 работ 78-гадовага мастака: пейзажы, нацюрморты, створаныя ў розны час. Як адзначае мастацтвазнаўца Марыя Міхайлава, прыдуманыя сюжэты яго карцін здаюцца зусім рэальнымі, нават натуралістычнымі, а простыя вясковыя матывы ператвараюцца ў таямнічыя і казачныя гісторыі, пачутыя мастаком ад самой прыроды. Наведаць выстаўку можна да канца месяца.

Соты паказ спектакля "Утаймаванне свавольніцы" паводле неўміручай камедыі У. Шэкспіра адбудзецца 18 мая ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага. Мноства сцэнічных і экранных варыянтаў гэтай папулярнай камедыі з'явілася за сотні гадоў яе існавання. Горкаўцы прапануюць свой: "драматычны твор у жанры мюзікла". Яго прэм'ера адбылася ў лістападзе 2006-га, але цікавасць публікі да вясёлай і дасціпнай гісторыі "ўтаймавання" дагэтуль не згасае. Можа, прычына ў трактоўцы рэжысёра Валянціны Ераньковай, кампазітара Аляксея Ераньковa ды іх суаўтараў па спектаклі? Ці ў яскравым акцёрскім ансамблі, дзе занятыя Сяргей Чакярэс, Вераніка Пляшкевіч, Сяргей Жбанкоў, Юлія Кадушкевіч, Андрэй Захарэвіч, Аляксандр Суцкавер ды іншыя выканаўцы? А можа, — у самім Шэкспіры?

**Фрыдрых МОДАЛЬ**

**Прапануем увазе чытача працяг тэатральных нататак Фрыдрыха Модаля, першы раздзел якіх надрукаваны ў нумары за 27 красавіка.**

**Аддзел мастацтваў «ЛіМа»**

# Сучасная казка

## Маналог пра статыстыку, тэатр і правае паўшар'е

Знячэўку падаў голас мой камп'ютар: па сусветным павуцінні прыляцела нейкая інфа. Аказалася — ліст ад майго сына.

"Нядаўна ты спытаў: "Чаму ты, такі адукаваны, развіты, інтэлігентны чалавек, рэдка бываеш у тэатры?"

Мне не схацелася напружвацца, бо хапае гэтага на працы, таму паспрабаваў ухіліцца ад адказу: "Не ведаю, — сказаў я. — Не магу табе растлумачыць. Калі б мне не падабаўся тэатр — я б так і адказаў. Але тэатр мне падабаецца".

Мы высветлілі ў размове, што хутчэй за ўсё мне замінае элементарная лянота кудысьці ісці пасля працы, калі можна пасядзець на канапе перад тэлевізарам ці за камп'ютарам. Абмеркавалі адвечную праблему фізікаў і лірыкаў і шмат чаго яшчэ.

Гутарка атрымалася доўгая, мы не спрачаліся, а быццам намацвалі разам нейкія балючыя кропкі, пашыраючы наша агульнае ўсведамленне гэтага свету. Ты прасіў мяне запісаць размову сваімі словамі, што я цяпер і спрабую зрабіць.

Першы момант: рацыяналістычная тэндэнцыя ў адукацыі, якая нарадзілася ў свеце развітога капіталізму і паволі перавандроўвае ў сістэму адукацыі Расіі і Беларусі. Паводле гэтай сістэмы імкнуцца вучыць чалавека толькі таму, што яму спатрэбіцца ў яго будучай прафесіі, вучыць дыхтоўна і старанна, каб з яго атрымаўся класны спецыяліст. Астатняму не вучаць, бо гэта — лішнія выдаткі. Людзі, такім чынам, выхоўваюцца робатамі вялікага механізму, без шырыні ведаў. Я прыгадаў вычытаную дзесьці думку, што колькасць ведаў, якімі валодае чалавецтва, расце экспанентна.

Паводле падлікаў навукоўцаў, з пачатку нашай эры для падваення колькасці ведаў спатрэбілася 1750 гадоў, другое падваенне адбылося ў 1900 годзе, а трэцяе — да 1950 года, г.зн. ужо цягам 50 гадоў, пры росце аб'ёму інфармацыі за гэтыя паўстагоддзя ў 8 — 10 разоў. Прычым гэтая тэндэнцыя ўсё больш узмацняецца, бо аб'ём ведаў у свеце да канца XX стагоддзя ўзрос ўдвая, а аб'ём інфармацыі павялічыўся ўжо больш як у 30 разоў. Гэта з'ява атрымала назву "інфармацыйны выбух".

Такім чынам, калі раней магчыма было існаванне людзей усёабдымнай адукацыі, такіх, як Ламаносаў, да Вінчы і іншыя, дык у наш час пры цяперашніх спосабах засваення інфармацыі і магчымасцях чалавечага мозгу адзін чалавек ужо не здолеў бы авалодаць нават малой крыхай усіх назапашаных чалавецтвам ведаў. Праз гэта ўсё больш узрастае спецыялізацыя навук, бо калі раней адзін чалавек мог бесперашкодна вывучыць **усю** фізіку, дык цяпер на гэта не хопіць жыцця. Больш за тое, хуткасць з'яўлення новых дадзеных нават у маленькім спецыялізаваным сектары навукі ўжо такая, што чалавек не здольны ўвесь час за гэтым сачыць. Гэта або тупік, або перадпачатак нейкай якаснай змены чалавека, цывілізацыі ці шляхоў яе развіцця.

Другі момант — роля мастацтва ў наш час. Ці ёсць тэндэнцыя сыходу чалавецтва ад мастацтва ў бок рацыянальнасці? Мастацтва ў прынцыпе не нясе і **не павінна** несці функцыю паведамлення чалавеку новай інфармацыі. Мастацтва ўздзейнічае на ўтварэнне эмоцый чалавека, абуджае адчуванне смеху, жаху, болю і спагады. Можа быць, таму чалавецтву і не пагражаюць ніякія тупікі экспаненцыяльнага росту?

А наколькі трэба гэта сучаснаму чалавеку і чалавеку будучыні? Як спалучаецца ўсёўзрастаючая рацыянальнасць гэтага свету з мастацтвам, якое цяжка ацаніць, немагчыма вымераць? І наогул, што такое "добра" і што такое "дрэнна"? Чалавек, не дасведчаны ў мастацтве, — гэта норма? Проста добры спецыяліст, майстар сваёй справы (скажам, механізатар), які заўсёды працуе выдатна, высакаякасна, але які бавіць свой вольны час не ў оперы і ў дыскусіях пра сучасны жывапіс, а з бутэлькай самагонкі ды ў бойках у сельскім клубе — як гэта ацаніць? І хто мае права тут ставіць нейкія адзнакі?

Чалавечая асоба заўсёды ў чымсьці і "фізік", і "лірык". У кожным ёсць рацыё і эмоцыё. Толькі ў розных прапорцыях. Менавіта за гэта адказваюць два розныя паўшар'і галаўнога мозгу.

Левае паўшар'е апрацоўвае вербальную інфармацыю: адказвае за вашы моўныя здольнасці, кантралюе гаворку, а таксама здольнасці да чытання і пісьма, запамінае факты, імёны, даты і іх арфаграфію.

Левае паўшар'е адказвае за логіку і аналіз. Менавіта яно аналізуе ўсе факты, распазнае лік і матэматычныя знакі.

Інфармацыя апрацоўваецца левым паўшар'ем паслядоўна, па этапах.

Правае паўшар'е апрацоўвае невербальную інфармацыю: спецыялізуецца на апрацоўцы інфармацыі, якая выяўляецца не ў словах, а ў знаках і відарысах, дае нам магчымасць марыць і фантазіраваць, адказвае за здольнасці да музыкі ды выяўленчага мастацтва. З дапамогай правага паўшар'я мы можам складаць розныя гісторыі.

Правае паўшар'е можа аднachасова апрацоўваць шмат разнастайнай інфармацыі. Яно здатнае разглядаць праблему ў цэлым, не ўжываючы аналізу.

Так гістарычна здарылася, што цягам доўгага часу правае паўшар'е галаўнога мозгу выступала ў ролі "выгнанніка" і падвяргалася ўсялякаму трэціраванню. Навукоўцы называлі яго "дармаедам", а хірургі — пры неабходнасці — без ваганняў выдалялі (відаць, лічылі яго гэткім жа бескарысным, як і апендыкс).

Затым непавага да правага паўшар'я была перанесеная і на асацыяваныя з ім функцыі: "Мы жывём у грамадстве, у якім больш шануецца лагічнае мысленне, а людзі з дамінаваннем левага паўшар'я дамагаюцца большага поспеху. Дзіця з дамінуючым левым паўшар'ем, паспяхова выконваючы арыфметычныя дзеянні, рупліва рыхтуючы ўрокі і адрозніваючыся стараннасцю, атрымлівае ў школе выдатныя адзнакі. А дзіця з дамінантным правым паўшар'ем, схільнае марыць, гледзячы на аблокі, ці складаць розныя гісторыі замест таго каб вучыць урокі, лічыцца дрэнным вучнем, бо яго імкненні не заахвочваюцца нашым грамадствам" (М. Здэнек).

У наш час, аднак, сітуацыя карэнным чынам змянілася і пасля перыяду зняважлівага стаўлення да правага паўшар'я прыйшоў перыяд яго поўнай рэабілітацыі і ўсялякай ухвалы. Раптам усе ўцямілі, што паўнавартасная праца правага паўшар'я надзвычай важная для станаўлення і развіцця творчай асобы. Паступова сфарміравалася ўяўленне пра важнасць правапаўшарных функцый і ў такой, здавалася б, адмыслова левапаўшарнай сферы дзейнасці, як заняткі матэматыкай.

Калі большасць простых смяротных сапраўды думае з дапамогай слоў, дык для навукоўцаў гэта не заўсёды характэрна. Большасць выдатных матэматыкаў нашага часу думала зрокавымі, радзей — рухальнымі выявамі.

Гэтаксама працаваў Альберт Эйнштэйн. Ён і знакаміты фізік Нільс Бор з вялікім адставаннем ад сярэдняй нормы авалодалі ў дзяцінстве вуснай, а затым і пісьмовай мовай. Гэта спрыяла большаму развіццю правага паўшар'я, стварэнню адмысловых сістэм унутранай гаворкі, пасля скарыстаных падчас творчай дзейнасці, цалкам абароненай ад умяшання скептычна наладжанага левага суседа з яго слоўным мысленнем і логікай традыцыйнага разумнага сэнсу, што ўрэшце і зрабіла іх вялікімі вучонымі.

Каб творча асэнсаваць праблему, неабходная інтуіцыя, а гэта — найважная функцыя правага паўшар'я. Правае паўшар'е — сфера несвядомага.

Калі адно паўшар'е не працуе, чалавек, вядома, жыве і штосьці робіць у сваім жыцці, але я лічу, што такі чалавек усё адно знаходзіцца ў "выключаным" стане. Нават калі ён дзівіць нас сваёй логікай ці перамнажэннем у розуме шматзначных лічбаў, — гэта нічога не значыць. Гэта функцыі левага паўшар'я, і гэта можа зрабіць камп'ютар, г.зн. жалязяка. "Выключаны" чалавек з адным левым паўшар'ем — гэта біякамп'ютар, але яшчэ не Чалавек.

Чалавек з адным правым паўшар'ем — гэта каласальнае ўяўленне і фантазія, але немагчымасць скласці два і два. Гэта "не ўключаны" чалавек.

Паміж гэтымі крайнасцямі, зразумела, існуе безліч адценняў, але трэба разумець, што калі адно з паўшар'яў працуе істотна горш, г.зн. яго "ёмістасць" малая, то і прыбор не ўключыцца.

Калі ж развіццё абодвух паўшар'яў чалавека гарманічнае — ён "уключаецца". І гэта якасная, а не колькасная розніца. Гэта чалавек, здольны цалкам рэалізаваць свой патэнцыял, ён выдатны, ён геній і творца, і менавіта такім я бачу чалавека будучыні і такою бачу тэндэнцыю развіцця чалавецтва, і ў гэтых варунках мастацтва ніколі не страціць свайго асаблівага значэння, бо звяртаецца ў першую чаргу да правага паўшар'я, стымулюе яго і развівае, як заняткі спортам — нашы фізічныя магчымасці. Чалавеку будучыні гэта неабходна, як паветра".

— У гэтых варунках мастацтва ніколі не страціць свайго асаблівага значэння, бо звяртаецца ў першую чаргу да правага паўшар'я, стымулюе яго і развівае, як заняткі спортам, — паўтарыў я даволі гучна, магчыма, для таго, каб пачула Мельпамена, і дадаў: матэматыкі разумеюць гэта, але ў тэатр чамусьці не надта спяшаюцца.

# Чаго ніхто раней не бачыў

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ,**
**фота Кастуся Дробава**

**Будынкі, якія праектаваў наш зямляк Іосіф Лангбард (1882 — 1951), упрыгожваюць гарадскія ландшафты Мінска, Магілёва, Санкт-Пецярбурга, Кіева... Аднак гэты таленавіты дойлід, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, прафесар, які ўвекапомніў сваё імя ў абліччах такіх адметнасцей беларускай сталіцы, як Дом урада, Цэнтральны дом афіцэраў, Вялікі тэатр оперы і балета, галоўны корпус Нацыянальнай акадэміі навук, для большасці з нас застаецца асобай малавядомай. Чаму?**

З 1935 года І. Лангбард жыў у Ленінградзе, куды быў запрошаны выкладаць у Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры Усерасійскай акадэміі мастацтваў, на кафедры архітэктурнага праектавання. (Між іншым, праз чатыры гады за ўнёсак у развіццё архітэктуры яму без абароны дысертацыі надалі вучоную ступень доктара архітэктуры). Але стасункі з Беларуссю не страціў нават падчас вайны. У лютым 1942-га разам з іншымі педагогамі ды студэнтамі ён быў эвакуіраваны з блакаднага Ленінграда па легендарнай "дарозе жыцця" і апынуўся пад Яраслаўлем, у колішнім уладанні рускага класіка М. Някрасава "Карабіха". А ўлетку аднавіў сувязь з праўленнем Саюза архітэктараў БССР і прычыніўся да яго спраў. У верасні 1944 г. знанага дойліда прызначылі творчым кіраўніком архітэктурна-планіровачнай майстэрні Упраўлення па справах архітэктуры пры СНК БССР... Пасля смерці І. Лангбарда яго жонка Вольга Гаўрылаўна звярнулася ў Саюз архітэктараў БССР і папрасіла дапамагчы вырашыць праблему захавання яго найбагацейшага творчага архіва. На яе просьбу нават не адгукнуліся, і ў 1967 г., не дачакаўшыся адказу, В. Лангбард перадала архіў у Музей гісторыі Ленінграда. У 2007 г. супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі Санкт-Пецярбурга выдалі каталог гэтага найцікавага збору і наладзілі адпаведную выстаўку.

І вось ужо на працягу месяца мы адкрываем для сябе "невядомага" Лангбарда. Рэдкасныя матэрыялы з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі, Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама, ДМГ Санкт-Пецярбурга дэманструюцца на выстаўцы, прысвечанай 130-годдзю выдатнага дойліда, разгорнутай у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. А ўнікальныя экспанаты, якіх у нас не бачылі нават спецыялісты, прывезлі піцерскія інтэлігенты — Святлана Сяргееўна і Канстанцін Юр'евіч Сакаловы, родзічы жонкі І. Лангбарда. З іх сямейнай калекцыі — адметныя асабістыя рэчы і станковыя графічныя ды жывапісныя работы Іосіфа Рыгоравіча, які, аказваецца, любіў маляваць. Тут і чарада "Архітэктурных фантазій", выкананых на кардоне акварэльнымі фарбамі ды тушшу, падобных да эскізаў дэкарацый з пастановак гістарычных драм. І мініяцюрны лакавы партрэт прыгажуні жонкі ды "Букет руж. Падарунак да дня нараджэння Вольгі Лангбард". І самаробная дзіцячая кніжка "Дритятя" з вершамі "для Ланачкі Захаравай" (С. Сакаловай). І самыя розныя малюнкі акварэллю, алоўкам, гуашшу: "Вясна прыйшла", "Стары цвінтар", "Восеньская ноч", "У старым парку", "Ноч. Месяц", "Манастырскі сад", "Вецер", "Перайманне Урубеля. Птушка Фенікс"...



*Акварэльны "Малюнак з грыфонам" (копія фрагмента гравюры Дж. Б. Веранезе).*



*Пейзаж "Прысада ў парку".*

А побач — мудрыя "думкі ўголас": варыянты многіх архітэктурных задум, у тым ліку — праект залы пасяджэнняў АН БССР, перспектыва галоўнага фасада будынка Акадэміі навук, наватарскі Дом Саветаў у Бранску. Сенсацыя — выкананыя ў чырвоным колеры не толькі інтэр'ер глядзельнай залы, але і фае, і нават фасад нашага тэатра оперы і балета. План-праект грандыёзнага музея-помніка Вялікай Айчыннай вайне ў Мінску, задуманы ў 1942-м...

Невыпадкова адзін з нашых старэйшых архітэктараў Вальмен Аладаў, аглядаючы выстаўку, захоплена паўтарыў крылатае выслоўе: "Архітэктура — маці ўсіх мастацтваў!"

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
Мінск — Кіеў — Мінск,
фота аўтара

# Караткевіч і Украіна: новыя знаходкі

**У біяграфіі Уладзіміра Караткевіча дагэтуль багата белых плям. Адна з іх, безумоўна, датычыць украінскага перыяду яго жыцця. Вандроўка ў Кіеў, сустрэчы і інтэрв'ю са знаёмымі Уладзіміра Сямёнавіча сталі спробай калі не ліквідаваць гэтую пляму, дык істотна зменшыць яе памеры.**

## Тлумачэнні для пачатку

Падарожжа ў Кіеў стала збегам шэрагу абставін. Шукаючы звесткі пра муз Караткевіча, напісаў ліст у Інстытут філалогіі Кіеўскага ўніверсітэта (колішні філфак). Было спадзяванне, што гэта ўстанова па прыкладзе некаторых факультэтаў нашага БДУ выдавала поўныя спісы выпускнікоў. Гэта магло дапамагчы ў высвятленні прататыпаў герояў Караткевіча.

Праз пэўны час прыйшоў доўгачаканы ліст. Як высветлілася, зварот перадалі Надзеі Старавойтавай, супрацоўніцы Цэнтра беларускай мовы і культуры пры Інстытуце філалогіі, па шчаслівым супадзенні вялікай прыхільніцы творчасці Караткевіча. Выпускніца нашага філфака, Надзея абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме "Беларуская перакладная аповесць эпохі Адраджэння: тэксталогія і стыль перакладу", працавала ў Нацыянальным інстытуце адукацыі і Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. У 2010 годзе прайшла конкурс на вакансію выкладчыка цэнтра і пераехала ва Украіну.

Як адказала мне Н. Старавойтава, выданне, якое мяне цікавіла, ва Украіне адсутнічае. Падчас ліставання высветлілася, што ў Кіеве дагэтуль жывуць людзі, якія асабіста ведалі Уладзіміра Сямёнавіча. У выніку было вырашана запісаць іх успаміны. Наша ідэя была рэалізаваная ў выглядзе вечарыны ўспамінаў, што адбылася пры ўдзеле студэнтаў-беларусістаў у Цэнтры беларускай мовы і культуры на пачатку вясны гэтага года. Занатаваныя ўспаміны перад вамі.

## «Ты мне як брат»

Рыгор Піўтарак, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, пазнаёміўся з Караткевічам… у Мінску. У 1962 годзе маладога аспіранта, які закончыў першы год навучання з трох, накіравалі ў нашу сталіцу. Справа ў тым, што Піўтарак пісаў дысертацыю па беларусістыцы. Вестка пра прыезд аспіранта-ўкраінца хутка распаўсюдзілася сярод беларускамоўнай інтэлігенцыі. Паколькі сфера ўжывання беларускай мовы з'яўлялася надзвычай вузкай, на Піўтарака, паводле яго слоў, прыходзілі і глядзелі як на дзіва ў заапарку, як на апошняга з магікан. Аднойчы ў інтэрнацкі пакой завітаў незнаёмы хлопец. Вельмі непасрэдны, ён адразу звярнуўся да Піўтарака на "ты":

— Ты з Кіева?

— Так.

— А я Уладзімір Караткевіч. Як добра, што ты прыехаў з Кіева. Ты мне як брат.

У далейшым Караткевіч і Піўтарак бачыліся, але не шмат. На аспіранта звалілася шмат працы: у прыватнасці, акрамя напісання дысертацыі давялося здаваць іспыты па беларускай мове. Уладзімір неаднаразова запрашаў свайго знаёмага ў падарожжы. Але Піўтарак толькі аднойчы скарыстаўся такой магчымасцю. У 1963 годзе разам з Сяргеем Панізнікам, Паўлам Кавалёвым, Антанінай Лысенкай і некаторымі супрацоўнікамі Інстытутаў літаратуры і мовы наведалі купалаўскую Вязынку. Пасля вяртання Піўтарака ў Кіеў кантактавалі праз лісты (на жаль, паводле слоў Рыгора Пятровіча, яны не захаваліся), перыядычна бачыліся на канферэнцыях у Мінску.



*Корпус Кіеўскага ўніверсітэта, чытальную залу якога часта наведваў У. Караткевіч.*

Піўтарак згадваў пра Караткевіча як пра высокаадукаванага, талерантнага, вельмі тэмпераментнага чалавека, які лёгка запальваўся ў спрэчках. Сябры казалі яму, што Уладзімір мог размаўляць паўкраінску. Праўда, сам Рыгор Пятровіч сваёй роднай мовы з яго вуснаў не чуў. Цікава, што Караткевіч прапанаваў Піўтараку перакласці на ўкраінскую мову "Каласы пад сярпом тваім". Але ў даследчыка былі пэўныя праблемы з савецкімі кампетэнтнымі органамі, таму гэтая ідэя не ажыццявілася.

## Прадаўжальнік традыцый казацтва

Украінскі пісьменнік Пётр Засэнка паступіў на філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта ў 1954 годзе (акурат тады, калі Караткевіч яго закончыў). Пазнаёміліся яны на пасяджэннях студэнцкай літаратурнай студыі "СІЧ" (пра назву крыху далей), якую ўзначальваў аспірант Юрый Муштэтык. Аўтарытэт кіраўніка трымаўся на той акалічнасці, што ў студэнцкія гады ён напісаў і выдаў гістарычны раман (у далейшым Ю. Муштэтык стаў адным з самых вядомых украінскіх творцаў, у 2009 годзе яму было прысвоена званне Героя Украіны). Пасяджэнні адбываліся адзін раз на два тыдні. Паводле слоў Засэнкі, Уладзімір наведваў іх ужо пасля заканчэння навучання. Цікава расшыфроўвалася назва студыі. Зразумела, гаворка ішла пра часы казацкай вольнасці і запарожскую сеч (па-ўкраінску – "січ"). Але каб кіраўніцтва ўніверсітэта не магло высунуць абвінавачванні ў нацыяналізме, афіцыйна "СІЧ" расшыфроўвалася як "Студыя імя Чумака" (так звалі камсамольскага паэта, забітага дзянікінцамі ў Кіеве падчас Грамадзянскай вайны). У пачатку 1960-х гадоў Засэнка яшчэ адзін раз бачыўся з Караткевічам: сутыкнуўся з ім на бульвары Шаўчэнкі, калі Уладзімір прыязджаў у Кіеў.

У далейшым украінскі пісьменнік працаваў у выдавецтве "Моладзь", што існавала пры ЦК камсамола Украіны. Па яго ініцыятыве пачала выдавацца анталогія маладой паэзіі савецкіх рэспублік. Сімвалічна, што першы том быў прысвечаны Беларусі. І адкрываўся ён вершамі Караткевіча.

## Узгадваюць перакладчыкі

Алэна Лук'янчук, малодшы навуковы супрацоўнік аддзела газетных фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя Вярнадскага, паступіла на філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта на год раней за Караткевіча (хоць закончыла яго толькі ў 1960 годзе). Іх знаёмству паспрыяла тая акалічнасць, што другакурсніца Алэна жыла ў адным пакоі з пяцікурсніцай Адай, стрыечнай сястрой Уладзіміра. Караткевіч перыядычна заходзіў да іх у госці, чытаў на памяць вершы Купалы і Коласа. У наступным годзе Алэна пераехала ў іншы інтэрнат (з вуліцы Асветы на Уладзімірскую), таму яны бачыліся толькі ва ўніверсітэцкіх калідорах.

Паводле слоў Лук'янчук, у далейшым яны страцілі сувязі. Наступная сустрэча, якая, зрэшты, мела завочны характар, адбылася ў 1970-я гады. Алэна зайшла ў кнігарню і ўбачыла кнігу Караткевіча "Блакіт і золата дня". Адзначу, што гэтае выданне з'яўлялася першай празаічнай кнігай Караткевіча і выйшла ў 1961 годзе. Або яно трапіла ва Украіну праз гады, або пані Лук'янчук памылілася ў часе. Алэна пераклала гэту кнігу для выдавецтва "Моладзь". Цяжкасцей з разуменнем у яе не ўзнікла, бо беларуская мова падалася ёй падобнай да палескай гаворкі. Паколькі патрабавалася аўтабіяграфія аўтара, яна знайшла адрас Караткевіча і напісала яму. У 1972 годзе Лук'янчук разам з Карлам Скрыпчанкам пераклала яшчэ адну кнігу Уладзіміра, "Чазенію", куды ўвайшлі аднайменная аповесць і апавяданні.

Дмытро Чэрэднычэнка працаваў у выдавецтве "Моладзь", калі з'явілася ідэя выпускаць вышэйзгаданую анталогію беларускай паэзіі. Яе выданне ажыццяўлялася з вялікімі цяжкасцямі. Калі быў падрыхтаваны набор, у выдавецтва патэлефанавалі з рэспубліканскага ЦК камсамола і загадалі прыбраць паэзію Алеся Разанава. У рэшце рэшт том усё ж такі пабачыў свет без скарачэнняў. Пасля выхаду кнігі ў Кіеў прыехаў Караткевіч. Калі разам з Чэрэднычэнкам і іншымі знаёмымі ён ішоў па вуліцы Багдана Хмяльніцкага, пазнаў дом, дзе жыў. Падчас таго падарожжа творцы ўбачылі каштан, пачалі агучваць вобразы, што прыходзілі ў іх уяўленне, і адразу папярэджвалі іншых, што версія кожнага занятая і выкарыстоўваць яе ў сваіх творах нельга.

У далейшым сустрэчы Чэрэднычэнкі з Караткевічам былі не такія частыя. Адна з іх адбылася падчас сумеснага адпачынку ў Доме творчасці ў Піцундзе.

Паэтэса і перакладчыца Тамара Каламіець, якая паступіла на філфак Кіеўскага ўніверсітэта ў 1952 годзе, убачыла Караткевіча яшчэ студэнтам. Яна запомніла яго хударлявым, з дзіцячым абліччам і выразнымі вачыма. Што ён піша вершы даведалася ўжо пасля заканчэння ВНУ, калі працавала ў часопісе "Дняпро". Ёй даручылі перакладаць верш "Заяц варыць піва", які спадабаўся ўплывам фальклору і народнымі матывамі. Цяпер Тамара Каламіець падрыхтавала анталогію беларускай паэзіі, куды ўключыла каля 90 твораў, напісаных найлепшымі беларускімі паэтамі ў ХХ стагоддзі. Засталася самая "дробязь": знайсці грошы на выданне.

## Дзе жыў Караткевіч у Кіеве?

Сумеснымі намаганнямі атрымалася высветліць некалькі надзвычай каштоўных дэталяў. Па-першае, удакладніць кіеўскую геаграфію Караткевіча. Дом, у якім жыў Уладзімір у 1944 годзе адразу пасля вызвалення Кіева (час дзеяння аповесці "Лісце каштанаў"), знаходзіўся там, дзе і ў творы: на сучаснай вуліцы Багдана Хмяльніцкага, 52 (былыя назвы — Фундуклееўская і Леніна). Цяпер у моцна перабудаваным доме знаходзіцца офіс кампаніі "Люфтганза".

Філалагічны факультэт у часы навучання там Караткевіча размяшчаўся ў галоўным будынку Кіеўскага ўніверсітэта (так званым чырвоным корпусе) — вуліца Уладзімірская, 60.

Чытальная зала знаходзілася ў суседнім доме (жоўтым корпусе) — вуліца Уладзімірская, 58. Дарэчы, толькі цяпер робіцца зразумелай фраза з успамінаў Музы Сняжко, аднакурсніцы Караткевіча, пра тое, што Уладзімір часам сыходзіў з пар у бібліятэку. Лагічна: калі паміж будынкамі была адлегласць у дзве хвіліны пешшу, можна было без цяжкасцей сысці на адну пару ў чытальную залу.

Інтэрнат, дзе жыў Караткевіч, знаходзіўся па адрасе вуліца Асветы, 6 (размешчана ў паўднёва-заходняй частцы горада, за чыгуначным вакзалам). Цяпер у будынку Інстытут гістарычнай адукацыі Нацыянальнага педагагічнага ўніверсітэта імя Драгаманава.

Па-другое, з пэўнасцю назваць пратыпа героя аднаго з твораў Караткевіча — аповесці "Лісце каштанаў". Гэта Карл Скрыпчанка, які ў далейшым пераклаў багата твораў пісьменніка на ўкраінскую мову і, паводле выказванняў некаторых гасцей вечарыны, па сутнасці манапалізаваў яго творчасць у сваіх руках (пераклаў "Лісце каштанаў", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Чорны замак Альшанскі", сумесна з іншымі — "Чазенію", "Зямлю пад белымі крыламі").

## Колькі слоў на развітанне

Здавалася б, вынікі падарожжа можна лічыць нядрэннымі. Але, шчыра прызнацца, мяне не пакідае засмучэнне: успаміны пра Караткевіча трэба было пачынаць запісваць пасля яго смерці, у другой палове 1980-х гадоў ці хаця б у 1990-я, калі ўкраінскія сябры і знаёмыя Уладзіміра Сямёнавіча былі жывыя, здаровыя і поўныя сіл. Фактычна ці не адзіным вядомым мне адваротным прыкладам сталіся згадкі аднакурсніка ў пісьменніка Музы Сняжко і Фларыяна Няўважнага, руплива занатаваныя Галінай Шаблінскай.

Шукаючы сёлета інфармацыю пра Караткевіча, мы неаднойчы сутыкаліся з сітуацыяй, калі нам рэкамендавалі пэўных асоб, што добра ведалі і сябравалі з нашым класікам. Але неўзабаве высвятлялася, што адзін памёр, другі слаба памятае падзеі мінулага, трэці дрэнна сябе адчувае і не мае магчымасці ані сустрэцца, ані пагутарыць па тэлефоне. Узнікае адчуванне таго, што мы непапраўна спазніліся. Хочацца верыць, што не цалкам і што ў гэтага даследавання будзе працяг.

# Слоўнік пра камічнае

**Прафесар Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова Васіль Рагаўцоў цягам амаль паўтара дзясятка гадоў плённа займаецца даследаваннем моўных сродкаў стварэння камічнага эфекту ў беларускай драматургіі. Вынікі яго карпатлівай працы знайшлі адлюстраванне ў манаграфічным даследаванні, а таксама ў шматлікіх навуковых публікацыях, у якіх выяўляецца моўны механізм стварэння камізму ў беларускай драматургіі. І вось новая праца вучонага — “Слоўнік пра камічнае: мовазнаўчы аспект” (Магілёў, 2010). Трэба адзначыць, што гэта першы ў беларускай лексікаграфіі даведнік, у якім тлумачацца тэрміны (больш як 210), што маюць дачыненне да камічнага (сродкаў яго вербальнага выражэння) і найбольш часта выкарыстоўваюцца ў спецыяльнай літаратуры. Слоўнікавы артыкул складаецца з рэстравага слова (пададзены ў алфавітным парадку), асноўнай часткі (тлумачыцца сутнасць тэрміна, вылучаюцца пэўныя класіфікацыйныя разнавіднасці сродку або спосабу, прыводзяцца ілюстрацыйны матэрыял) і спісу літаратуры. Дарэчы, матэрыял, змешчаны ў слоўніку, прайшоў належную апрабацыю: артыкулы В. Рагаўцова друкаваліся ў энцыклапедычных выданнях, навуковых і навукова-метадычных часопісах, а таксама ў зборніках міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцый.**

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

Лексікаграфічнае апісанне атрымалі як спецыялізаваныя вербальныя сродкі камічнага (самыя пашыраныя з іх — каламбур, іранізмы), так і неспецыялізаваныя, якіх большасць (параўнанні, метафары, эпітэты, дыялектызмы, сінонімы, алагізмы, аказіяналізмы, эўфемізмы, антонімы, гіпербалізмы, аксюмаран, фразеалагізмы і інш.).

Побач з “чыстымі” вербальнымі сродкамі стварэння камічнай экспрэсіі ў слоўніку аналізуюцца таксама сінкрэтычныя, у якіх адначасова сумяшчаецца функцыя двух сродкаў (напрыклад, розных тропаў). Яны, у адрозненне ад несінкрэтычных (звычайных), больш выразныя і камічна насычаныя: гіпербалізаваныя метафары (“Залёты” В. Дуніна-Марцінкевіча, “Раскіданае гняздо” Я. Купалы, “Пакрыўджаныя” Л. Родзевіча, “Узыходы шчасця” А. Макаёнка і інш.), гіпербалізаваныя параўнанні (“Прымакі” Я. Купалы, “Зацікаўленая асоба” К.Крапівы, “Папараць кветка” І. Козела, “Маці ўрагану” У. Караткевіча і інш.), гіпербалізаваныя метаніміі (“Перамога” Е.Міровіча, “Мужчына, будзь мужчынам, або Уваскрэсенне Дон Кіхота” М. Матукоўскага, “Куды ноч, туды сон” А. Петрашкевіча і інш.).

Выяўляецца ў слоўніку такая істотная асаблівасць у выражэнні камічнага, як комплекснае выкарыстанне розных вербальных сродкаў, апісаць і класіфікаваць усе тыпы камбінацый якіх немагчыма, бо яны не маюць строга акрэсленага, узаемаабумоўленага парадку размяшчэння. Пры комплексным выкарыстанні (з адносна неабмежаванай колькасцю камбінацый) утвараецца скразны камічны кантэкст, экспрэсіўна насычаны і прагматычна дзейсны. Такі прыём з’яўляецца па сутнасці ўніверсальным, паколькі ён ужываецца фактычна ва ўсіх драматургічных творах.

У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу ў артыкулах слоўніка прыводзяцца ўрыўкі (рэплікі персанажаў) з твораў амаль 40 аўтараў, сярод якіх прызнаныя драматургі, у тым ліку В.Дунін-Марцінкевіч, Я. Купала, У. Галубок, Е. Міровіч, К. Крапіва, А. Макаёнак, К. Губарэвіч, М. Матукоўскі, А. Петрашкевіч, А. Дзялендзік, А.Дудараў і інш. Ёсць таксама матэрыял з драматургічных твораў пісьменнікаў, якія выявілі сябе найперш як выдатныя празаікі, паэты і разам з тым ярка выступілі і ў драматургіі (Я. Колас, К. Чорны, І. Мележ, І. Шамякін, У. Караткевіч, І. Чыгрынаў, Г. Марчук, А. Федарэнка і інш.). Моўныя адзінкі, выкарыстаныя ў п’есах як сродкі камічнага, сведчаць, з аднаго боку, пра вялікія выяўленчыя магчымасці нашай мовы, а з другога: пра майстэрства драматургаў, тонкае адчуванне імі слова (яго значэнняў і адценняў), уменне паказаць смешнае ў паводзінах, учынках, разважаннях персанажаў.

Адна з адметных асаблівасцей даведніка: у ім сціслa, але абгрунтавана разглядаюцца недастаткова распрацаваныя ў беларускім мовазнаўстве і літаратуразнаўстве пытанні. Так, В. Рагаўцоў упершыню сярод каламбураў вылучае як асобныя разнавіднасці парэмійныя (прыказкавыя) і перыфразавыя, якія да гэтага часу або аналізаваліся разам з фразеалагічнымі каламбурамі, або зусім не былі аб’ектам разгляду.



Аўтар слоўніка правамерна размяжоўвае ўласнааманімічныя і сумежнааманімічныя каламбуры (амафонныя, амографныя, амаформавыя). Справа ў тым, што з’яву аманіміі мэтазгодна адрозніваць ад сумежных паняццяў (амафоны, амографы, амаформы), пра што ў свой час пераканаўча пісаў прафесар І. Лепешаў.

Для наймення слоў і выразаў, якія маюць адметную форму або ярка выражаную экспрэсіўную афарбоўку і часта ўжываюцца ў маўленні персанажаў, у слоўніку ўведзены тэрмін “ідыялектныя клішэ”. Ужывальныя ў дачыненні да такіх слоў і выразаў найменні тыпу “характарыстычныя”, “любімыя / улюбёныя”, “актыўнаўжывальныя”, “выразы-фаварыты”, “стылістычныя пашпарты” і г.д. не выяўляюць іх сутнасці. Так, спалучэнне “характарыстычныя словы і выразы” яскрава падкрэслівае толькі іх функцыю (характарызуюць адметнасць маўлення персанажаў), але не паказвае на іх актыўнасць ужывання. Спалучэнне “улюбёныя словы і выразы” паказвае, што яны па-свойму дарагія іх носьбіту. Але гэта не азначае, што яны абавязкова павінны быць частаўжывальнымі. Тэрмін “ідыялектныя клішэ” сведчыць якраз пра частаўжывальнасць гэтых выразаў у маўленні таго або іншага персанажа і, апрача таго, пра іх устойлівы характар. Напрыклад, персанаж камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча “Пінская шляхта” Ціхон часта ўжывае прастамоўны фразеалагізм “хрэн у вочы” (выказванне незадаволенасці, абурэння і пад.), улюбёны выраз Агаты з п’есы Я. Купалы “Паўлінка” — “тудэма-сюдэма”.

> *“У артыкулах слоўніка закранаецца шэраг дыскусійных пытанняў. Так, паняцце “каламбур” нярэдка атаясамліваюць з паняццем “гульня слоў” (“моўная гульня”), што, на думку В. Рагаўцова, не зусім абгрунтавана.*

У артыкулах слоўніка закранаецца шэраг дыскусійных пытанняў. Так, паняцце “каламбур” нярэдка атаясамліваюць з паняццем “гульня слоў” (“моўная гульня”), што, на думку В.Рагаўцова, не зусім абгрунтавана. Як вядома, “гульня слоў” — паняцце больш шырокае, чым “каламбур”, паколькі яна можа быць і некаламбурным утварэннем (напрыклад, рыфмаванкі, алітарацыі, асанансы, анафары, эпіфары і інш.): “Зв**о**ніць п**о**ле д**о**ляй, в**о**ляй // Зв**о**ніць п**о**ле ў каласкі” (Я. Купала); “**Л**ечыцца трава ад спёкі **л**іўнем, // **Л**юдзі — **л**аскай **л**ечацца **л**юдской” (П. Панчанка). Моўная гульня звязана з камічным, калі яна прадугледжвае наўмыснае (свядомае) адхіленне ад стэрэатыпа, якое ўспрымаецца як нечаканы факт. Камічны эфект узнікае, калі чалавек усведамляе гэтае адхіленне. Апрача таго, не ўсякая гульня слоў мае на мэце стварэнне камічнага эфекту.

У мовазнаўстве і літаратуразнаўстве няма адназначнага адказу на пытанне, да якіх моўна-выяўленчых сродкаў неабходна адносіць каламбур: тропаў ці стылістычных фігур? В. Рагаўцоў паказвае, што, з аднаго боку, каламбуры (лексічныя і фразеалагічныя) рэалізуюцца, як і тропы, у адной моўнай адзінцы (слове, фразеалагізме) і, апрача таго, з’яўляюцца семасіялагічна двухпланавымі ўтварэннямі. Аднак ёсць і выключэнне: паранамазійныя каламбуры могуць утварацца як у выніку сэнсавага абыгрывання паранамазаў (блізкагучных слоў), так і іх фармальнага збліжэння. З другога боку, у каламбурах такіх тыпаў, як сінтаксічныя, спалучаюцца асаблівасці і тропаў, і стылістычных фігур. Такім чынам, робіць выснову В. Рагаўцоў, у цэлым ёсць падставы адносіць каламбур да тропаў, паколькі тропавыя адзнакі або з’яўляюцца адзінымі (для фразеалагічных, парэмійных, перыфразавых і лексічных каламбураў), або дамінуюць (сінтаксічныя каламбуры).

Належная ўвага ў слоўніку надаецца такому важнаму пытанню, як актуалізатары камічнага. Гэта сродкі, якія садзейнічаюць выяўленню камічнага эфекту ў моўнай або маўленчай адзінцы — слове, фразеалагізме, перыфразе, прыказцы, спалучэнні слоў, сказе. Даецца падрабязная класіфікацыя актуалізатараў, сярод якіх вылучаюцца розныя тыпы і падтыпы, напрыклад, вербальныя актуалізатары, невербальныя (фанацыйныя, кінетычныя, графічныя, сітуацыйныя) і змешаныя. Напрыклад: [Гарэцкі:] Шчаслівая сям’я. [Агата Раманаўна:] Нават занадта... (К. Губарэвіч. Галоўная роля). Пра іранічнае ўжыванне прыметніка “шчаслівая” сведчыць актуалізатар — спалучэнне слоў са значэннем празмерна высокай ступені ацэнкі “нават занадта”.

> *“Адна з адметных асаблівасцей даведніка: у ім сціслa, але абгрунтавана разглядаюцца недастаткова распрацаваныя ў беларускім мовазнаўстве і літаратуразнаўстве пытанні.*

Побач з узуальнымі моўнымі адзінкамі камічны эфект, як вынікае са слоўніка, нярэдка ствараецца аказіянальнымі, тымі, што падпалі пад творчую апрацоўку. Гэта могуць быць, напрыклад, структурна відазмененыя прыказкі (адзін з кампанентаў заменены іншым, сітуацыйна абумоўленым словам). У такіх выпадках “камізм звязаны з семантычнай двухпланавасцю выразу, які ўспрымаецца адначасова з аказіянальным значэннем (прамым, мадыфікацыйна абумоўленым) і ўзуальным (прыказкавым)” ([Вольга:] Чым далей жыць будзем?! Не беконам жа адзіным жыў чалавек... (А. Петрашкевіч. Мост упоперак ракі). Параўнайце аказіянальны выраз з узуальным “не хлебам адзіным жыве чалавек”.

Як сведчыць слоўнік, у драматургічных творах можна сустрэць рэдкія прыёмы, з дапамогай якіх дасягаецца камічны эфект. Адзін — стылістычная кантамінацыя, у выніку якой утвараюцца лексічныя аказіяналізмы. Яскравым прыкладам можа быць аказіянальнае ўтварэнне “кумпанія” (“кум”+“кампанія”), напрыклад: [Стрыжэўскі:] Самі ведаеце, чым канчаліся часам залішне гаваркія **кумпаніі**... (К. Губарэвіч. З вяршыні відаць далей).

Нячаста ўжывальным, але дзейсным прыёмам стварэння камічнага з’яўляецца тэматычная аддаленасць рэплік, адсутнасць паміж персанажамі агульнай тэмы гутаркі: адзін з іх як бы знарок не разумее (“недачувае”) другога: [Мірон (моцна):] Я не толькі ад вераб’ёў пільную. Я і ад ваўкоў пільную! [Вырвіч (нібы не чуе):] Ах, ах... Трэба ж, каб такая кіслая фрукта на балоце ўрадзілася! (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка); [Іванская:] Ёсць такія мужчыны, спакойныя, упэўненыя. З імі лёгка, хочацца расказваць аб сваім жыцці, раіцца... Даўно мяне займае — за што вас любяць супрацоўнікі? Не толькі ж за талент! [Бабачкін:] Заўтра дзянёк... Невядома, ці паспеем дабрацца. Добрай ночы. (А. Дзялендзік. Аперацыя “Мнагажэнец”).

Ужыванне вербальных сродкаў камічнага, як вынікае са слоўніка, звязана з пэўным часам і творам (творамі). Так, з алагізмамі сустракаемся ў некаторых інтэрмедыях, п’есах XVIII ст.: [Доктар:] Сударыня! Вам нужна шалфею // І даць раз пяць па шэі. // Тагда будзеце здаровы! (“Цар Ірад”). Парады доктара ўспрымаюцца як парушэнне лагічных сувязей паміж дзеяннем і вынікам. В. Дунін-Марцінкевіч першым у беларускай драматургіі ў функцыі камічнай характарыстыкі персанажаў пачаў мэтанакіравана ўжываць мянушкі, прозвішчы, канцылярызмы, а таксама такую з’яву, як фразеалагічная алюзія. К. Каганец упершыню ўжыў аманімічныя каламбуры, лексічныя аказіяналізмы-кантамінанты і аксюмаран, Я. Купала — ідыялектныя клішэ ў ролі зваротаў, таўталагізмы, Л. Родзевіч — парэмійныя каламбуры, М. Гарэцкі — гіперызмы, У.Галубок — амафонныя каламбуры, з’яву апелятывацыі, М.Грамыка — кантамінаваныя афарызмы, К.Крапіва — такія прыёмы, як антанамазія і цытатная алюзія, А. Макаёнак — аплікацыю як прыём пабудовы фразеалагізмаў, а таксама адметныя параўнальныя канструкцыі (параўнанне праз адмаўленне).

З наяўных беларускамоўных тэрмінаў-дублетаў у слоўніку правамерна аддаецца перавага тым, якія адпавядаюць асаблівасцям беларускага тэрмінаўтварэння і ўсталяваліся або ўсталёўваюцца ў сучаснай лінгвістычнай і лінгваметадычнай літаратуры, напрыклад: *эмацыйны*, *паранамазійны* (каламбур), *намінацыйны*, *парэмійны*, *перыфразавы* (каламбур) і інш.

Для больш зручнага карыстання ў канцы слоўніка падаецца “Паказальнік тэрмінаў”.

Няма сумнення, што выданне будзе карысным не толькі для навуковых супрацоўнікаў, аспірантаў, студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ, але і для настаўнікаў-філолагаў, пісьменнікаў — тых, хто цікавіцца моўнымі сродкамі стварэння камізму.

**Алесь СУХАДОЛАЎ**

# Пад знакам Лема

**Узаемасувязь літаратурнай творчасці з выяўленчым мастацтвам — неад'емная рыса не толькі кніжнай культуры, але і сучасных выставачных праектаў. Адным з найбольш удалых прыкладаў такога спалучэння стаўся маштабны праект "Лемарыс", зладжаны ў комплексе галерэй Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 90-годдзя з дня нараджэння Станіслава Лема.**

Праект засведчыў, што асоба польскага пісьменніка, філосафа-футуролага мае культавы статус у асяроддзі айчыннай інтэлігенцыі. Лем здолеў аб'яднаць пад знакам сваёй навукова-фантастычнай творчасці аўтараў самых розных пакаленняў, пераважна авангардна сарыентаваных — ад сталага жывапісца Міколы Бушчыка да маладых артыстаў пластычнага тэатра "Інжэст". І што адметна — упершыню беларуская публіка ўбачыла малюнкі самога С. Лема.

У экспазіцыю ўвайшло каля 30 рэпрадукцый графічных замалёвак пісьменніка. Адлюстраваныя на іх карыкатурныя вобразы не пазбаўленыя мастацкай вартасці, бо выяўляюць дасціпны лад мыслення аўтара. У сваіх малюнках Лем спалучае аб'екты і з'явы рэчаіснасці з кур'ёзамі дзіцячай фантазіі. Ды і ўвасобленыя пісьменнікам персанажы, відавочна, запазычаныя са свету дзіцячых уяўленняў: разнастайныя робаты, шкілеты, танкі і г. д.

Другі іншаземны госць выстаўкі — Даніэль Мруз, найбольш вядомы ілюстратар кніг С. Лема. Наведвальнікі ўбачылі цыкл твораў гэтага польскага графіка, якімі ён аформіў зборнікі апавяданняў пісьменніка "Байкі робатаў" і "Кіберыяда". Выявы аб'яднаныя яскравым аўтарскім стылем, які далёкі ад суворай эстэтыкі хайтэк і кіберпанку. Мастак стварае алегарычныя вобразы робатаў — яны ў сатырычным плане характарызуюць сучаснага чалавека, тэхнічна ўзброенага, але не пазбаўленага пры тым адвечных маральных праблем.

Расійскі мастак Аляксей Андрэеў, які працуе ў камп'ютарнай графіцы, паслядоўна ўзнаўляе стрыманы, рацыяналістычны дыскурс лемаўскай прозы, свет навуковай фантастыкі сродкамі лічбавага мастацтва. Асноўная частка работ А. Андрэева прысвечана фантастычнаму раману "Непераможны", напісанаму ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Сучаснае прачытанне твора мастаком абумовіла "апрананне" літаратурных вобразаў у больш папулярную форму, звязаную з sci-fi стылістыкай коміксаў, фантастычных фільмаў і камп'ютарных гульняў.

Калі казаць пра беларускую частку экспазіцыі, дык можна вызначыць асобны праект у праекце, бо яна сабрала маштабны зрэз твораў калякасмічнай, сюррэалістычнай, тэхнакратычнай і абстрактнай тэматыкі, выкананых у самых розных стылях і тэхніках. І гэтую сувязь творчасці беларускіх мастакоў з асобай Лема нельга недаацэньваць: некалькі іх пакаленняў гадавалася на кнігах польскага пісьменніка, як і на творах іншых класікаў сусветнай фантастыкі, многія зачытваліся імі ў дзяцінстве, а значыць, пад уплывам гэтых кніг фарміраваліся многія асобы.


*Мікола Бушчык "Нараджэнне планеты".*

Найбольш багатай і разнастайнай атрымалася жывапісная частка экспазіцыі. Падборку работ розных перыядаў творчасці М. Бушчыка аб'ядналі касмічная сімволіка і асаблівы метафізічны настрой. Экспрэсіўная колеравая гама з дамінантай чырвонага і сіняга набліжае яго некаторыя творы да жывапісу абстрактнага экспрэсіянізму, асабліва да творчасці Марка Роткі. Прыкметы фармальнай кампазіцыі ў творах М. Бушчыка спалучаюцца з элементамі лірычнага пейзажу. Паказальная ў гэтым сэнсе работа "Нараджэнне планеты" (2010). У аснове выявы — абрысы ўрбаністычнага ландшафту, што праглядаюць праз сімвалічнае адлюстраванне ўзыходу сонца. Кампазіцыя пабудаваная на супрацьстаянні гарачых і халодных колераў, што ўзмацняе дынамізм і напружанне.


*Ілюстрацыя Даніэля Мруза да кнігі С. Лема "Кіберыяда".*

Алегарычнае ўвасабленне касмічнай тэматыкі прадставіў мастак Сяргей Пыжыкаў. Вобразны свет жывапісца больш блізкі да рэрыхаўскай стыхіі, і разам з тым аўтар ужывае ў адносінах да сваёй творчасці рацыянальны, блізкі да навуковага падыход, пра што сведчыць халодная колеравая гама і ўраўнаважаны настрой яго фантастычных пейзажаў. Найбольш сугучнае тэме праекта палатно "Кантакт" адлюстроўвае падзенне метэарыта ў воды акіяна. Як і на многіх іншых карцінах С. Пыжыкава, тут мае месца алагічнае ссоўванне прасторавых меж: воблакі плывуць над акіянам, і вада зліваецца з іх абрысамі, нібыта глядач назірае за ўсім, што адбываецца, з вышынь стратасферы. А ў пэўным сэнсе гэты сюжэт можна разглядаць не толькі як паказ сутыкнення нейкіх касмічных целаў, але і як увасабленне кантакту нябёсаў і зямлі, духу і матэрыі.

Арыгінальна абыграла лемаўскую тэматыку работа жывапісца Віктара Васюкевіча "Акіян любові". Нефігуратыўнае палатно, на якім выяўлены своеасаблівы акіян святла — бясконцая галактыка зор ды свяціл, выкананая ў стылі, падобным да экспрэсій Джэксана Полака. У цэнтры выявы нібыта знаходзіцца мозг альбо сэрца ўсёй гэтай сістэмы, што распаўсюджвае вакол сябе хвалі святла. Усё гэта шчыльна знітаванае з вобразам планеты Салярыс — жывога акіяна, здатнага мысліць.

Самадастатковым атрымаўся і графічны складнік беларускай часткі экспазіцыі. Афорты Сяргея Балянка перагукваюцца з творчасцю Д. Мруза. С. Балянок з'яўляецца прадстаўніком львоўскай школы графікі і праз свае работы выяўляе гарадскі еўрапейскі тып мыслення (на брукаваных вуліцах Львова, дарэчы, фарміравалася і асоба самога Лема).

Серыя твораў "лічбавага жывапісу" Сяргея Лапшы характарызуецца вывучэннем дыскрэтных уласцівасцей формы і колеру. Абстрактны мінімалізм гэтых выяў адметны структураванасцю элементаў кампазіцыі. Разам з тым, камп'ютарная графіка С. Лапшы не пазбаўлена эмацыянальнага напаўнення, што выяўляецца ў яркім колеравым вырашэнні, выбуховым характары кампазіцыі, яе памкненні за межы выявы. Нягледзячы на тое, што даследуе мастак разнастайныя навуковыя з'явы ("Галактыка", "Звернутая прастора" і інш.), ён не адмаўляецца ад ідэалістычнага зместу сваіх работ ("Абуджэнне", "Бясконцасць", трыпціх "Тры структуры", прамянёвая пабудова якога відавочна скіроўвае да паняццяў са сферы тэалогіі). Аднак графіка С. Лапшы застаецца блізкай лемаўскай стыхіі з яе касмаганічным зместам і навукова-даследчай скіраванасцю.

Шырока прадставіла выстаўка "Лемарыс" і пластычнае мастацтва: металічную і драўляную скульптуру, шкляныя вырабы, кераміку.

Сам праект стаўся выбітнай падзеяй выставачнага жыцця Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Тэматычна экспазіцыя зусім арганічна ўвайшла ў футурыстычнае асяроддзе будынка. Святкаванне 90-годдзя Станіслава Лема атрымала шырокі розгалас ва ўсім свеце, і праз мастацкую выставу "Лемарыс" беларусы на годным узроўні прычыніліся да спадчыны і памяці культавага польскага фантаста.

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ,**
**фота аўтара**

# Гучней за словы

**Да 15 мая ў сталічным Палацы мастацтва працуе выстаўка "Фарбы пераможнай вясны". Значная частка твораў, прадстаўленых тут, экспануецца ўпершыню.**

Адкрыццё экспазіцыі, якое адбылося напярэдадні свята Вялікай Перамогі, прайшло ва ўрачыстай і кранальнай атмасферы віншавання знаных беларускіх майстроў жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, скульптуры, якія былі ўдзельнікамі той вайны. На сустрэчу са сваімі старэйшымі калегамі, прыйшлі старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, яго намеснікі Рыгор Сітніца і Сяржук Цімохаў. З удзячнасцю і цеплынёй гаварылі ўдзельнікі вернісажу пра мастакоў-ветэранаў Вялікай Айчыннай, якія і праз сваю творчасць абараняюць мір, любоў і каханне, сцвярджаючы дабро, гераізм, Перамогу.

Шчырыя, таленавітыя творы часам гучаць больш пранікнёна і пераканальна за ўсялякія словы. У гэтым наведвальнікі выстаўкі могуць самі пераканацца. Дастаткова ўгледзецца ў жыццелюбівыя, напоўненыя святлом і паветрам кампазіцыі Леаніда Шчамялёва: прайшоўшы праз полымя фронту, ён абраў сваім крэда аптымістычную поліфанію сённяшняга мірнага жыцця. Або зазірнуць у той куток выставачнай залы, дзе размясціліся пяць работ Віктара Грамыкі, у тым ліку датаваныя 2011 годам пейзаж "Вясёлка над храмам" і партрэт "Васіль Быкаў. Роздум", чый вобраз вельмі дарагі жывапісцу ўжо таму, што нагадвае пра маладыя гады, працу мастацкім рэдактарам часопіса "Маладосць", на старонках якога раскрываўся і талент пісьменніка-франтавіка. І як не парадавацца жыццесцвярджальным палотнам Барыса Аракчэева: і яскраваму каларыту васількавых букетаў, і гронкам бэзу, што атуляюць абраз Уладзімірскай Божай Маці — святую выяву, якая дапамагала абаронцам Айчыны. І як не захапіцца класікай нашага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — яркімі, прыгожымі, дасціпнымі творамі Тараса Паражняка, які, страціўшы ў вайну левую руку, не здрадзіў свайму прызванню, стаў прафесійным мастаком і дасягнуў вышынь майстэрства!


*Мікалай Назаранка "Дняпро".*


*Леанід Шчамялёў "Аранжарэя кветак".*


*Падсвечнік "Храм" Тараса Паражняка.*

На выстаўцы прадстаўленыя таксама работы скульптара Андрэя Заспіцкага, жывапіс Мікалая Назаранкі, Аляксея Зінчука, Мікалая Назарчука, акварэлі Сямёна Абрамава... Знаныя імёны — знаёмыя і новыя творы: плён светлага натхнення, якое не пакідае мастакоў-ветэранаў.

**Сінтэз мастацтва і спорту як двух элементаў культуры — магчыма, адзін з каштоўных феноменаў нашага часу. Феномен, які прайшоў выпрабаванне забыццём, але быў адроджаны ў ХХ стагоддзі. Мастацва дапамагае раскрываць сэнс і вартасць спартыўнай дзейнасці, далучаць розныя групы людзей да фізічнай культуры. Праз мастацтва можна спрычыніцца і да гісторыі спорту. Напрыклад, графічныя творы на спартыўную тэматыку нясуць у сабе інфармацыю, якая дазваляе зразумець пераемнасць ідэй, традыцый і рытуалаў спорту, успомніць герояў і чэмпіёнаў Алімпійскіх гульняў.**

# Энергія імкнення

## Спорт у беларускай графіцы 1960 — 1980-х гадоў (з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі)

Людміла НАЛІВАЙКА,
Святлана РЖЭЎЦКАЯ

Падрабязна прадстаўлена тэма спорту ў творчасці сучасных мастакоў замежжа. У адрозненне ад фотаздымкаў, якія раптоўна фіксуюць момант, мастацкія творы адмыслова распавядаюць пра гісторыю стварэння і правядзення Алімпійскіх гульняў, пра сімволіку і рытуалы, пра чэмпіёнаў, пра заняткі спортам у розных краінах, у розных узроставых і сацыяльных катэгорыях насельніцтва. Адным словам, графіка цалкам спраўляецца з місіяй кваліфікаванага рэкламіста не проста самога спорту, але і алімпійскіх ідэй. Гледзячы на графічныя аркушы (ці то малюнак, ці то лінагравюру), міжволі адчуваеш напал спартыўных падзей, масавасць фізкультурнага руху, як быццам сама эпоха гаворыць з намі мовай спорту. Да таго ж, мастакі пастаянна імкнуцца да спазнання ўсяго новага, незвычайнага, што характэрна для гэтай сферы.

2012-ы — гэта год трыццатых па ліку летніх Алімпійскіх гульняў. Дарэчы, ініцыятар арганізацыі сучасных Алімпійскіх гульняў П'ер дэ Кубертэн таксама садзейнічаў сувязі спорту і мастацтва. Ён сцвярджаў, што чалавек паводле сваёй прыроды мусіць развівацца і фізічна, і духоўна. Сёлета спаўняецца 100 гадоў арганізаванаму ім у 1912 годзе конкурсу мастацтваў на Алімпійскіх гульнях.

Сучасныя беларускія мастакі-графікі працягваюць ствараць выдатныя работы на тэму спорту, адлюстроўваюць подзвігі мірных змагароў-спартсменаў, якія праслаўляюць нашу краіну ва ўсім свеце. Мы бачым гэтыя творы на выстаўках, а таксама ў выглядзе марак і аздоб паштовых канвертаў, памятных знакаў і манет.

Нацыянальны алімпійскі камітэт сумесна з Міністэрствам культуры Беларусі да кожнай Алімпіяды ладзіць рэспубліканскі конкурс "Спорт і мастацтва", дзе разглядаюцца графічныя творы і скульптура. Удзельнічаюць у ім студэнты навучальных устаноў сістэмы Міністэрства культуры — будучыя мастакі і скульптары. Работы пераможцаў накіроўваюцца на сусветны конкурс.

У 2000 годзе студэнтка 4 курса мастацкага факультэта кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Дар'я Мароз заняла са сваёй работай першае месца ў Беларусі, а затым стала пераможцай сусветнага конкурсу "Спорт і мастацтва", праведзенага МАК напярэдадні Гульняў у Сіднеі. Яе твор "Агонь Алімпа", прызнаны лепшым, дэманстраваўся ў Аўстраліі ў межах культурнай праграмы Алімпіяды, а затым быў перададзены на вечнае захоўванне ў Алімпійскі музей Лазаны (Швейцарыя).

Многія дзеячы беларускага мастацтва і культуры, прадстаўнікі розных творчых прафесій, цікавяцца спортам, працуюць над увасабленнем яго тэматыкі, прапагандуюць здаровы лад жыцця, фізічную культуру, "адухоўлены" спорт. Аднак у гэтым артыкуле мы звернемся да лепшых прыкладаў мінулага стагоддзя, сабраных у калекцыі графікі нашага Нацыянальнага мастацкага музея.

Можна лічыць, што ў беларускай графіцы спартыўная тэматыка пачынаецца з 1920-х гадоў, дзякуючы творчасці А.Ахола-Вало (1900 — 1997). Яго лінарыт "Ранішняя гімнастыка" (1930) — своеасаблівы маніфест фарміравання спартыўнага чалавека ў адпаведнасці з тагачаснай тэорыяй удасканалення чалавека новага часу, дзе вялікую ролю адыгрывалі як інтэлектуальныя, так і спартыўныя практыкаванні. Персаніфікацыяй гэтай ідэі з'яўляецца вобраз дзяўчыны, якая займаецца ранішняй гімнастыкай. Яна ў лёгкім спартыўным адзенні, якое не хавае трэніраванасці яе маладога і моцнага цела. Вакол усё зіхаціць чысцінёй, усё новае і свежае, рашучае і маладое, рухі дзяўчыны нібыта рассякаюць прастору інтэр'ера, аформленага паводле апошняга слова дызайну 1920-х гадоў. Глядач, як і мастак, быў упэўнены, што гэтая гераіня з'яўляецца таксама сімвалам новай Беларусі 1930-х.

Іншы твор гэтага перыяду — каляровая лінагравюра А.Тычыны (1897 — 1987) "Камсамольскае возера", датаваная 1931 годам. Матыў твора — сучаснасць, адлюстраваная праз цудоўны беларускі краявід возера з востравам пасярэдзіне. Але не пейзажны матыў прыцягвае ўвагу мастака: лёгкія лодкі з групамі весляроў імкліва рухаюцца па вадзе, белы трохкутнік ветразя, — вось што радуе і натхняе яго. У гэтай лінагравюры адкрыты, смелы, можа нават занадта яркі колер, які навbooth можна назваць спартыўным. У "Камсамольскім возеры" адчуваецца ідэя маладосці: аўтару работы крыху больш як трыццаць гадоў, ён сам — увасабленне моцы свайго часу, а спаборніцтва маладых і дужых мужчын — і яго спаборніцтва. У той жа час сістэма перадачы ўбачанага — традыцыйная, са строга абранай кампазіцыяй, выразным падзелам на планы, стрыманасцю ў дэталях, мяккай мадэліроўкай формы.

Новае гучанне тэма спорту набыла ў 1960 — 1970-я гады. У той перыяд адным з першых звярнуўся да яе вядомы вайсковы графік В.Ждан, пачаўшы адлюстроўваць розныя віды спартыўных заняткаў: фехтаванне, скачкі ў ваду, бег на каньках па лёдавай дарожцы, хакей, парашутны спорт. Тэхніка — акварэль, гуаш. Ужо ў 1963 г. мастак стварыў серыю "Беларусь спартыўная", якая складаецца з 10 аркушаў, выкананых у тэхніках вугаль, сангіна, акварэль, тэмпера. Аўтар працаваў у стылі неафатаграфікі, дзе выява перададзена з дапамогай фотаапарата, з'яўлялася толькі асновай для далейшай працы і стварэння закончанай кампазіцыі. Мастак уключыў у серыю вельмі выразны ансамбль такіх спаборніцтваў, як футбол, бокс, штанга, гарадкі, лыжы, веславанне, перацягванне каната. Асноўны пасыл — паказ моцы, смеласці, трывушчасці духу чалавека. Прытым графічныя аркушы абавязкова ўключалі характэрныя станы прыроды, інтэр'еры спартыўных залаў. Завяршыў серыю аркуш "Пераможцы" (1968) з выявай трох мужчынскіх постацей на фоне сцяны новага грандыёзнага стадыёна "Дынама" ў Мінску. Удалося В.Ждану ўзбагаціць і карыкатуры ў "Вожыку" сваім бачаннем тэматыкі, аб'яднаўшы спартыўнае і інтымнае жыццё горада. Напрыклад, у процівагу баксёрам, футбалістам ды іх балельшчыкам, ён стварае вобраз мажнай жанчыны, якая за свайго мужа гатовая пабіць усе рэкорды, а дзеля яго абароны ў ролі баксёра здатная пайсці на ўсялякія ахвяры. Мастак пазначыў арыгінальны кантраст паміж штангістамі і чыноўнікамі-бюракратамі, якія мараць пра магутную вагу сваіх уплываў і аўтарытэтаў. Але спартыўныя перамогі наўрад ці можна параўнаць з іх дробнымі амбіцыямі...


*Віктар Ждан "На стадыёне дождж" (акварэль, туш, 1962).*

Вялікі ўнёсак у развіццё тэмы спорту зрабіла сям'я мастакоў Волкавых. Плённа працаваў над вобразамі веласіпедыстаў А.Волкаў. Быў перакананы, што гэты від спорту неабмежаваны адмысловай спартыўнай пляцоўкай і яму належыць прастора зямлі. Спартсмены на яго акварэльным аркушы "Веласіпедысты" (1960) імкнуцца ў бязмежную далячынь, і перад імі разгортваецца бясконцы далягляд.


*Віктар Ждан "Дык гэта ты будзеш біцца з маім мужам?" (акварэль, туш, 1962).*

Мастаку ўдалося адлюстраваць аптымістычнае адчуванне руху да новых здзяйсненняў, характэрнае для нашага жыцця ў 1960-х. Дачка мастака — І. Волкава — адна з першых захапілася рамантычным аспектам коннага спорту ў знанай Ратамцы пад Мінскам. Ёю створана серыя адметных вобразных кампазіцый у трыпціху "Ратамка" (1983), дзе вершнікі імчаць на вольнай прасторы, а некаторыя спартсмены чакаюць сваіх чатырохногіх сяброў, рыхтуюцца да спаборніцтва і г.д. А вось у ілюстрацыях С. Волкава да дзіцячых кніг спартыўная тэматыка часта раскрываецца праз матывы адпачынку і радасных дзіцячых гульняў. А на старонках часопіса "Вожык" С.Волкаў афарбоўваў спартыўную тэматыку цёплым, спагадлівым гумарам. У 1980-х у яго з'яўляюцца новыя творы, дзе вобразы спартыўных трэнераў, іх таленавітых і менш здольных выхаванцаў становяцца галоўнымі ў серыях пад назвай "Валейбол" (1979).

Адным з першых у асваенні тэмы аматарскага спорту, у прыватнасці, дваровага хакея, быў Я. Кулік. У сакавіку 1965 года адбыўся першы фінальны турнір спаборніцтваў "Залатая шайба". Найбуйнейшаму праекту спартыўнага клуба для хлапчукоў, што заклікаў гадаваць не толькі чэмпіёнаў, а перш за ўсё здаровую моладзь, — ужо шмат гадоў. Дзякуючы яму тысячы хлапчукоў далучыліся да хакея пад амбіцыйным дэвізам: "Сёння чэмпіянат двара — заўтра чэмпіянат свету". Сюжэт лінарыта "Хакеісты" (1965) Я. Кулік хутчэй за ўсё ўбачыў у жыцці. Адказны момант — розыгрыш шайбы. Віртуозныя лініі на паверхні лёду, накрэсленыя канькамі. Хлопцы занятыя сур'ёзнай справай. Але, як часта і ў жыцці, — важнае побач са смешным. На лёдзе пацешны момант: адзін з хакеістаў імкнецца захапіць шайбу зусім незвычайным спосабам. Гэты твор дэманстраваўся на ўсесаюзнай выстаўцы "Мастацтва — дзецям" у Маскве (1965), на міжнародных выстаўках у Германіі (1966, 1974), Балгарыі (1968), Францыі (1971).

Тэму пачатку фарміравання першых дваровых хакейных каманд увасобіў і гродзенскі мастак К. Пятроў у лінарыце "Каток у новым квартале" з серыі "Новы горад Гродна" (1967), якая дэманстравалася на ўсесаюзных выстаўках у Маскве, Вільні, Барнауле і на міжнароднай у Канадзе (1971). Кампазіцыя адпавядае стылю канструктывізму: тыповы гарадскі двор са шматпавярховым домам і слупом-дрэвам. Амаль кожны можа ўспомніць гэты знаёмы з дзяцінства атрыбут новага горада 1970 — 1980-х гадоў — хакейную каробку, усярэдзіне якой зімой з'яўлялася сапраўднае лёдавае хакейнае поле. Жыхары дома самі, вёдрамі ці з дапамогай шланга, залівалі дваровы каток. А вечарамі на ім збіраліся ўсе ахвотныя. І кожная дзяўчынка магла ўяўляць сябе знакамітай фігурысткай.

Аўталітаграфія П. Драчова "Балельшчыкі" (1965) з панарамай тыпажоў і характараў успрымаецца як адбітак асобнага культурнага пласта Мінска 1960-х. Гэта — адна з першых эліт сталічных балельшчыкаў, якая заўсёды мела сваё месца на стадыёне "Дынама". Твор экспанаваўся на ўсесаюзнай маладзёжнай мастацкай выстаўцы.

На рэспубліканскай выстаўцы "Фізкультура і спорт" музеем была набыта літаграфія А. Ціткова "Перад стартам" з серыі "Велагоншчыкі" (1975). Тут кожная фігура акрэслена індывідуальна, нібы аўтар твора ўвачавідкі бачыў гэты эпізод. Даволі выразна мастак перадаў постаці спартсменаў, псіхалагічную напружанасць атмасферы перад стартам; знайшлося месца і для вобраза заклапочанага трэнера.

Цікавыя і вельмі сучасныя работы серыі "Мінск" (1978) Л. Марчанкі — майстра гарадскога пейзажа. У трох творах манументальная архітэктура сталіцы перададзена з аўтарскім імкненнем да дакладнасці ў выяве прадметаў навакольнага свету і іх прасторавым размяшчэнні. Тапаграфічная дакладнасць, высокі ўзровень дэталізацыі аб'ектаў гарадскога пейзажа ўражваюць. Але вось мастак імкнецца ажывіць прэзентацыю горада, уключаючы невялікі, ды ключавы элемент спартыўнага спаборніцтва ў пейзажы "Вечар. Зіма" (1978). Гэта ўлюбёны для мінчан каток ля Палаца спорту. Ад белага лёду горад быццам падсветлены. Шэрыя грамады дамоў ажываюць і... нібыта ператвараюцца ў гледачоў, якім таксама ў халодны зімовы вечар робіцца цяплей і радасней ад вясёлай мітусні катка. Графічныя аркушы "Вячэрнія рытмы" і "Свіслач" вельмі сучасныя і кранальныя, нягледзячы на тое, што створаныя трыццаць гадоў таму! На мосце над Свіслаччу група імклівых веласіпедыстаў. Шкада, што аўтар не дажыў да нашага часу, калі веласпорт набыў у Мінску надзвычайную папулярнасць і для гэтага створаны асаблівыя ўмовы. У афорце "Свіслач" Л. Марчанка дапоўніў графічны вобраз Мінска выявай яго галоўнай ракі. Група спартсменаў на байдарках выдатна ажыўляе яе няспешную плынь. Створаны вобраз рэальнага горада: новага, вялікага, сучаснага.

"Казачная" праўда і нязгаснае свята самога дзяцінства — вось характэрная асаблівасць цыкла каляровых літаграфій "Пад палескімі дубамі" (1980) А. Лось. Кампазіцыя "Май", дзе занатаваны бег коней па пушчы, сярод лясных дрэў і птушак, з коннікамі-хлапчукамі. Тэма трактуецца мастачкай як гульня-спорт. Выразная метафара выклікае не толькі адчуванне рамантыкі дзяцінства, але і надзею на ажыццяўленне мар і памкненняў.

Прыкметнай з'явай беларускай прыкладной графікі, што адыграла значную ролю ў падтрыманні спартыўнага руху нацыі ў 1960-х, стаў плакат. Этапныя творы, якія былі шырока тыражаваныя, і сёння захоўваюць сапраўдную "спартыўна-мастацкую" форму. Аўтарам плаката "Каб цела і душа былі маладыя" (1975) стала Л. Кальмаева, У. Васюк стварыў плакаты, прысвечаныя алімпійскім гульням 1980 года ў Маскве. Плакат У. Крукоўскага "Мінск-80" таксама прысвечаны спаборніцтвам 1980 года. Увагу спартыўнаму турызму аддаў у плакаце "Лес — магутная крыніца здароўя" (1980) У. Жук.

Апошнім часам беларускі спорт дасягнуў шырокага міжнароднага прызнання. Спартыўныя спаборніцтвы не палярызуюць, а збліжаюць народы, бо спорт — вястун міру, ён выяўляе лепшыя якасці чалавека, скіраванага да ўдасканальвання, да гуманістычных перамог. І гэтая тэматыка ў беларускім мастацтве, якое рэагуе на дасягненні нашых спартсменаў, заўсёды будзе падсілкоўваць творчыя пошукі, натхнёныя адвечнай існасцю: дасканаласць нацыі не можа быць без сувязі мастацтва і спорту.

# Памяці вялікай Актрысы

**У філіяле Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры "Гасцёўня Уладзіслава Галубка" прайшла выстаўка "З павагай, назаўжды!", прысвечаная памяці народнай артысткі БССР і СССР Стэфаніі Станюты, ганаровага члена клуба "Прырода і фантазія", у які яна прыйшла сорак гадоў таму, дзе і цяпер захоўваецца каля сарака шэдэўраў вялікай артысткі.**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**


*Біжутэрыя, створаная рукамі Стэфаніі Станюты.*

Стэфанія Станюта была таленавітым чалавекам у розных сферах. Наведвальнікі гасцёўні маглі ўбачыць біжутэрыю, створаную рукамі артысткі. Эскізы самаробных упрыгажэнняў падказвала ёй сама прырода. Кожнаму вырабу яна аддавала часцінку сваёй душы.

— Беручы за аснову прыродны матэрыял, Стэфанія Міхайлаўна ўмела і разам з тым вельмі далікатна падкрэслівала яго хараство ў цікавых прадметах і адмысловых каралях, — распавёў кіраўнік клуба "Прырода і фантазія" Аляксандр Лейка. — Вызначыць, з якога матэрыялу створана тое ці іншае ўпрыгажэнне, адразу, мабыць, і не атрымаецца. Трэба добра прыглядзецца, каб заўважыць у вырабах насенне экзатычных раслін, костачку персіка, маньчжурскі арэх, плады вікі. А яшчэ Стэфанія Міхайлаўна любіла выкарыстоўваць шапачкі жалудоў, плады рабіны і шыпшыны, макарону рознай формы.

— Пасля таго, як я пайшла на заслужаны адпачынак, адчула нейкую пустату вакол сябе, таму вырашыла нечым яе запоўніць, знайсці карысны і цікавы занятак. Вось так і пачала ствараць упрыгажэнні для жанчын, — распавяла былы эканаміст, удзельніца гэтай выстаўкі Станіслава Шчаглова. — Пры стварэнні караляў выкарыстоўваю бісер, аздабляю вырабы карункамі, устаўкамі з металу і абавязкова ўключаю ў іх натуральныя камяні. Вядома, гэта вельмі карпатлівая работа. Але адчуваю вялікую радасць, калі сяброўкі, ідучы ў тэатр ці ў госці, упрыгожваюць маімі каралямі свае строі. Здаецца, што тым самым я раблю іх жыццё больш шчаслівым. Удзел у гэтай выстаўцы — вялікая радасць для нас і гонар, бо нашы сціплыя вырабы дэманструюцца побач з творамі Стэфаніі Станюты, якую мы добра ведалі і вельмі любілі. Калі яна стварала свае каралі, мы і не думалі, што таксама штосьці зможам. У мяне дома ёсць каралі Стэфаніі Міхайлаўны, якія яна ў свой час падаравала мне. Ім ужо больш як трыццаць гадоў. Вельмі добра памятаю, што ў любым узросце яна заўсёды была стройная, з прычоскай і абавязкова на абцасіках.


*Ніна Злобіч (злева) і Станіслава Шчаглова прадстаўляюць свае вырабы.*

Да нашай размовы падключылася яшчэ адна ўдзельніца выстаўкі ў "Гасцёўні Уладзіслава Галубка" — былая настаўніца Ніна Злобіч.

— Мая матуля была вельмі таленавітая і ўмела рабіць літаральна ўсё, — расказала майстар. — Менавіта яна дала мне першыя ўрокі па рукадзеллі. Спачатку я вязала пруткамі. Але потым давялося ездзіць у Асіповічы, каб дагледзець бацькоў. Там у вольную хвілінку сяду ў куточку і вяжу кручком. Тое ж самае ў электрычцы. Са Стэфаніяй Станютай асабіста не была знаёма, але добра памятаю яе па спектаклях. Апошні, які бачыла з яе удзелам, — "Верачка". Яна заўсёды выклікала ў мяне глыбокую пашану. Не любіць Стэфанію Міхайлаўну, не памятаць пра яе — проста немагчыма!

Напрыканцы імпрэзы слова ўзяла прафесар эканомікі, нявестка Стэфаніі Міхайлаўны Ірына Міхайлава-Станюта.

— Многія, мабыць, ведаюць, што Стэфанія Міхайлаўна нарадзілася ў сям'і мастака, — распавяла Ірына Аляксееўна. — Яна была не толькі вялікаю артысткаю, а мела яшчэ і пэўныя мастацкія здольнасці. Мне здаецца, калі б пачала пісаць карціны, то таксама дасягнула б вялікага поспеху. Але яна занялася вырабам караляў з прыродных матэрыялаў, прытым у той час, калі мала хто гэтым цікавіўся. Нават падчас адпачынку ў санаторыі Стэфанія Міхайлаўна збірала вакол сябе дзяцей, якія яе вельмі любілі і стараліся дапамагчы, і разам з імі назапашвала прыродны матэрыял для будучых шэдэўраў. У вольную часіну жыла менавіта гэтым заняткам. Калі іграла ў спектаклях, то вельмі любіла аздобіць сваімі каралямі сцэнічны касцюм.

*Да ведама*

# Дзень адкрытых дзвярэй

**Міра ІЎКОВІЧ**

**Сёлета ўпершыню ў беларускіх сядзібах плануецца правесці "Дзень адкрытых дзвярэй", запланаваны на 20 мая. Ініцыятарамі гэтай незвычайнай акцыі выступілі Беларускае грамадскае аб'яднанне "Адпачынак у вёсцы" і Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. "Дзень адкрытых дзвярэй" прапануецца праводзіць штогод і зрабіць яго своеасаблівым адкрыццём сезона.**

У гэты дзень можна будзе бясплатна наведаць любую аграсядзібу, якая ўдзельнічае ў акцыі, пазнаёміцца з пералікам паслуг, пачаставацца хатнімі "прысмакамі" і набыць адмысловыя сувеніры.

— Спадзяёмся, што падобнае мерапрыемства перад пачаткам летняга сезона прыцягне вялікую ўвагу да сельскага турызму і павялічыць колькасць тых, хто пажадае адпачыць менавіта ў вёсцы, — распавяла старшыня праўлення БГА "Адпачынак у вёсцы" Валерыя Кліцунова. — Сядзібы змогуць наведаць патэнцыяльныя турысты, прадстаўнікі СМІ, супрацоўнікі турфірм.

У рамках акцыі гаспадары аграсядзіб плануюць самыя разнастайныя праграмы: могуць правесці экскурсію па сваёй сядзібе, пачаставаць чаем з пірагамі ці сваёй фірменнай стравай, арганізаваць цікавыя мерапрыемствы і забаўкі. Гэта можа быць вясковае свята, прэзентацыя традыцыйнага мясцовага абраду, турыстычнага маршруту або правядзенне міні-фэсту і інш. Турысты, якія захочуць наведаць сядзібу, могуць патэлефанаваць гаспадарам загадзя і папярэдзіць пра свой прыезд.

— Усе сядзібы, якія зацікаўлены ва ўдзеле ў акцыі, ужо паведамілі пра свае планы і праграмы, — зазначыла Валерыя Кліцунова. — Іх спіс змешчаны на сайце БГА "Адпачынак у вёсцы".

*Афарызм*

*З кожнай мясціны зямлі можна пачаць дарогу.*

**Якуб КОЛАС**

*З глыбінкі*

## Юбілей «Прасніцы»

Святочна-юбілейнымі канцэртамі адзначыў 25-годдзе творчай дзейнасці народны ансамбль народнай песні "Прасніца" Каралёўскага СДК Уздзенскага раёна. Адзін такі канцэрт прайшоў на сцэне Цепленскага дома культуры. Другі юбілейны канцэрт "Прасніца" дала ў Каралёве, дзе яе сустрэлі шквалам апладысментаў — на канцэрт прыйшло больш як 200 гледачоў.

Здаецца, за такі доўгі час можна прывыкнуць да сваіх артыстаў, аднак кожнае выступленне праходзіць пры поўным аншлагу. Ды гэта і не дзіўна. Па-першае, на сцэне выступаюць чыесьці маці, жонкі, бабулі, а па-другое, кожная праграма калектыву непадобная да іншых, новая, па-свойму цікавая. І так — чвэрць стагоддзя...

За гэты час у ансамбля было каля паўсотні выканаўцаў. Нязменным жа кіраўніком яго заставаўся Алег Гусараў.

— 1 жніўня 1986 года, пасля заканчэння Інстытута культуры, я з жонкай прыехаў у Каралёва на працу, — успамінае Алег Мікалаевіч. — А ўжо ў верасні пачаў першыя рэпетыцыі самадзейны калектыў. Аснову яго склалі работніцы цэха мастацкіх вырабаў, які быў адкрыты ў Каралёве. Пазней яны і далі нашаму калектыву сваю фірменную назву — "Прасніца". Восем гадоў ішлі мы да звання "народнага". Цяпер у рэпертуары ансамбля каля сотні песень.

Калектыў можна пабачыць на ўсіх раённых мерапрыемствах, але самай знамянальнай падзеяй для "Прасніцы" за апошнія гады стаў удзел у абласным фестывалі "Напеў зямлі маёй", які традыцыйна праходзіць у Мар'інай Горцы.

**Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ,**
**Уздзенскі раён**

## Падзяліся кнігай

Нядаўна ў школе № 1 г.п. Рось Ваўкавыскага раёна прайшла акцыя "Падары кнігу дзецям". Школьнікі і іх настаўнікі сабралі кніжкі для дзяцей з сацыяльнага прытулку. У гэтую бібліятэчку ўвайшлі і вясёлыя яркія кнігі для зусім маленькіх, і прыгодніцкія раманы, і аповесці для падлеткаў, і сур'ёзная класіка сусветнай літаратуры для старшакласнікаў. Многія кнігі былі падпісаны былымі ўладальнікамі — каб добрыя пажаданні першыя "сустракалі" чытачоў з прытулку. Радасць і цёплыя словы ў адрас дарыцеляў пацвердзілі ў чарговы раз: "Той, хто ўмее дзяліцца, узамен атрымоўвае яшчэ больш".

Кожны чалавек у сваім жыцці можа сустрэцца і пасябраваць з кнігай, якая мусіць прыйсці да яго, як бы ні склаўся лёс. Таму так неабходныя падобныя акцыі: яны дораць дзецям, што патрапілі ў бяду, сяброў на ўсё жыццё.

**Таццяна ГАЗІЗАВА,**
**Ваўкавыскі раён**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2853
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 10.05.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 20240
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686